# ПОЛАЦАК

ВЫДАНЬНЕ БЕЛАРУСКАГА КУЛЬТУРНА-
АСЬВЕТНІЦКАГА ЦЭНТРА
КЛІЎЛЕНД
ЗША



№4(14), 1992

# Polacak

Published with the financial support of the parish
Mother of God of Zyrovicy,
Cleveland, Ohio, USA.



Прозьвішчы падпішчыкаў і ахвярадаўцаў рэдакцыя
будзе публікаваць у часопісе.

All correspondence should be addressed to:
S.Belaia or M.Bielamuk,
10915 Lake Rd., Cleveland, Oh. 44102, USA.
Tel. (216) 651-3451





На першай бачынцы вокладкі: **Аляксей Кузьміч** Еўфрасіньня.
На развароце. **Андрэй Карпук** Спаса-Еўфрасінеўскі манастыр
На трэцяй бачынцы. **У. Ліхачоў**, Полацкая Сафія, 1961 г..
На чацьвёртай бачыцы: Да 75- годзьдзя з часу сьмерці М.Багдановіча.
**Генадзь Грак**, Слуцкія ткачыхі.

# З пасланьня Сынода Беларускага Экзархата напярэдадні 1000-годзьдзя  Праваслаўнай Царквы ў Беларусі 

Бацькаўшчына і народ наш перажываюць адказны і цяжкі час, і таму цяпер асабліва важна ўсьвядоміць яўлены чалавечаму роду цуд міласьці Бога Айца.

Будзем маліць Бога, каб гэтая праўда пра Вечнае Жыцьцё, угатаванае нам у Хрысьце, з дамысловаю сілаю адгукнулася ў сэрцах жыхароў беларускай краіны, якая тысячу гадоў таму назад прыняла апостальскую мілату праз пастаўленьне праваслаўнага япіскапа ў старажытным г. Полацку. Менавіта 1000 гадоў назад у 992 годзе пераможны голас Евангельскай пропаведзі пра збавеньне ў Хрысьце ва ўсёй паўнаце сваёй дасягнуў нашай Бацькаўшчыны. І таму, дарагія суграмадзяне, 1992 год нам з вамі — год юбілейны, сьвяточны, дабраславёны.

Заснаваньне Полацкай эпархіі дало пачатак ня толькі царкоўнаму ўладкаваньню на беларускай зямлі, але зьявілася і найважнейшай пачатковай падзеяй у грамадзянскай гісторыі Беларусі. З утварэньнем япіскапскай кафэдры Полацак стаўся духоўным цэнтрам, зь якога пашыралася сьвятая хрысьціянская вера — аснова маральнага адраджэньня беларускага народу. Ужо ў 90-х гадах X стагодзьдзя пачало зароджвацца ў Полацкай зямлі паслушніцкае жыцьцё, якое праз кароткі час дасягнула нечуванага росквіту. Сярод першых яго сэйбітаў па годнасьці стаіць імя прэпадобнай Еўфрасіньні, ігуменьні Полацкай...

Заснаваньне Полацкай эпархіі адначасова зь дзяржаўным будаўніцтвам сьцярджала ў гэтым княстве яго самастойнасьць і паступова ўводзіла яго ў сям'ю эўрапейскіх народаў. Пашыраючы хрысьціянства ў старажытнабеларускіх землях, Праваслаўная царква кіравалася ўсходняй традыцыяй. Гэтая традыцыя мае ў аснове захаваньне і разьвіцьцё нацыянальнай культуры і мовы, што дае магчымасьць усім народам успрымаць і выказваць слова Божае на іх роднай мове і што па-майстэрску пацьвердзіў сваім перакладчыцкім і выдавецкім подзьвігам славуты сын горада Полацка Франьцішак Скарына.

Узьнясём-жа хвалу і падзяку Таму, Хто нарадзіўся, уваскрэс і Сабою ўсё ўваскрэсіў, Госпаду Ісусу Хрысту, за яго прабываньне з намі і годасна ўчынім сьвяткаваньне 1000-годзьдзя Сьвятога Праваслаўя на Беларускай Зямлі!

Мы спадзяёмся, што ў нашых ўрачыстасьцях, якія адбудуцца 25-27 верасьня 1992 года, возьмуць удзел праваслаўныя хрысьцяне зь іншых дзяржаваў і замежных краін, каб адзіным сэрцам і адзінымі вуснамі сьведчыць на старажытнай зямлі Белай Русі паўнату ісьціны, сьвятасьці і мілаты, якімі жыве Сьвятая Праваслаўная царква. Амінь.

**✝ Філарэт, Мітрапаліт Менскі і Горадзенскі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі,**

**✝ Максім, Архіяпіскап Магілёўскі і Мсьціслаўскі,**



**✝ Канстантын, япіскап Берасьцейскі і Кобрынскі,**

**✝ Дзімітры, япіскап Полацкі і Віцебскі,**

**✝ Стэфан, япіскап Пінскі і Лунінецкі,**

**✝ Арыстрах, япіскап Гомельскі і Мазырскі.**



# Жыціе и жыцьцё сьвятой Еўфрасіньні, ігуменьні Полацкай

 Аляксей Мельнікаў 



Еўфрасіньня Полацкая. Мастак Арлен Кашкурэвіч

Нібы праз цьмянае шкло былых стагодзьдзяў паўстае прад намі постаць сьвятой полацкай князёўны Еўфрасіньні, чыё духоўнае дзеяньне ў час, калі было, многа жніва, але мала працаўнікоў, абумовіла ўзьлёт культуры ў межах усходніх славян, узыход, які мог бы звацца першым Адраджэньнем, калі-б мэтазгодны быў сам гэты тэрмін у дачыненьні да земляў Беларусі.

Нарадзіўшыся каля 1101 году (даты даем згодна храналёгіі Тацішчава) у княскім доме дынастыі Ізяславічаў, ад малодшага сына дзёрзкага нешчасьліўца Ўсяслава II —Сьвятаслава (?) Георгія й яго жонкі Сафіі (?), Прадслава, названая так на ўспамін аб былой, «предней» славе Полацака, успадкавала ад продкаў ня толькі фамільныя скарбы і радавую частку імя– «слава», але і валявы, дзейсны й незалежны характар. Госпад даў юнай князёўне, з маленства спазнаўшай кніжныя пісаньні («бо была такой любасьніцай вучэньня, што дзівіўся айцец яе любові яе да вучэньня»), неспакойную душу, што імкнулася да Спакою. Прадслава выракаецца звычайнага лёсу, абмежаванага жаночай паловаю церама, адмаўляецца ад дынастычнага шлюбу, прыгатаванага яе айцом па дасягненьні дачкою паўналецьця (12-гадовага ўзросту), і вырашае пайсьці да канца немаркотным шляхам Божай любові: «*Што ўчынілі быўшыя да нас роды? Жаніліся і выходзілі замуж і княжылі, але ня вечна жылі, жыцьцё іх працекла і слава іх загінула нібы прах і горай за павуціньне. А вось ранейшыя жанчыны, што ўзялі мужчынскую моц і пайшлі*

*сьледам за Хрыстом, Жаніхом сваім, аддалі целы свае на раны і галовы свае пад меч, а іншыя калі і не схілілі шыі свае пад жалеза, дык мечам духоўным адсеклі ад сябе плоцевыя асалоды, аддаўшы целы свае на пост і няспаньне, і каленнае пакланеньне, і зямныя лежаньні, яны памятныя на зямлі, і імёны іх напісаны на нябёсах, дзе з ангеламі безупынна славяць Бога»*,— разважала ў сэрцы князёўна.

І вось Прадслава неўзабаве пасьля 1113 году, году сьмерці Рамана Ўсяславіча, патаемна ад бацькоў пастрыгаецца зь імем Еўфрасіньні ў манастыр сваёй цёткі, удавы князя Рамана. Апранаецца сьпярша ў іспытныя, а пасьля і ў манаскія рызы і зьдзяйсьняе першыя подзьвігі хрысьціянскай пакоры, адмаўленьня ад уласнае волі і прынашэньня яе ў бяскроўную жэртву да Ісуса.

Праз колькі часу, з благаславеньня япіскапа Ільлі (хіратанізаваны пасьля 1116 г., магчыма, у 1120 г.) Еўфрасіньня, з маленства узлюбіўшая мудрасьць (sophia) пасяляецца ў келейцы полацкага сабора сьвятой Сафіі, нібы аддаючы сябе пад містычны пакроў Мудрасьці Божай, дзе й пакладае пачатак асьветніцкаму свайму падзьвіжніцтву («пачала кнігі пісаць сваімі рукамі»), працуючы ў храмавым скрыпторыі, верагодна, ёю-ж і заснваным ,перапісваючы, а напэўна і перакладаючы кнігі (найперш богаслужбовыя, а таксама працы айцоў царквы, жыцьці сьвятых і г.д., з творамі якіх была добра знаёма) і раздаючы прыбытак ад іх продажу на дабрачынныя мэты.

Аднойчы, калі Еўфрасіньня спачывала ў кельлі—галбцы, пасьля стаяньняў на ночнай малітве да нябеснага айца, «*Айцец яе, які бачыць таемнае, уздаў ёй яўнае*» (Мф. 6:6) абвясьціўшы праз ангелаў волю сваю 24-гадовай (?) князёўне, наказаў ёй узьвесьці, збудаваўшы глінянаю цэглай і мысьленнымі плінфамі сьвятых словаў, **«дом, пра які Госпад сказаў: Будзе імя Маё там»** (4 Ц. 23:27).

Так, блізка каля 1128 г., у Сяльцы пад Полацкам, на месцы мятохіі сьвятой Сафіі, у япіскапскай воласьці, дзе былі пахаваны полацкія архірэі, паўстала жаночая абіцель Сьвятога Спаса, з сваёй кнігапіснай майстэрняю, бібіліятэкай і школай. Жыхары навучаліся чытаньню й Слову Божаму, ліку і нотнай грамаце, але найболей— добраснаму жыцьцю ў Хрысьце. У манастыры гэтым па дасягненьні паўналецьцця пастрыглася зь імем Еўдакіі малодшая сястра Еўфрасіньні Градзіслава («Грядущая слава»). Уражаная прыкладамі дабрачэсьця, яўленымі ў агароджы дома Хрыстовых нявест і пажадаўшая, як і яе старэйшая сястра, не апутаць душу сваю шлюбам зямным, а ўспрыняць на сябе лёгкі цяжар Хрыстовы.

Гэта быў час, калі на дом полацкіх князёў пралілася поўная чаша гневу Гаспадава, калі асуджаныя кіеўскім Мсьціславам за свае сэпаратысцкія імкненьні, Усяславічы—Давід, Расьціслаў, Сьвятаслаў і двое сыноў Рагвалода Барысавіча з жонкамі і дзецьмі—былі сасланы ў Бізантыю на службу да імпэратара Іана Комніна: змагацца з сарацынамі. Застаўшыся ў гэты нядобрачасоўе без падтрымкі сямейнікаў, у абіцель да Еўфрасіньні прыходзіць яе стрыечная сястра Звеніслава, дачка памёршага ў 1128 г. Барыса Усяславіча, успрыняўшы ў пастрыгу імя Еўпраксіі.

Гэта былі тыя дзесяць гадоў з 1120 па 1139, калі толькі цьвёрдасьць духу, шчырая малітва ды заступніцтва Божае не наблізілі Еўфрасіньню да сьмяротнага грэху адчаю, узмацнілі яе ў руплівасьці на ўладкаваньне манастыра і душаў яго насельніц.

Калі-ж мінулі тыя гады, князёўна-ігуменьня як падзяку за шчасьлівае выр-

таньне сваіх родзічаў з сылкі, з божага волевыяўленьня, азнаменаванага дзівам, узводзіць на месцы старой драўлянай Спасавай царквы новы каменны храм Уседзяржыцеля, працай абранага Богам дойліда і падрадчыка Іана. Гэты-ж «прыстаўнік над дзейнікамі царкоўнымі» Іан, магчыма, будуе для Еўфрасіньні каля 1155 году і царкву Багародзіцы, пры якой сьвятая князёўна засноўвае мужчынскі манастыр.

Менавіта для гэтай царквы прэпадобная ігуменьня вырашае набыць цудатворную ікону Адзігітрыі Эфэскай, за якой пасылае у Царград да імпэратара Мануіла I (1143—1180) і патрыярха Лукі Хрызоверга (1156-1169) свайго «слугу» (настаяцеля Багародзіцкага манастыра?) Міхаліла. Адбываецца гэта, праўдападобна, у 1156-1160 г. і дае нам падставы меркаваць, што Міхаіл выконваў і пэўную дыпляматычную місыю, даручаную яму полацкім япіскапам —грэкам Казьмою, які адчуў для сябе небясьпеку пасьля скону свайго патрона, расейскага мітрапаліта Канстантына, і актывізацыяў дзейнасьці главы «русыфільскага» руху ў пытаньні аб самастойнасьці расейскай мітраполіі — Кліма Смаляціча.

З гэтага падарожжа прывозіць Міхаіл часткі дрэва Сьвятога Крыжа, крыві сьвятога Дзімітрыя, мошчаў сьвятых Стэфана і Панцеляймона й іншыя сьвятыні, рэліквіяр для якіх у форме напрастольнага крыжа быў выкананы па замове Еўфрасіньні ў ювелірнай майстэрні мужчынскага Багародзіцкага манастыра манахам Лазарам, па мянушцы Богша. Гэты шматкаштоўны (цаною ў 40 грыўнаў) крыж не згадваецца невядомым сьпісальнікам жыція Еўфрасіньні, і гэта ўскосна сьведчыць аб багацьці уладкаваных ігуменьняй манастыроў і цэркваў, сярод аздабленьня якіх крыж Еўфрасіньні зьяўляўся нечым неасаблівым, каб быць згаданым у жыціі яго нешматслоўным аўтарам. Манастыры-ж, створаныя прэпадобнай князёўнай, зрабіліся сапраўднымі цэнтрамі культуры й дабрачыннасьці на нашых землях, бо зьмяшчаліся ў іх іканапісная і ювелірная майстрэні, скрыпаторыі, вучыльні, дзе насельнікі, а магчыма, і месьцячы, маглі атрымаць не такую ўжо частую на тыя часы адукацыю ў навуках, мастацтвах і, што найболей важна, у прынцыпах добраснага жыцьця. Відавочна, у гэтых манастырах былі напісаны пазьней жыціе і служба сьвятой Еўфрасіньні. Уласна, і самой маці-ігуменьні не была чуждая літаратурная праца. Яна складала і, быць можа, запісвала малітвы і дыдактычныя пропаведзі, што мелі эсхаталягічны характар, адпаведны духу таго часу: «*Вось сабрала вас нібы птушанятаў пад крылы мае, у паствіну нібы авец, каб пасьвіліся ў запаведзях Божых, каб і я сэрцам вясёлым навучала вас, бачачы плён вашай працы. Але вашыя нівы ў той-жа меры стаяць, не ўзрастаючы ўгору, а год ідзе да сканчэньня, і лапата ляжыць на гумне. Баюся, што будзе ў вас пустазельле і аддадзены будзеце агню непагаснаму. Пастарайцеся -ж пазьбегнуць яго, учыніце сябе пшаніцаю чыстаю, зьмяліцеся ў жорнах уміранасьці, малітвамі і пастом, каб хлебам чыстым прынесьціся на трапезу Хрыстову*[1]» – так павучае настяцельніца сваіх духоўных дачок, незадаволеная іх рупнасьцю ў падзьвізаньні.Спасылаючыся на аўтарытэт Рыгорыя Багаслова і Васілія Кесарыйскага, Еўфрасіньня вучыць манахіняй запаветам гэтых блажэнных мужоў: «*Старых вучыла цярплівасьці й ўстрыманьню, юных —духоўнай чысьціні і безграхоўю цялеснаму, гавеньню добраснаму, ступаньню ціхмянаму, голасу уміранаму, слову дабрачэснаму, ядзеньню і піцьцю маўкліваму; пры*

*старэйшых маўчаць, мудрэйшых слухаць, да старэйшых пакоры, да роўных і меншых любові некрывадушнай, мала казаць, а болей разумець»*;

Вядома, была Еўфрасіньня сваім суайчыньнікам і як справядлівы судзьдзя, радца і міратворца: *«Быў бо дар Еўфрасіньні ад Бога: калі хто пытаў яе аб чым-небудзь, яна яму адказвала, і хто слухаў яе, атрымліва ў даброты. І не хацела бачыць каго варагуючага: ні князя зь князем, ні баярына з баярынам, ні з простых каго са сваім сябрам, а ўсех хацела бачыць адзіндушнымі»*. Менавіта ў гэтай якасьці князёўна-ігуменьня накіроўваецца пры сконе жыцьця (далучыўшы перад зыходам да ліку Хрыстовых нявестаў пляменьніц сваіх Кірынію і Вольгу Вячаслаўнаў) у паломніцтва па сьвятых мясьцінах. У гэтым сваім падарожжы яна несла пропаведзь міра й яднаньня ў Хрысьце Ісусе князем-суседзям, «прымаючы ад іх чэсьць вялікую» і, верагодна, разьлічвала праз пасрэдніцтва патрыярха сьцішыць чарговы ўсплёск варожасьці паміж Ізяславічамі і кіеўскімі Яраславічамі ў сярэдзіне 60-х гадоў. Яна і сапраўды атрымлівае аўдыенцыю ў патрыярха Лукі, накіраваная да яго Манілам Комнінам, пасьля таго, як яе абоз сустрэўся з войскам імпэратара (які ішоў у свой апошні паход на венграў) у сярэдзіне красавіка 1167 г. У час аўдыенцыі, відавочна, князёўна просіць сьвяцейшага заступніцтва за зямлю сваіх продкаў і эпархію Полацкую, узначаленую новым уладыкам Дыянісіем (хіратанізаваны, мажліва, у 1166 г.)

Гэта была апошняя дзея Еўфрасіньні ў яе зямным быцьці. Прыйшоўшы з Царграда ў горад пакутаў Спасіцеля, зьнясі-ленная падарожжам, прэпадобная полацкая ігуменьня ў ноч з 23 на 24 травеня 1167 г, атрымала вечны супакой у дольнім Ерусаліме, перадаўшы сваю душу ў рукі Бога Нябеснага. У Ерусаліме і была пахавана ў манастыры сьвятога Феадосія. Яшчэ праз дваццаць год расейскія манахі ў Ерусаліме перанеслі яе мошчы і паклалі іх і Феадосіевых пячорах Кіеўскай лаўры, дзе да 1910 г.—часу перанясеньня на зямную радзіму—і спачывалі нятленныя мошчы прэпадобнай Еўфрасіньні, цёплай малітоўніцы за свой край перад Нябесным Уладарам.

Усякі, хто сутыкаецца зь гісторыяй, раней ці пазьней прыходзіць да таго сумнага вываду, што амаль кожнаму факту можна даць па меншай меры два аднолькава праўдападобныя, але процілеглыя вытлумачэньні. Пагэтаму ўсё, што мы наймянуем старжытнай гісторыяй, зьяўляецца міфам, створаным летапісцамі й біёграфамі (ніколі не аб'ектыўнымі пры апісаньні ўсьведчаных імі падзеяў) гістарыяграфамі мінулых вякоўі гісторыкамі нашага часу, якія прапануюць парой супрацьлеглыя інтэрпрэтацыі адных і тых-жа фактаў, пакідаючы за намі права самім выбіраць і, як гэта нядзіўна гучыць, самім стварыць для сябе даўніну свайго народу — яго звычаяў, яго культуры, яго славы. Таму ў пэўным сэнсе слова фактаграфічным міфам зьяўляецца і наша спроба апісаць жыцьцё сьвятой Еўфрасіньні, ігуменьні Полацкай. І нам застаецца адно спадзявацца, што створаны намі міф не надта далёкі ад праўды, і не прыдзецца нам пачуць сказанае пра нас словам прарока: *«Вось, ілгарская трысьціна, кніжнікаў усё навярнула ў ілжу»* (Ер. 8:8), і ускладаць спадзяваньні на тое, што подзьвіг прэпадобнай князёўны, асьветніцы і міратворцы, гэтак-жа правільна будзе напісаны ў сэрцах народаў, як упісаны ў тым зьзяючым сьвеце, якому імя—Вечнасьць.



# Духоўнае значэньне крыжа прэпадобнае

а.Міхал Уляхін

Перш чым пачаць размову аб духоўным значэньні крыжа прэпадобнае Еўфрасіньні, трэба вызначыць паняцьце духоўнасьці. Зараз пайшла мода называць духоўным ўсё, што адносіцца да культуры: мастацтва, дойлідства, сьпевы, скокі, канцэрты рознай сьвецкай музыкі і г.д. Усё гэта можа быць духоўным, але толькі матэрыяльным выразам народных талентаў або быць «духоўным» ад другога духа. Бо духоўнасьць духоўнасьці—розьніца. Сапраўдная духоўнасьць паходзіць ад уплыву Сьвятога Духа, які ёсьць «Дух истины» (праўдзівасьці), «сокровище благих» (скарбніца ўсяго добрага), «и жизни податель» (жыцьця падавацель), вядома, жыцьця ў Бозе, жыцьця, вечнага з Богам.

Матэрыяльныя каштоўнасьці могуць быць таксама духоўнымі, калі яны адлюстроўваюць дзейства сьвятога духа на чалавека, калі яны ўзвышаюць яго дух, калі яны робяць яго лепшым, дабрэйшым, прыводзяць яго да Бога, вучаць яго збаўляцца ад яго грахоўных навыкаў, робяць яго сынам царства Божага. Гэтыя духоўныя каштоўнасьці заўсёды праўдзівыя, без усякай цені хлусьні, даступны ўспрыняцьцю сэрцам чалавечым, простым, як сама праўда.

А ёсьць духоўнасьць зусім іншага парадку. Бо ёсьць і другія духі, злыя духі, сатанінскія. Мы часта зьмешываем духоўнасьць сапраўдную, паходзячую ад сьвятога духа, з духоўнасьцю ілжываю, паходзячую ад сатаны, які таксама ёсьць дух, але супраціўляючыйся Богу. І вядзе такая «духоўнасьць» да пеклу, якое ў чалавека пачынаецца ўжо на зямлі. Чалавек становіцца ад такой «духоўнасьці» зьверападобны, любячым толькі самога сябе, неміласэрным, хітрым, ілжывым, любячым цешыць толькі сябе мнімай прыгажосьцю, мнімым задавальненьнем свайго грахоўнага сэрца, цешыць прывабнасьцю таго, на што глядзяць вочы яго, жадаючым усё захапіць для сябе любым чынам. Ён сам пакутвае, і ад яго другія пакутваюць. Бо той, хто натхняе людзей сваёй духоўнасьцю, д'ябальскай духоўнасьцю, за каторай ганяюцца людзі і любяць яе, як сказаў нам Гасподзь наш Ісус Хрыстос: «*Быў чалавеказабойца спрадвеку, ад пачатку, сам не ўстаяў у ісьціне, бо няма ў ім ісьціны, калі кажа ён лож, ману, кажа ад сябе, бо ён ілжэц і бацька ілжы*»(Ін. 8, 44). Сапраўды, духоўныя творы мастацтва павінны вясьці да духоўнасьці,да ачышчэньня,прасьвятленьня, ума цаваньня нашых сіл дзеля тварэньня дабра людзям, дзеля выратаваньня чалавека.

«*Ня хлебам адзіным жыў будзе чалавек божы. Але ўсякім словам, паходзячым з вуснаў Божых*» (Мф. 4,4), —адказаў наш Гасподзь духу Лукаваму, які, спакусаючы яго, прапанаваў яму зрабіць і камні хлебамі. Але тыя-ж камні, простыя і каштоўныя, тыя-ж матэрыяльныя рэчы з дрэва, фарбы, мэталаў, тыя мастацкія творы, зробленыя простымі людзьмі, тыя-ж сьпевы і г.д. — могуць насіць на сабе адбітак Сьвятога Духа і быць духоўнымі і духаносньмі. Гэта — храмы, і ўсё, чым яны аздобленыя, сьвятыя іконы, крыж, адным словам, усё, што праўдзіва адлюстроўвае тое, што паслужыла нашаму збаўленьню ад грэху, пракляцьця і вечнай пагібелі. Адной з такіх духаносных рэчаў і зьяўляецца крыж, які замовіла прэпадобная Еўфрасіньня і які зрабіў славуты мастак свайго часу Лазар Богша.

Чаму крыж і менавіта ў такім выглядзе, у якім ён быў зроблены па замове прэпадобнае? Чаму нават клятваю абгарадзіла яна яго, каб ён нікуды і нікім ня мог быць вынесены зь яе манастыра?

† въ лѣ҇ ҂ѕ҃· и· х҃ѯ҃ѳ покладаєть ѡфро-
синья чьстьнꙑи кр҇тъ· въ манастꙑри сво-
ємь· въ црк҇ви· с҇тго сп҇са· чьстьноє дрѣво
бесцѣньно єсть· акованьє єго· злото· и
серебро· и камѣньє· и жьнчюгъ· въ· р҃ гри-
вьнъ· а др..... м҃· гривнъ· да не изне-
сѣтьса из манастꙑра· никогдаже ꙗко
ни продати· ни ѿдати· аще се кто прѣ-
слоушаєть· изнесѣть и ѿ манастꙑра
да не боуди ємоу помощникъ· чьстьнꙑи
кр҇тъ ни въ сь вѣкъ ни въ боуд.щии·
и да боудеть проклатъ с҇тою животво-
рѧщею троицею· и с҇тꙑми ѿц҇и· г҃· и· ѯ҃·
семию съборъ с҇тꙑхъ ѿц҇ь· и боуди
ємоу часть съ июдою· иже прѣда х҇а·
кто же дрьзнеть сътвори с.... власте-
линъ· или кнѧзь· или пискоупъ· или
игоумѣнья· или инъ которꙑи любо ч҇лвкъ
а боуди ємоу клатва си· ѡфросинья же
раба х҇ва· сътѧжавъши кр҇тъ сии· прии-
меть вѣчную жизнь съ вс҇ѣ.и с҇......

*«Лета 6669 (1161) пакладзець Еўфрасіньня чэсны крыж у манастыры сваім у царкве Сьвятога Спаса, чэснае дрэва бясцэннае, што ёсьць акована золатам і срэбрам і каменьнямі і жэмчугам ў грыўнах а ... Да не выносится із манастыра ніколі, таксама не прадаці, не аддаці. Калі гэтага хто не паслухае: вынясець (<яго>-Рэд.) з манастыра ды ня будзе яму памочнікам чэсны Крыж ні ў (<гэтым> —Рэд.) веку ні ў будучым і да будзе пракляты сьвятою жыцьцятворчаю Троіцаю і сьвятымі Айцамі і сям'ю саборамі сьвятых Айцоў і будзе яму лёс Іуды і (<стане> —Рэд.) перад Хрыстом. Хто-ж асьмеліцца: ці гэта уладар, або князь, або біскуп, або ігуменьня, або іншы каторы любы чалавек, — то будзь яму клятва гэта. Еўфрасіньня-ж, раба Хрыстова, зрабіўшы крыж гэты, прыме вечнае жыцьцё з усімі сьвятымі.» —Рэд.)*

Крыж гэты, зроблены ў 1161 годзе і меўшы ў дліну 11 і 3/4 вяршка, папярэчына—цітла —3 вяршка, 2-я папярэчына —4- і 5-восьмых вяршка, як бачна з надпісу. Аздоблены ён быў золатам, срэбрам, пэрламі і каштоўнымі каменьнямі. Зроблены ён быў з такім мастацкім густам, што майстар нават увекавечыў сваё імя ў выглядзе малітвы: «*Господи помози рабу твоему Лазарю нареченному Богши сделавшему крест сий церкви святога Спаса и Офросиньи*».

Але не гэта складала галоўную духоўную каштоўнасьць крыжа. Бо інакш не было-б і сэнсу абараняць гэты крыж такім заклыцьцем, забараняць каму-б то ні было, выносіць гэты крыж зь сьцен манастыра. У чым-жа духоўная каштоўнасьць гэтай сьвятыні? Крыж — сымбаль нашага збаўленьня. З ганебнага сродка пакараньня самых вялікіх злачынцаў Рымскай імпэрыі крыж ператварыўся для нас у знак самаахвяраваньня Сына Божага дзеля яго вялікай любові да людзей. Пакуты на ім Хрыста прыносяць нам ачышчэньне ад граха, збаўленьне й аслабленьне чалавека ад рабства граху. Гэтыя пакуты прынеслі людзям выкуп, дараваньне нам віны ад нашых грахоў. Прымірэньне нас з Богам, узнаўленьне саюза паміж чалавекам і Богам і абяцаньне вечных радасьцяў, збаўленьне чалавека ад улады граха над ім, ад улады сатаны.

Для таго прэпадобная Еўфрасіньня і зрабіла гэты крыжа, паклала ў пабудаваным ёю храме і абараніла яго сваёю клятваю, бо хацела, каб гэты крыж не пакідаў храм і манастыр. Яна хацела, каб ён заўсёды нагадваў сёстрам манастыра і прыходзячым ў яго палачанам аб гэтай вялікай ахвяры, якую прынёс за нас на крыжы Богачалавек Ісус Хрыстос. І каб мы заўсёды жадалі быць у еднасьці зь ім, бо толькі еднасьць зь ім зьяўляецца прычынаю нашага збаўленьня, напаўняе нас невычарпальнай жыцьцёваю сілаю, якая зыходзіць ад Хрыста, нашага шляху, нашай праўды і жыцьця (Ін, 14,-6).

Акрамя таго, што сам гэты крыж зьяўляецца сымбалем нашага збаўленьня, прэпадобная зьмясьціла ў ім рэчавыя доказы пакут Хрыстовых—частку з сапраўднага жыватворнага крыжа Господня, нават з кропляю боскай крыві на ёй—з надпісамі: «Дрэво Животьное» і «Кровь Христова». Над той часткаю, дзе напісана:«Кровь Христова», ёсьць залаты чатырохканцовы крыжык, а на баках яго — чатыры крыжыкі з надпісамі ў іх: **ІС ХС НІ** КА, што значыць — Ісус Хрыстос перамог. А над тым месцам дзе напісана «Древо Животьное», залаты шасьціканцовы крыжык. Усе гэта — з правай стараны. Зьлева: «От гроба пресвятыя Богородицы».Гэта значыць, што тут зьмясьцілі часьцінку камня з Гефсыманіі, ад гроба, у якім калісьці была пахаваная Маці Божая. Над гэтай часьцічкай камня — іконка прэсьвятой Багародзіцы з прадвечым дзіцяткам. Затым надпіс: «Гроб Господень». Там часьцічка жыватворнага гробу Господня — каменчык зь яго. Затым: «Моще святого Стэфана», таго самага архідыякана і першапакутніка, якога пабілі камнямі ў Іерусаліме за сьведчаньне аб яго боскай славе.

Далей: «Кровь святого Димитрия» Салунскага вялікапакутніка, меўшага пакуты за Хрыста. «Моще святого Пантеленмона», таксама вялікапакутніка, лекара, які імем Хрыста цаліў хворых.За гэта грошы ня браў, але быў выданы на пакуты за Хрыста дактарамі-паганцамі,што зайздросьцілі яму

Увесь крыж мае 20 іконачак: маленькіх, састаўленых з мазаічных каштоўных дробных камняў,з надпісамі, якая дзе іконачка.

1.Уверсе крыжа—вобраз Ісуса Хрыста, які благаслаўляе, і надпіс: **«ІС» «ХС»**.

2.На верхняй перакладзіне — іконка Божае Маці з працягнутымі далонямі, з надпісам: МР ОУ— Маці Божая.

3.Іан Хрысьціцель з працягнутымі далонямі, з надпісам.

4.На вялікай перакладзіне іконка архістраціга Міхаіла.

5.Там-жа іконка Архангела Гаўрыіла, кожны з ангелаў трымае ў руках шар — сымбаль зямлі.

На вялікім міжкрыжоўі чатыры іконкі апосталаў евангелістаў, якія падаравалі нам апісаньне жыцьця і дзейнасьці на зямлі Госпада нашага Ісуса Хрыста:

6,7,8,9.— Іан Багаслоў, Мацьвей, Марк і Лука. У кожнага евангеліста ў руцэ Евангельле.

Ніжэй вялікай перакладзіны на дзяржальне крыжа:

10. «а.Ефросин» —прэп. Еўфрасіньня Александрыйская — у гонар якой дадзена імя прэпадобнае.

11«А.Георгиос»—сьвяты вялікапакутнік і пераможца Юры — у вайсковым адзеньні, з павязкаю на галаве, з чатырохканцовым крыжыкам у правай руцэ.

12. «а. София» — сьв. вялікапакутніца Сафія, на вачах якой закатавалі дачок: Веру, Надзею, Любоў. Яна таксама з чатырохканцовым крыжыкам у правай руцэ.

Зь левай стараны крыжа:



13. Уверсе крыжа «а. Хрстом» (Агіос Хризостом —сьвяціцель Іан Златавуст).

На верхняй перакладзіне:

14. «а. Василий»—сьвяціцель Васілій. Архіяпіскап Кесарыйскі.

15.Пустое месца. Мажліва, тут знаходзілася трэцяя іконка славутага сьвяціцеля Грыгорыя Багаслова.

На вялікай перакладзіне:

16,17. сьв. Першавярхоўныя апостолы Пётра і Павел. Лік ап. Паўла сьцёрся, бачныя толькі адзежа і рука з кнігаю.

18. «а.Стэфан» — іконка таго самага архідыякана Стэфана, часьцічка мошчэй якога знаходзіцца ў крыжы.

19. «а. Димитриосъ» — кроў якога таксама ў крыжы.

20. —іконка сьв.Панцеляймона, мошчы якога таксама ў крыжы.

Нельга не заўважыць, у якім строгім парадку разьмешчаны гэтыя іконкі і сьвятыні. Яны савакупна прадстаўляюць сабою амаль усю гісторыю новага запавету і першабытнай царквы сярод пакутніцтваў, якія ахоплівалі гэту царкву ў першыя стагодзьдзі яе існаваньня. Вось прыклад мэтанакіраванай духоўнасьці гэтага выдатнага твору мастацтва. Усё накіравана на тое, каб абудзіць у вернікаў цягу да збаўленьня, да ачышчэньня сябе ад граху. Тут і сьведчаньне аб самаахвярнай любові Хрыстовай да нас, да роду чалавечага, сам крыж, кроў Хрыстова, за нас пралітая, часьцінка сапраўднага крыжа Збавіцеля, часьцінка яго гроба—сьведкі ўваскрашэньня яго, часьцінка гроба яго мацеры і яе вобраз, благаслаўляючай нас на добрае, на нашую любоў у адказ на божью любоў да нас. І сьведкі яго зьяўленьня на зямлі—Іан Хрысьціцель, апосталы й евангелісты, прыклады для падражаньня—сьвятыя, сваім жыцьцём праведным, пакутамі за Хрыста, сваёй міласэрнасьцю і вераю, вучэньнем і летургіямі, сваімі посьнічаскімі і малітоўнымі подзьвігамі, запечатлелі сваю любоў да любячага нас Госпада — усё гэтае ўзятае савакупна, павінна і нас натхяць на сьвятое і праведнае жыцьцё. У гэтым і заключаецца сапраўдная духоўнасьць і духаноснасьць крыжа пр. Еўфрасіньні.

# Крыж Еўфрасіньні Полацкай
# і ўзьвіжальныя крыжы XII—XIII стст.

Васіль Пуцко

Каштоўны крыж, які зьяўляецца падарункам полацкай ігуменьні Еўфрасіньні, быў зроблены ювелірам Лазарам Богшам ў 1161 г., аб гэтым сьведчыць памяткова зроблены запіс на самым крыжы[1]. Выраб крыжа вымоўны доказ таго, што ён рабіўся, каб урачыста адзначыць асьвячэньне Спаскай царквы, збудаванай не раней 1150 г. у Еўфрасіньнеўскім манастыры[2]. Немагчыма, каб да 1161 г. царква не была размаляваная фрэскамі. Калі пагаджаемся, што яна была размаляваная да гэтага часу, то павінны ўлічыць, што ў сыстэму росьпісу царквы належыць і росьпіс ахвярніка, дзе знаходзіцца фрэска Багамацеры, якая іконаграфічна адпавядае іконе, што атрымала прэпадобная Еўфрасіньня ад бізантыйскага імпэратара Мануіла I Комніна (1143-1180) і ад канстантынопальскага патрыярха Лукі Хрысаверга (1157-1170). Такім чынам, датаваньне сьценапісу Спаскай царквы, адпаведна з названымі дадзенымі, пажадана абмежаваць гадамі 1157-1161 гг.[3]

Крыж, безумоўна, быў урачыста ўнесены ў Спаскую царкву, бо гэткай пашаны патрабавалі тыя хрысьціянскія сьвятасьці, якія былі закладзены ў яго: частка крыжа Гасподня (Древо Животьное)[4], частка дамавіны прэсьвятой Багародзіцы, мошчы архідыякана Стэфана, мошчы вялікапакутніка Панцеляймона, кроў Дзьмітрыя Салунскага. Наколькі гэта была значная царкоўная падзея, для параўнаньня можам меркаваць з таго, як адбывалася асьвячэньне Ўсьпенскага сабору япіскапам Кірылам II у Растове Вялікім. Летапісец пад 1231 г. адзначае, што «паче же внесе в святую церковь кресты честныя, многы мощи святых в раках прекрасных»[5]. Адсюль няма патрэбы сумнявацца, каб падобнай пышнасьці не аказалі крыжу прэпадобнай Еўфрасіньні.

Крыж быў даволі вялікага памеру (51.5 x 21.5 см) і гэта вымоўны доказ, што яго нельга адносіць да звычайных напрастольных крыжоў, якія ў старажытных царкоўных запісах вельмі часта называюцца крыжамі багаслаўленьня. Крыжы падобнага выкананьня, толькі значна меншага памеру, пераважна клалі ў спэцыяльныя скарбонкі —стаўратэкі. Тыя стаўратэкі, што зьберагліся, даюць мажлівасьць спазнаць дзеля якой мэты яны рабіліся, а пераважна яны былі робленыя бізантыйскімі майстрамі.[6]

Крыж Еўфрасіньні тыпалягічна адпавядае грэцкім крыжам і падобна ім аздоблены па золаце перагародкавымі эмалямі і каштоўнымі каменьнямі[7]. На крыжы прадстаўлены Дзеісус, пагрудныя выявы архангелаў, евангелістаў, апосталы Пётр і Павал, айцы царквы Васіль Вялікі й Ян Златавуст, сьвятыя Еўфрасіньня, Юры і Сафія, таксама Стэфан і Панцеляймон, бо мошчы закладзены ў крыж, а кроў Дзьмітрыя адзначаецца сярод рэліквіяў, паміж якімі, асабліва неабходна адзначыць, знаходзіцца і «Кровь Христа».

Крыж, відавочна, быў рэстаўраваны і вынікам гэтага зьявіўся рэльеф з вобразам Багамаці Адзігітрыі. Стыль-жа й эпіграфічныя прыкметы манаграм сьведчаць, што ў першапачатковую кампазыцыю крыжа яны не ўваходзілі. Ды было-б і незразумелым, чаму зьявіліся басмы і засланілі міжкрыжоўе адваротнай стараны вырабу.

Шасьціканцовая форма крыжа вядомая ў Бізантыі і ў Заходняй Эўропе з УІІ—УІІІ стст., але шырокае распаўсюджаньне атрымала яна ў XII ст.. Менавіта ў той час,

выявіліся вялікія зацікаўленьні хрысьціянскімі старажытнасьцямі, што ўзьдзеяла на мастацтва. Такім чынам, тыпалягічныя адзнакі крыжа прэпадобнае Еўфрасіньні (гл. бач.10) роўна й ягоныя памеры поўнасьцю дазваляюць уважаць яго прызначэньне як узьвіжальнага крыжа. На пацьверджаньне нашае высновы можам спаслацца на аналягічныя крыжы, што зьберагліся ў Ноўгарадзе.[8] Адзін зь іх, які датуецца першай паловай XII ст., мае драўляную аснову, абкладзеную срэбранай басмай, з прымацаванымі да яе некалькімі каменьнямі і з крыжападобным паглыбленьнем на міжкрыжоўі для схаваньня частачкі дрэва з крыжа Госпадняга.



Ноўгарадзкі ўзьвіжальны крыж. Першая пал. XII ст.

Другі ноўгарадзкі крыж з другой паловы XII ст. блізкі прапорцыямі полацкаму крыжу, абкладзены срэбранай басмай з прымацаванымі дробнымі каменчыкамі, прычым частка Сьвятога Крыжа знаходзіцца ў міжкрыжоўі пад крышталам. Асаблівасьцямі ягонага дэкора былі частачкі перагародкавых эмаляў.



Ноўгарадзкі крыж з другой паловы XII ст.

У Ноўгарадзе знаходзіўся трэці ўзьвіжальны крыж, ахвяраваны каля 1211 г. архіяпіскапам Антонам Сафійскаму сабору. У цэнтральнай частцы гэтага крыжа быў малы крыжык з частачкай Сьвятога Крыжа.[9]

Уласна кажучы, бізантыйскія ўзьвіжальные крыжы з XII-XIII стст. не зьбераглiся. Але-ж такі, традыцыйны выгляд іх замацаваўся ў грэцкай царкоўнай практыцы, сьведчаньнем чаго зьяўляецца выдатны крыж, прывезены ў Італію патрыярхам Рыгорам (1443-1450) і падараваны ў 1463 г. кардыналам Візарыёнам у Скуола дэльля Капіта, дзе паклалі яго ў рэліквары [10]. На фоне параўнаўчага матэрыялу крыж прэпадобнае Еўфрасіньні застаецца як самы

каштоўнейшы і самы ўдасканалены выраб, бо ўжо з XУ ст. крыжы галоўна ўпрыгожваліся дэлікатнай філігранью.

Аб тым, што менавіта такія крыжы ў Бізантыі былі ўзьвіжальнымі, сведчаць мініяцюры грэцкіх рукапісных зборнікаў з X-XII стст. Яны дастаткова наглядна знаёмяць з цырымоніяй Узьвіжаньня Крыжа. Гэта Ватыканскі Меналёгій (Грэц.1613, б.35), грузінскі кодэкс Сінаксара япіскапа Захарыя Валашкертцкага з 1030 г. (выкананы ў Канстантынопалі), Евангельле з Сінаксарам трэцяй паловы XI ст.(знаходзіцца ў Ватыканскай бібліятэцы (Грэц. 1156), Евангельле ў манастыры сьв.Панцеляймона на Афоне ( № 11) датуемае XII ст.[11]



Узьвіжаньне Чэснага Крыжа. Мініяцюра Ватыканскага Меналёгія. Каля 985 г.



Узьвіжаньне Чеснога крыжа. Мініяцюра Евангельля зь Сінаксарам. Рым. Ватыканская бібліятэка. Трэцья чвэрць XI ст.



Узьвіжаньне Чэснага Крыжа. Мініяцюра грэцкага Евангельля XII ст.ў манастыры св. Панцеляймона на Афоне.

Крыж гістарычна зьвязаны з Полацкам, служыць адной з рэаліяў, дапамагаючай усьведаміць, наколькі дакладна царкоўнае дзеяньне перададзена мастацкім пэндзалям грэцкіх ілюмінатараў, працаваўшых у Канстантынопалі.Прыкладамі, прыведзенымі вышэй, можна ўважаць, што мэта выпашана. Хаця ня так шмат захавалася старажытных узьвіжальных крыжоў. Да іх могуць зь некаторымі агаворкамі яшчэ быць далучаныя: крыж, які паходзіць з Усьпенскага сабору ў Яраслаўлі, і крыж з калекцыі аддзелу каштоўных мэталаў Гістарычнага музэя ў Маскве.

Пры тым захаваліся вельмі цікавыя рэпрадукцыі старажтыных рэліквіяў, адна зь іх спалучана з паданьнем аб прэпадобным Авраме Растоўскім.

Крыж ягоны дайшоў да нас, дзякуючы гэтым пазьнейшым рэпрадукцыям, а самая старэйшая датуецца XIУ ст. Рэпрадукцыя захавала шматлікія дэталі арыгінала, улучаючы форму крыжа і рэльефныя выявы на ім.



Бронзавы крыж прэпадобнага Аврама Растоўскага. Бронзавы адбітак XIУ ст.



Бронзавы крыж з в.Яксаманічы, 1181 г.

Асабліва гэтае стала бачна пасьля таго, як стаў вядомы фрагмэнт крыжа з XII ст., што быў выцягнуты ў другой палове мінулага стагодзьдзя з руінаў Спаскай царквы ў Старым Галічы, зруйнаванай у 1241 г. Мяркуючы па вобразу крыжа, у верхнім міжкрыжоўі была зьмешчаная частачка Сьвятога Крыжа ў гэтым рэліквары, вонкавы выгляд якога атрымаўся шляхам бронзавага адліцьця. Нявыключана, што гэта быў менавіта ўзьвіжальны крыж Усьпенскага сабора ў Галічы, пабудаваным ў сярэдзіне XII ст. на тэрыторыі Галіцыі. Менавіта з ваколіцы вёскі Яксаманічы, паходзіць такі-ж шасьціканцовы крыж, датаваны 1181 г.

На ягонай паверхні не заўважана вобразу сьвятых. Толькі ў верхнім перакрыжаваньні відаць контур той-жа формы крыжа, ускоснае паказаньне на месца захаваньня часткі Сьвятога Крыжа, што сугучна з традыцыяй. Затое на ім, апрача звычайных манаграмаў, ёсьць надзвычайны надпіс: «Победа на бесъ», які высьвятляе значэньне аднаго із галоўных хрысьціянскіх сымбалеў.

Адначасова варта адзначыць, што калі ў Расеі ў сучаснай багаслужбе перавага аддаецца драўлянаму ўзьвіжальнаму крыжу з намаляваным Расьпяцьцем, у Ўсходняй Украіне заўважаецца імкненьне ўзносіць драўляны разьбяны крыж. У Галіцыі ад часоў вуніі замацаваўся звычай у сьвята выносіць драўляны крыж без выяваў, часта

арнамэнтаваны расьлінным арнамэнтам, і ў вельмі рэдкіх выпадках у міжкрыжоўе пад шкло ўкладалі драбнюсенькаю частачку Сьвятога Крыжа. Наўрад ці ёсьць патрэба гаварыць аб старажытнасьці гэтай традыцыі. Яна, дарэчы, захавалася таксама ва ужытку Армянскае царквы. Гэта дае падставу меркаваць, што вытокі трэба шукаць у пэрыядзе самага раньняга сярэднявечча.

У сувязі з надзвычайным надпісам на галіцкім бронзавым крыжы з 1181 г., нельга абмінуць замалёвак такога-ж тыпу на двух Барысавых камнях з шасьціканцовым крыжам у Беларусі.[13] На трэцім Барысавым камні, які ўмоўна датуецца 1128 г., выбіты тонкі падоўжаны крыж з пашыранымі канцамі згодна бізантыйскай тыпалёгіі.



Трэці Барысаў камень

Але на Рагвалодавым камні, што датуецца 1171 г.[15], крыж другога варыянту. Ён нагадвае бронзавыя крыжы, аб якіх узгадвалі раней (гл. ст. 17) і таксама крыж прэпадобнае Еўфрасіньні.



Рагвалодаваў камень

Закругленыя выступы ў верхнім і ніжнім перакрыжаваньні абумовілі выключны характар зьмяшчэньня там рэліквій. Вядома, што існуюць розныя тлумачэньні адносна прычынаў выбіваньня Барысам крыжоў на камнях. Адны зь іх разглядаюць як пагранічныя знакі полацкага княства[16], другія тлумачаць выбіваньне хрысьціянскіх сымбалёў ліквідацыяй паганскіх алтароў.[17] Успомнім, што кароткі запіс на бронзавым крыжы з 1181 г. сваім унівэрсалізмам пакрывае гэтыя супярэчлівыя трактоўкі. Такі-ж сэнс уласьцівы ўсім крыжам, бяз розніцы, ці ён такі-ж пышны, як крыж прэпадобнае Еўфрасіньні, зроблены Лазарам Богшам, ці як і той, сьціпла намаляваны на камнях.

Жаданьне ўдакладніць богаслужэбную функцыю крыжа прэпадобнае Еўфрасіньні Полацкай прывяло да іншага матэрыялу, які храналягічна спалучаны з той-жа эпохай, надзвычай цікавай і так мала дасьледаванай. Адпаведна з магчымасьцямі пранікненьня ў старажытныя матэрыялы,

становіцца відавочным, што часамі перад намі зьяўляюцца разасобленыя факты, якія некалі былі ўзаемасьвязаны ў такой ступені, у якой была ўзаемасьвязаная ў сваіх праявах духоўная культуры ў агульным.

## Бібліяграфія


1.Рыбаков Б.А. Русские датированные надписи XI—XIУ веков. М., 1964, № 27, б.32-33, т.XXXI

2. Раппопорт П.А. Русская архитектура X-XIII вв. Каталог памятников. Л., 1982, с. 96-98.

3. Фрэскі звычайна датуюць сярэдзінай XII ст.

Гісторыя беларускга мастацтва ў шасьці тамах, т. 1. Мн., 1907, с.79-84.

4. Frolov A La relique de la Vraie Croix, Paris, 1961, * 341.

5. Полное собрание русских летописей. т. 1, стб 458.

6. Les reliquaires de la Vraie Croix, Paris, 1965.

7. Падрабязней аб крыжу гл.:

Алексеев Л.В. Лазарь Богша—мастер-ювелир XII в. Советская археология, 1957, № 3, с. 224-244.

Макарова Т.И. Перегородчатые эмали Древней Руси, М., 1975, с. 70-73, 97, 118-121, таб. 19-20.

Поўная бібліяграфія і адлюстраваньне ў колеры зьмешчаны у выд.:

Высоцкая Н.Ф. Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва Беларусі XII—ХУIII ст. Мн, 1984, № 6, 227.

8.Бочаров Г.Н. Торевтика Великого Новгорада XII—ХУ веков. В кн. Древнерусское искусство. Художественная культура. М, 1968, с. 286-290.

9. Рыбаков Б.А. Русские датированные надписи XI—XIУ веков, № 35 с. 37, табл. XXXII.

10.Cozza Lusi C Croce del Bessarione donata a Venezia. Roma, 1904,

Moschini Marconi S Calleria dell'Academia di Venezia Opere d'Arte dei secoli XIU, XU, Roma, 1955 pp 191-194

11 Der Nersessian S La fete de L'Exaltation de la Croix In Annuaire de l'Institut de d'Histoire orientale et slave, t X Bruxelles, 1950, p 193-1948.

Пуцко В. Чин воздвижения Креста в византийской живописи— Revue des etudes sud-set europeennes t XUI, Bucarest, 1978, s.647-661

Moran N.K Singers in Late Byzantine and Slavonic Painting Leiden 1986, p 59-65, fig 22-24

12 Свенціцкі І. Провідник по Національнім музееві у Львові. Жовкава, 1913, с.11, м.6.

13. Таранович В.П. К вопросу о древних лапидарных памятниках с историческими надписями на территории Белорусской ССР, —Сов.Археология, т.УIII, 1946, с. 249-260 (з указаньнем больш ранейшай літаратуры).

14.Рыбаков Б.А; Русские датированные надписи XI—XIУ веков, № 20, с. 26-27, табл. XIУ).

15. Там-жа. № 29, с. 33, таб. ХУ, мал. 1.

16 Мадыфікацыю гэтай вэрсіі гл.:

Ермаловіч М. Старажытная Беларусь Полацкі і Новагародскі перыяды. Мн., 1990, с.158-162.

17.Рыбаков Б.А. Русские датированные надписи XI—XIУ веков. с.27




# Эмблема на шчыце герба «Пагоня»

Міхась Белямук

У Беларусі шмат вялікіх валуноў, на якіх сустракаюца высячаныя крыжы, пераважна яны шасьціканцовыя. Найбольш вядомымі зьяўляюцца Барысавы камні, на іх маюцца надпісы: «Господи помози рабу своему Борису». Такія камні былі каля вёсак Накоўнікі і Балоткі, недалёка горада Дзісны, мелі шасьціканцовыя крыжы. У1818 г. былі Дебоналем узарваныя. Камень вёскі Накоўнікі разьляцеўся на дробныя кавалкі, а камень у Балотніках пашкоджаны часткова, верхняя частка камня з верхнім перакрыжаваньнем разарвалася, засталася ніжняя частка крыжа зь ніжнім перакрыжаваньнем.



Каля вёскі Друйкі, недалёк Друі ў Дзьвіне знаходзіцца камень з шасьціканцовым крыжам, які мае пашыраныя канцавіны перакрыжавньняў. Падобны крыж на камні быў каля вёскі Высокі Гарадзец, Талачынскага р-на, але ў 1936 годзе быў узарваны. Вядомы камень з шасьціканцовым крыжам быў каля Дзятлаўкі, Аршанскага р-на, ён меў высечаны надпіс: «1171 г. 7 мая доспен крест сей, Господи пози рабу свему Василию в крешчении, имененм Рогволоду, сыну Борисову». У мінулым стагодзьдзі, дзякуючы М.П. Румянцаву, камень быў узяты пад ахову, але ён быў зьнішчаны ў1936 годзе. (**73 А**, б.26-27, 33, **73 Б**, 26-30, **73 В**, 69-73. Гл. мал. на бач. 16,).

У вёсцы Камена, Вілейскага р-на, на правым беразе рэчкі Вільлі знаходзіцца шэры камень-валун з шасьціканцовым крыжам і надпісам: «Вротишин хрест». На паўночна-захадняй старане камня таксама надпіс, але яго не расчыталі (**74 А**, б. 61, **74 Б**. б 255, **74 В**, б. 146, № 610)



Паводля Г.Штыхава каля вёскі Забежня, Віцебскага р-на, знаходзіўся ў Дьзвіне валун, з высячаным шасьціканцовым крыжом. Уніз па цячэньню Дзьвіны, пара кіламетраў ад в.Забежня знаходзіўся другі валун з крыжам і знакам, падобным на ступню. Народ даў імя валуну «Дзявочы» (75, б. 39)

І.Ціхаміраў паведамляе, што ён езьдзіў дасьледываць берагі рэчкі Мяжа, якая ад-

(Працяг. Пачатак ў 8-3(13))

дзяляла Полацкае княства ад Смаленскага. Каля вёскі Беразкова, на беразе возера Іаложэ ў кургане знайшоў каменную пліту, з высячаным шасьціканцовым крыжам і медзяную літу—іконку Вадохрышча з надпісам. Іконка паходзіць з XII—XII ст. Прыгонны селянін кн. Пуцяціна расказаў Ціхаміраву, што сяляне ў адным з курганоў знайшлі залаты пярсьцёнак і медзяную іконку з надпісам «Борис воин» (**76**, б.6-7)

На беразе рэчкі Крывая, каля вёскі Равуча Талачынскага р-на былі курганы і каменны шасьціканцовы крыж. (**77**, б. 298, зн. 151). Недалёк рэчкі Абалянкі, каля вёскі Алексінічы, Сеньненскага р-на, быў камень з высячаным ледзь прыкметным шасьціканцовым крыжам (**77**, б.288, **78**, б.13)

Ф.Пакроўскі атрымаў інфармацыі, што каля рэчкі Шчары былі камні-валуны з высечанымі знакамі, падобнымі да шасьціканцовага крыжа. Ніхто з старажылаў ня мог ўспомніць, хто высек гэтыя крыжы на камнях. (**79**, б.30)

А.Спіцын у 1903 г. паведаміў, што на Пскоўшчыне ёсьць камяні з крыжамі, крыжы чатырохканцовыя і шасьціканцовыя. Ён ўважае, што яны з XIII— XIУ стст. (**80**, б. 225 —226)







У Рызе, падчас раскопаў у 1960 г. знайшлі падвеску XIII ст. з квітнеючым шасьціканцовым крыжам (мал. А). Магурэвіч Э. кажа, што падобныя падвескі былі знойдзеныя раней у Полацку і Тарапцу, што сьведчыць, што падвеска імпартаваная, праўдападобна, з Полацка, (**81**, б.91)

У 1950 г. знайшлі скарб залатых і срэбраных рэчаў, паміж якімі быў срэбраны надламаны медальён XII ст. (Мал. Б) На правай старане выгравіраваны шасьціканцовы квітнеючы крыж, левая старана гладкая (**82**, б.137, № 147)

У Ноўгарадзе 1974 г. падчас археялягічных раскопаў была знойдзена медзяная падвеска XII ст. На адной старане сь. Юры дзідай прабівае цмока на адваротнай старане — патрыяршы шасьціканцовы крыж. (**83**, б. 45)





Контравэрсыйным ёсьць шышак XII—XIII стст. Адны дасьледчыкі ўважаюць, што ўласьнікам яго быў кн. Яраслаў (Мудры). Іншыя, менавіта Б.Рыбакоў, лічыць, што апошнім уладальнікам шышака быў князь Хведар Расьціслававіч.

Шышак быў аздболены срэбранымі гравіраванымі пласьцінамі. На перадзе шышака вялікая пласьціна з архангелам Міхаілам, які трымае ў левай руцэ сфэру з шасьціканцовым крыжам.

На версе шышака над архангелам Міхаілам пласьціна з Хрыстом. Ён трымае Евангельле з шасьціканцовым крыжам. (**73 А**, б. 34-35)





У Ваўкавыску 1948 г. Г.Пех на «Швэцкай гары» знайшоў валавяную пячатку XII ст. На яе правай **Rv** старане выява сьв.Сымона, на левай **Rv** —шасьціканцовы квітнеючы крыж. (**84**, б. 271-272).



У Горадні 1938 г. на Замкавай гары знайшлі валявяную пячатку, на **Rv** выява сьв. Глеба, на **Rv** — шасьціканцовы квітнеючы крыж. Падбоную пячатку знайшлі ў Кіеве ў 1899 г. (**85**, б.158, 163, **86**, № 333, б.152, 225)



У Драгічыне надбужскім перад 1900 г. была знойдзена на беразе Буга валавяная пячатка з XII ст. Яна нагадвае ваўкавыскую пячатку, на **Rv.** сьв.Сымон, на **Rv**-шасьціканцовы квітнеючы крыж.



У розным часе былі знойдзеныя чатыры пячаткі чарнігаўскага князя Сьвятаслава Яраславіча (1054-1076). На **Rv** — фігура чалавека з надпісам Сьвятаслав, на **Rv**.— вобраз Міколы Мерлікійскага, патрона князя. (**86**, № 10-13, б.167-168)



У Ноўгарадзе былі знойдзены пячаткі Сьвятаполка Мсьціславіча, ноўгародзкага князя (1142-1148). Ён быў унукам Уладзімера Манамаха. На **Rv**.сьв.Іван Прадцеча, над левым плячом—шасьціканцовы крыж (**86**, №144-146, б.111-113, 125, 195)




Цікавай рэчай ёсьць пячатка князя ноўгародзкага Яраполка, сына князя смаленскага Расьціслава. Яраполк у Ноўгарадзе княжыў адзін год 1178, на **Av**. ягонай пячаткі сьв. Хведар Тырон трымае левай рукой шчыт з шасьціканцовым на Галгофе крыжам, на **Rv**. сьв. Якаў, (**86**, № 180, б.124-126, 202).




Унук кн. Расьціслава смаленскага кн. Мсьціслаў Мсьціславіч княжыў у Ноўгарадзе ў 1210-1218 гг.. На **Av**. ягонай пячатцы сьв. Хведар Тырон на кані зь сьцяжком у левай руцэ. Вакол галавы німб, за галавой шасьціканцовы крыж. **Rv**. пячаткі мае Хведара Страцілата, які ў левай руцэ трымае шчыт, але знак на шчыце нерасчытаны (**86**, № 203, б.112, 120, 206).




Паводля Яніна, пячаткі,што на **Av**.маюць сьв. Захарыя, а на **Rv**.—шасьціканцовы крыж, належаць Захарыю, наўгародзкаму пасадніку 1151-1167г.(**86**,№334-335, б.151-153, 225)






Лічачы, што пячаткі з выявамі Багамаці належаць царкоўным герархам, В.Янін пячаткі, знойдзеныя ў Ноўгарадзе, прыпісывае ноўгарадзкім япіскапам. Пячатку № 331 — яп.Герману (1078-1095), а пячаткі №342 і 343 пакідае без уласьнікаў. Пячатка №343 на **Av**, ўнікальная. На ёй — Ўсьпеньне Багародзіцы. Пачатка №324 і 325 на **Av**. Багародзіцы ня мае, але сьв. Хведар не воін, а пакутнік, і ў руках трымае крыж. В.Янін прыпісаў пячатку ноўгарадзкаму япіскапу Хведару, які быў хіратанізаваны 1069 г, а памёр 1077. (**86**, б. 150-153, 224-226).












Пячаткі № 328, 329, 330, 332, 338, 339, 341 засталіся без уласьніка. Паколькі пячатка № 332 мае падабенства да пячатак, знойдзеных у Ваўкавыску, Горадні, Драгічыне, то В.Янін уважае, што ўласьнікамі былі князі «западно-русских областей» у XII ст.



У Пскоў пасьля забойства Мендаўга прыехаў зь Літвы кн. Даўмонт. Псковічы яго прынялі, ахрысьцілі імём Цімафея. І княжыў ён у Пскове 1265-1299 гг. Пакінуў ён пячат-ку, якой псковічы карысталіся да паловы XIУ ст. Пскоў да прыезду Даўмонта —Ціма-фея падпарадкоўваўся Ноўгараду, Даўмонт унезалежніў Пскоў і пасьля сьмерці пско-вічы аднесьліў. лік сьвятых, стаў ён патро-нам пскоўскіх князёў. Пячатка на **Av** мае сьв. Цімафея Гаскага, на **Rv**. шасьціканцовы крыж на Галгофе. (**87**, мал. 1, б.242-243, бб. б.165-166)



З прыездам кн. Даўмонта Пскоў палітычна ўнезалежніўся, аднак, рэлігійна падпарадкаваны ноўгарадзкаму архіяпіскапу, які ў Пскове меў сваіх намесьнікаў. Да сярэдзіны XIУ ст. намесьнікі ноўгарадзкага ўладыкі мелі пячаткі на **Av**. шасьціканцовы крыж на Галгофе, на **Rv**. Багамаці «Знаменьне». ( № 87, б. 252-254, **88**, б.165, 177)



Бібліяграфія


73А. Рыбаков Б. Русские датированные надписи. XI—XIУ вв. САУ, ЕI-44, М., 1964.
73Б. Антановіч В.Таямніцы каменнага летапісу. ПГКБ. Мн., 1976, № 3.
74А. Романов Е. Древние лапидарные памятники Западно-Русского края. —Записки Сев-Зап. отд. Русск геогр. Общества. Вильно, 1911, кн 2.
74Б. Таранович В. К вопросу о древних лапидарных памятниках с историческими надписями на территории Белорусской ССР. СА. М., 1946, т.8.
75. Штыхов Г.Археологическая карта Белоруссии. Мн., 1971, вып.2,
76 Тихомиров И.А. Поездка на реку Межу. ЗРАО, Сб. 5, СПб. 1903.
77 Алексеев Л.В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины. —Воп. Этнической истории народав Прибалтики М.. 1959.
78 Аникевіч К.Сеннинский уезд Могилевской губ, Могилев 1907.
79 .Покровский Ф.Археологическая карта Гроденской Губ. Вильно 1895.
80 Спицин А А. Заметки о каменных крестах. ЗРАО, СПб 1903, т.5.
81. Маргулевич Э.С. Восточная Латвия и соседние земли в X-XIII вв. Рига 1965.
82. Корзухина Г. Русские клады IX—XIIIвв.М.-Л. 1954
83. Янин В.Колчин Б і др. Новгордкая экспедиция. АО за 1974 г. М., 1975.
84 Тарасенко В.Раскопки городища «Шведкая гора в Волковыске в 1954 г. —«Материалы по археологии БССР Мн., 1957.
85. Jodkowski J Pieczencie ruskie z XI-XII w znalezione w Grodnie i Drogiczynie P H W 1948, vol 37.
86. Янин В.Л. Актовые печати Древней Руси X-XУвв. М., 1970 т I. б.152, 225, № 333.
87. Янин В. Висле печати Пскова —СА № 3. М.. 1960.
88.Янин В. Сфрагистический комментарий к псковским частным актам. Л.М.Марасинова, Новые псковские грамоты XIУ-XУ вв. —Изд. Моск. Университета. 1966.

# Да пытаньня этнічнай прыналежнасьці старажытных ліцьвіноў




Паўла Урабан

Перад тым як запярэчыць сьцвярджэньням в.князя Вітаўта (Гл. «Полацак» № 3(13)), варта зьвярнуць увагу на той факт, як было цяжка вялікаму князю юрыдычна даказваць сваё спадчынае права на Жамойць. Варта таксама прыгадаць тыя палітычныя ўмовы, якія спрычыніліся да напісаньня Вітаўтам гэтага пасланьня і прадыктавалі ягоны своеасаблівы зьмест.

У міжсобным змаганьні за ўладу ў ВКЛ Ягайла быў адмовіўся ад Жамойці на карысьць Тэўтонскага ордэну крыжакоў. Адпаведнае пагадненьне з крыжакамі было аформленае 31 кастрычніка 1382 г., паводля якога Жамойць перадавалася Прускаму і Лівонскаму ордэнам па раку Дубісу. Праўда, Ягайла марудзіў замацаваць тое пагадненьне сваёй пячаткай, таму крыжакі ўхапіліся за князя Вітаўта, які пайшоў яшчэ далей, чымся Ягайла. Уласнае пагадненьне з гэтымі крыжакамі князь Вітаў падпісаў 31 студзеня 1384 г. Цяпер, паводля пагадненьня, мяжою станавілася рака Нявяжа. Прускі і Лівонскі ордэны атрымлівалі ўсю Жамойць, а таксама некаторыя землі ўласнай Літвы, што ляжалі на правым беразе ракі Нявяжы і вышэй ейных вытокаў. Апрача таго, Прускаму ордэну крыжакоў перадаваліся пушчанскія масівы крыху далей на захад ад Нёману, дзе ўперамешку зь іншымі пасяленцамі жылі рэшткі колішніх судаваў.

Вітаўт гандляваў землямі Жамойці або трымаўся свайго ранейшага пагадненьня, калі ў 1390 г. ён другі раз апынуўся ў Прусіі. Але важнейшым зь юрыдычнага гледзішча было Салінскае пагадненьне, якім, фактычна пацьвярджаліся ранейшыя тэрытарыяльныя ўступкі Вітаўта. Гэтае пагадненьне, якое звалася «вечным мірам», было падпісанае і замацаванае пячаткамі 12 кастрычніка 1398 г. на нёманскім востраве Саліне. Афармлялася яно пры ўрачыстых абставінах: прысутнымі былі сам Вітаўт, магістар Прускага ордэну крыжакоў і магістр Лівонскага ордэну. Прысутнічалі таксама мерашалкі і браты-рыцары гэтых ордэнаў, а ў сьвіце Вітаўта —паны-радцы, князі і баяры-рыцары.

Нарэшце,у травені 1404 г. ў польскім г. Рацёнжу было афармленае чарговае мірнае пагадненьне з Прускім тэўтонскім ордэнам. Паводля гэтага пагадненьня, кароль Уладыслаў Ягайла на карысьць крыжакоў адрокся ад польскага Памор'я і пацьвердзіў умовы прыгадванага Салінскага «вечнага міру». Жамойць зноў-жа заставалася разьменнай манэтай.

Дарэчы, выдатная перамога 1410 г. у Грунвальдзкай бітве належным чынам ня была выкарыстаная, што знайшло адлюстраваньне ў Торуньскім мірным пагадненьні 1411 г. Паводля гэтага пагадненьня, Жамойць адыходзіла да Вялікага княства Літоўскага толькі на адрэзак часу жыцьця на гэтым сьвеце кн. ВКЛ Вітаўта або польскага караля Ўладыслава-Ягайлы.

Гэткая была рэчаіснасьць, патдтрымліваючы палітычныя інтарэсы крыжакоў, гэтай рэчаіснасьцяй вельмі добра маніпуляваў імпэратар сьвяшчэннай Рымскай імпэрыі Жыгімонт Люксембургскі. У тых палітычных спрэчках яму ў студзені 1420 г. былі даручаныя абавязкі вышэйшага арбітражнага судзі ў г. Вроцлаве. Жыгімонт Люксембургскі вынес судовы вырак на карысць Тэўтонскга ордэну. Аднолькава тычылася

(Працяг. Пачатак № 1(11) —3 (13))

гэта жамойцкай праблемы. Адсюль у адказ была вострая рэакцыя Вітаўта й ягоная згода падтрымаць рух гусітаў у Чэхіі. Вось чаму было ягонае пасланьне Жыгімонту Люксембургскаму, вытрымку зь якога мы ўжо цытавалі (Гл. Полацак, № 3(13), б. 27 ).

Увогуле, ад 1410 г. і да часу падпісаньня Мельніцкага пагадненьня ў 1422 г., адбывалася зацятае дыпляматычнае змаганьне, якое ў сваёй кнізе «Ўладыслаў II Ягайла» на аснове архіўных дакумэнтаў грунтоўна апісалі прыгадваныя польскія аўтары Ядзьвіга Кжыжанякова і Ежы Ахманьскі. Прыгадалі яны таксама той факт, што каб вярнуць Польшчы землі польскага Памор'я, польскім дыпляматам даводзілася высоўваць этнічна-моўны фактар. За гэты фактар, давялося ўхапіцца і Вітаўту.

Аднак-жа ў тым сваім пасланьні кн. Вітаўт скардзіўся, што ягоныя пасланцы, якія прысутнічалі на арбітражным працэсе ў Вроцлаве, не маглі толкам растумачыць, што такое Жамойць, і гэтым самым увялі імпэратара ў аблуду. Яны гаварылі перад судом, быццам існавала ажно «тры зямлі жамойцаў» і тут Вітаўт яшчэ раз тлумачыў, што ёсьць толькі адна зямля «Жамойцаў» і «ў літоўскай мове» яна называецца «Жамойць» і значыць «квазі зямля ніжэйшая». А польскія паслацы тлумачылі на тым працэсе, што маўляў, «Жамойць... гучыць у літоўскай мове ніжэйшая Літва» [71].

Гэта першае. Другое, у тым сваім пасланьні вялікі кн. Вітаўт скарзіўся, што імпэратар, ня будучы ў курсе справаў, перадаў крыжакам зямлю судаваў. Тым часам крыжамі, у абмен на Жамойць, выказалі згоду, што зямля судаваў можа адыйсьці да Літвы. І тут Вітаўт ужыў гэткую фармулёўку: «terra Sudorum sive Gettarum, qua mediat inter terram Lythwaniam et Prussiam».Судавы-гэта тыя-ж яьцягі, і яны належалі да групы заходнебалцкіх плямёнаў. А «гэтамі» іх называў польскі храніст Вінцэнт Кадлубэк. Цікава, што гэтых судаваў—яцьвягаў ён не залічыў да «роаасных» ім ліцьвіноў, як гэта зрабіў ён у выпадку жамойцаў.

Трэцяе, вялікі князь Вітаўт ня меў слушнасьці, калі цьвердзіў, што маўляў, «Жамойцы з даўнешых часоў называлі сябе Ліцьвінамі і ніколі Жамойцамі» Але-ж акрэсьленьні, як «народ Жамойцаў» «gens Samagitarum» можам знайсьці, напрыклад, у пасланьнях кн. Вітаўта і польскага караля Ўладыслава — Ягайлы да ўладароў (каралеў і князеў) краінаў Заходняй Эўропы. Тыя іхнія пасланьні былі датаваныя 9 верасьнем 1409 г. ,і ў іх была гаворка пра злачыныя ўчынкі крыжакоў у Жамойці, а таксама у дачыненьні да земляў Польшчы і ВКЛ[72]. Як бачна далей, у акрэсьленьні «народ Жамойцаў» паўтараліся ў фундацыйных актах пры заснаваньні Медніцкай каталіцкай біскупіі для Жамойці, а таксама ў дакумэнтацыі наконт справы, якая ў 1417 г. высылалася на Канстанцкі царкоўны сабор. Дык і ў гэтым выпадку жамойцы трымаліся як асобны народ, хоць, праўда і маючы, як выглядае, павучальнае настаўленьне ад Вітаўта, яны паведамлялі, што стрыжнёва, «целам і касьцямі», былі зродненыя з «народам Літоўскім»[73].

Чацьвёртае, ня вельмі пераканальна гучаў аргумэнт Вітаўта наконт таго, быццам ліцьвіны і жамойцы былі народам аднае мовы. У тым сваім пасланьні побач з лацінскай назвай Жмудзі і жамойцамі Вітаў ужываў яшчэ тэрміналёгію "Samoyth", "terra Samaytarum", "Szomoyth", "Samoyte".

І вось чаму. Заснаваньне ў 1417 г. Медніцкай біскупіі для Жамойці ўзгаднялася з пастановамі Канстанцкага царкоўнага сабору. Сабор даручыў гэтую справу спэ-

цыяльнай камісіі, якую ўзначальвалі Львоўскі архібіскуп Ян і віленскі біскуп Пётра. Камісія гэтая прыбыла ў Вільню дзесьці ў кастрычніку 1417 г., бо 23 і 24 кастрычніка датаваліся два фундацыйныя акты Вітаўта [74] і паведамленьні ў Канстнцу, што тычыліся справы заснаваньня Медніцкай біскупіі для Жамойці й аўтарамі якіх былі прыгадваныя Львоўскі архібіскуп Ян і Віленскі біскуп Пётра [75]

Дык у фундацыйных актах кн. Вітаўта гаварылася, што Медніцкае біскупства засноўвалася для «народу Жамойцаў», а пробашч зь Вільні магістр Мацей, які быў кандыдатам на пасаду Медніцкага біскупа характарызаваўся як чыстакроўны ліцьвін [76].

Дарэчы, як асбоны народ, «gens Samaytarum» жамойцы ажно тры разы характарызаваліся ў пастанове наконт Жамойці і Кастанцкага царкоўнага сабору, якая датавалася 11 жніўня 1416 г [76a].

Пра тое, што Медніцкая біскупія засноўвалася для «народу Жамойцаў», агаворана ў дакумэнтацыі,высланай для азнаямленьня Канстанцкага царкоўнага сабору і да кангрэгацыі кардыналаў Рымскай курыі, якая працавала тады ў Канстанцы. У паведамленьнях-пасланьнях адлюстраваліся немалаважныя рэчы.

Гэтак у пасланьні, прызначаным для азнаямленьня ўдзельнікаў Канстанцкага сабору, гаварылася: «Дастойнага мужа магістра Мацея, пробашча віленскага, мы высьвецілі на кафэдру ў Меднікі, чалавека чыстага жыцьця, беззаганных звычаяў і навукі дый іншых шматлікіх цнотаў. Ён выдатна валодае жамойцкай гаворкай...» [77]

Зноў-жа ў пасланьні да кардыналаў Рымскай курыі Львоўскі архібіскуп Ян і Віленскі біскуп Пётра пісалі: «Дастойнага спадара Мацея, магістра свабодных навук, пробашча Віленскага, Ліцьвіна, які поўнасьцю валодае жамойцкай гаворкай, мы высьвяцілі на кафэдру...» [78]

Біскуп Мацей зь Меднікаў перайшоў на кафэдру Віленскую ў травені 1422 г. Таму ў студзені 1423 г. Вітаўт зьвярнуўся з просьбай да папы Марціна У, каб ён даў згоду прызначыць на пасаду Медніцкага біскупа кандыдата Мікалая, які дасюль быў пробашчам фарнага касьцёлу ў Новых Троках. У гэтым выпадку Вітаў паведамляў Ватыкан, што пробашч Мікалай, апрача іншых годнасьцяў і цнотаў ведаў яшчэ «гаворку народу жамойцкага»: «sciensque gentis Samaitice ydioma». [79] Вось тут узьнікае вельмі важнае пытаньне: зь якое рацыі «Ліцьвіны», атрымліваючы кафэдру Медніцкай біскупіі Жамойці, павінны былі ведаць «гаворку народу Жамойцкага»? Выглядае, што меў слушнасьць італьянскі гуманіст Энэй Сільвій Пікаламіні, калі пісаў пра Літву як славянскую краіну й яе мову залічаў да славянскіх моваў.

Пятае, ці адпавядае праўдзе, нібыта жамойцы, паводля Вітаўта, Літву называлі Аўкштотай, а калі і называлі, дык якую ейную тэрытарыяльную частку?

Ужо прыгаданы польскі гісторык Станіслаў Заёнчкоўскі зьмясьціў у сваім дасьледваньні гісторыі Жмудзі цікавую карту, на якой больш-менш дакладна акрэслівалася тэрыторыя Аўшктоты. На гэтай карце, якую апраўабаў сам аўтар, Аўкштота памяшчалася на поўнач ад ракі Вільлі крыху вышэй Вількаміра паабапал ракі Сьятой. Тым ня менш, у кантэксьце свайго дасьледваньня Станіслаў Заёнчкоўскі Аўкштоту атаясамліваў з уласнай Літвой». Аўкштоту з «уласнай Літвой» атаясамліваў і гісторык Уладзімір Пашута, кнігу якога «Образование Литовского государства» мы ўжо цытавалі. Мікола Ермаловіч не пагадзіўся з такім атаясамлі-

ваньнем і пісаў у сваёй кнізе, што «Літва й Аўкштайція— розныя ў той час геаграфічныя паняцьці»[80]. Аднак і Мікола Ермаловіч на сваёй схэматычнай карце гэтую Аўкштайцію памясьціў у сэрцы Віленшчыны — на поўдзень ад ракі Вільлі і, як можна меркаваць, Вільня і Трокі знаходзіліся на тэрыторыі Аўкштоты.

Цікава, што гісторыкі, якія Аўкштоту атаясамлівалі з уласнай Літвой, падкрэсьлівалі ня толькі геаграфічную, але і дзяржаўную ідэнтычнасьць гэтых паняцьцяў, не маглі назваць аніводнага архіўнага дакумэнту, дзе хоць-бы адзін зь вялікіх князёў ВКЛ характарызаваўся-б, як «князь» ці«кароль» гэтай Аўкштоты. Наадварот, ёсьць акты, часоў вялікага князя Гедыміна, у якіх прыгадваліся таксама землі Аўк штоты і Жамойці, але сам Гедымін тытулаваўся ў тых актах як «кароль Літвы».

Дзе знаходзілася зямля Аўкштота, дазваляюць, дарэчы, удакладніць паведамленьні нямецкага храніста з Рыгі Германа Вартбэрга. Сваю «Хроніку Лівоніі» ён пісаў ў другой палове XIУ ст. і закончыў яе на 1378 г. У ягоным разуменьні, гэта была «вышэйшая зямля Літвы» [81]. Герман Вартбэрг канкрэтна два разы назваў Аўкштоту, апісваючы напады ў 1373 г. ,а затым у 1374 г. на гэтую зямлю прускіх крыжакоў. Першы з гэтых нападаў узначальваў вялікі магістр Тэўтонскага ордэну Вінрых з Кніпроду, а другі вышэйшы мершалак Рудыгер з Эльнеру [82]. Напэўна, Вартбэрг меў на ўвазе таксама Аўкштойту, каб, паведамляючы пра напад, у 1375 на зямлю Ліцьвіноў Лівонскага магістра Вільгельма з Урымэрсгайму, ён канкрэтна назваў гэткія мясцовасьці:Уцяну, Таўрагіні, Больнікі, Малаты, Шашолы, Дубінкі і Гедройці[83].

Але, каб акрэсьліць, дзе паводля Вартбэрга, ляжала Аўкштота, дастаткова зьвярнуцца да ягоных паведамленьняў пра напад крыжакоў канкрэтна на зялмю Аўкштоту, а таксама на «вышэйшую зямлю Літвы». У першым выпадку Г. Вартбэрг назваў Вількамір і Жэймы. Другі выпадак тычыўся 1367г., калі, паводля Вартбэрга, вышэйшы маршалак Тэўтонскага ордэну Генінг Шындэкопф спустошыў і спапяліў мясцовасьці ў «вышэйшай зямлі Літвы»: «Шаты і Ворлава і з поўначы падыйшоў да Коўны»[84]

Дарэчы, захавалася арыгінальная справаздача наконт таго, як дайшло да ведамай бітвы 2 лютага 1448 году над ракой Стрэвай. У справаздачы паведамлялася, што напярэдадні гэтай крывавай сутычкі крыжацкае войска на працягу 8 дзён пустошыла «зямлю Літвы, што звалася Аўкштотай» [85]. У справаздачы, праўда, не гаварылася, дзе знаходзілся яна. Але ўдакладніць месцазнаходжаньне Аўкштоты дапамагае іншы дакумэнт. Гэта таксама крыжацкі дакумэнт, які тычыўся акрэсьленьня межаў Жамойці і выкарыстоўваўся тэўтонскім ордэнам на арбітражным працэсе 1412 г. Дакумэнт грунтаваўся на апытаньнях людзей, пераважна былых служакаў крыжацкага ордэну, сярод якіх былі немцы-рыцары і іхнія пахолкі, прадстаўнікі старажытных прусаў, жа-мойцаў і куршаў. Справа тычылася таксама замку Вялёны, што ляжаў у Жамойці крыху далей на захад ад упадзеньня ракі Дубісы ў Нёман. Паводля гэтага дакумэнту, тыя сталыя людзі сьведчылі, што замак Вялёну калісьці, 40 гадоў таму, трымалі паны Сурмін, Матэйка і Гаштоўт. Яны, аднак, былі ліцьвінамі, якіх звалі яшчэ аўкштотамі Нашчадкі гэтых паноў ліцьвіны яшчэ цяпер жывуць у Літве, а не ў Жамойцкай зямлі, жывуць у землях Кульвы і Вількаміра. У дакумэньце дадаткова яшчэ раз пераказваліся сьведчаньні тых сталых людзей, што замак Вялё

быў перададзены кры-жакам, калісьці трымалі й абаранялі ліць-віны, а не жамойцы, і тых ліцьвіноў (трэба разумець паноў Сурміна, Матэйку ды іншых нашчадкаў Гаштоўта) звалі і цяпер называюць аўкштотамі [86].

Аўкштоту прыгадваў таксама Пётра Дузбург у сувязі з агульным апісаньнем падзеяў 1294-1300 гг. Паводля яго, Аўкштота была толькі адной зь земляў «караля Літвы» (Віценя). Ён пісаў, што напаўшы на «зямлю Аўкштоту», комтур Рагнеты Людовік Лібенцэль здабыў «сьвятое для язычнікаў» паселішча на імя Раманы, спаліў яго, а запалоненых жыхароў перабіў.[87] Пётра Дузбург не ўдакладняў, дзе знаходзілася ў Аўкштоце гэтае «сьвятое для язычнікаў» паселішча і ўмацаваны гарадок. Аднак «зямлю Раманы» (Рамны) прыгадаў Віганд з Марбургу, апісваючы напад крыжакоў у 1388 г. на Вількамір і замак кн. Скіргайлы, які ў лацінскай транскрыпцыі быў названы Вышэвальдам. Магчыма, гэта быў той не названы яшчэ «новы горад», які кароль Ягайла ў 1387 г. будаваў для Скіргайлы «над ракой Вільлёй насупраць Шатаў». Паводля Віганда, напад гэты на «зямлю Раманы», Вількамір і замак кн. Скіргайлы ўзначальвалі магістр Кандрад Цёльнэр, маршалак Энгельгард Рабэ і в. комтур Кандрад Валенрод.[88]

Значыцца, Раманы Пётры Дузбурга і раманская зямля Віганда з Марбургу знаходзіліся ў тым часе дзесьці на поўнач ад Коўны паміж рэкамі Нявяжай і Вільлёй, знаходзіліся яны якраз у Аўкштоце.

Можна яшчэ адзначыць, што няведамы аўтар «Хронікі рыцараў тэўтонскага ордэну» сапраўды назваў вялікага князя Гедыміна «каралём Аўкштоты і Жамойці». Але і для гэтай ягонай памылковасьці ёсьць тлумачэньне. Недакладна датуючы падзеі, аўтар гэтай хронікі пісаў, што пасьля спусташэньня земляў Дубінскай і Шашолскай магістр Лівонскага ордэну Эвэргард з Мунгайму аформіў мірнае пагадненьне вось з гэтым «каралём Аўкштаты і Жамойці» і датаваў гэтыя падзеі пасьля . 1342 году [89].

Аднак справа тычылася ў гэтым выпадку гандлёвага пагадненьня 1338 г., калі Лівонскі магістр Эвэргард з Мунгайму памёр. Тое гандлёвае пагадненьне, якое датавалася 1 лістападам 1338 было аформленае з «магістрам Лівоніі» й ад імя «Гедыміна, караля Літвы» (у адпаведніку пагадненьня для ВЛК імя тагачаснага магістра Лівонскага ордэну Эвэргарда з Мунгайму не называлася) гэтае пагадненьне замацавалі сваімі пячаткамі Полацкі япіскап Грыгор, Полацкі і Віцебскі князі Глеб -Нарымонт і Альгерд. Дык вось прыгадваючы Аўкштоту, у пагадненьні гаварылася, што да «мірных земляў» якія належаць ў Літве «Больнікі, Гедройці і Немянчын. Такое акрэсьленьне «мірных земляў» тычылася ўласнай Літвы, бо пра мірныя гандлёвыя зоны па Дзьвіне для Полацкага і Віцебскага княстваў у пагадненьні была асобная агаворка.[90]

Як мы маглі заўважыць, аўтар «Хронікі рыцараў Тэўтонскага ордэну» пісаў, што перад афармленьнем прыгаданага гандлёвага пагадненьня Лівонскі магістр Эвэргард з Мунгайму нападаў на землі з цэнтрамі ў Дубінках і Шашолах. Пра гэта пісаў таксама Герман Ватыбэрг у сваёй Лівонскай хроніцы, дадаючы, яшчэ той факт, што той лівонскі магістр падыходзіў пад умацаваныя сьцяны Вількаміру, а гэта ў 1333 г. Гарады Вількамір, Больнікі і Шашолы ляжалі ў Аўштоці, як выглядае, дало падставы для аўтара «Хронікі рыцараў тэўтонскага ордэну» характарызаваць кн. Гедыміна як «караля Аўкштоты і Жамойці».

## Бібліяграфія


71. Stanislaw Zajaczkowski. Studya nad Dziejami Zmudzi wieku XIII. Lwow, 1925, s. 9
72. Codex epistolaris. Vitoldi, Nr. CCCCXXVI-CCCCXXVII. pp.194-201.
73. Ibidem. pp. 1018-1024.
74. Codex Ecclesiae Vilnensis, Nr. 70, 72, pp. 737, 739-740.
75. Ibidem, Nr. 7--73, 71, pp. 101-103. 738-739.
76. Ibidem . Nr.70, p.737.
76 a. Ibidem. Nr. 68, pp. 735-736.
77. Ibidem, Nr. 73, p. 103.
78. Ibidem.
79. Napiersky K.E. Russisch-Livlandische Urkunden, St. Petersburg, 1868, Nr. 214, S. 176
80. Ермаловіч М.І. Па слядах аднаго міфа, Выд. «Нав. і тэхніка», Мн., 1991, с.27-28.
81. Hermanni de Wartberge Chronicon Livoniae. p. 88.
82. Ibidem. p. 104
83. Ibidem. p.105-106
84. Ibidem, p. 88
85. Die Chronik Wigands von Marburg, pp. 510-511, ft 413.
86. SNR, t.2, Leipzig, 1863, pp. 709-711.
87. Petri de Dusburg. Chronica terre Prussie, pp. 374-375.
88. Die Chronik Wigands von Marburg, pp. 633-635.
89. Chronicon Equestris Ordinis Teutonici Incerti Auctoris, p. 778 (Cap. CCCXII).
90. Послания Гедмина. № 18, с. 186-195.


Ditleb's von Alnpeke

**Livländische Reimchronik,**

enthaltend

**Der Riterlichen Meister vnd Bruder zu Nieflant geschicht;**

nach

**dem Bergmannschen Drucke**

mit den Ergänzungen und den abweichenden Lesearten der Heidelberger Handschrift

neu bearbeitet und herausgegeben.

Geschichte

**Preussens,**

von den ältesten Zeiten bis zum Untergange der Herrschaft des deutschen Ordens,

von

Johannes Voigt.

---

Erster Band.

Die Zeit des Heidenthums.

---

Königsberg,

im Verlage der Gebrüder Bornträger.

1827.

# Палітычны партрэт Зьміцера Жылуновіча

Мікалай Сташкевіч
Юры Смірноў

Атмасфэра палітычнага недаверу нарастала. Драматычна трагічны фінал набліжаўся. 16 студзеня 1931 г. Прэзыдыюм ЦКК КП(б) і ЦК КП(б)Б прынялі пастанову аб выключэньні З.Жылуновіча з партыі. У пастанове аднабакова канстатавалася, што З.Жылуновіч з 1904 па 1916 г. (зь перапынкамі) належыў да меншавіцкай арганізацыі, а з 1915 па 1918 гг. актыўна удзельнічаў у беларускім нацыяналістычным дробнабуржуазным руху, што за час знаходжаньня ў партыі займаў адказаныя пасады і за праваапартуністычную дзейнасьць неаднойчы меў партыйныя спагнаньні. З.Жылуновіч зноў абвінавачваўся ў тым, што ён быццам-бы ня зжыў сьветапогляду й ідэялёгіі дробнабуржуазных нацыяналістычных партыяў й паказаў сябе як прыхільнік нацыяналізму.

За громкімі фразамі і надуманымі абвінавачваньнямі па сутнасьці хавалася імкненьне партыйна-бюракратычнай вярхушкі збавіцца ад людзей, падобных З.Жылуновічу. На этапе сьцвярджэньня сталінскага таталітарызму яны былі непатрэбныя, пакольку зьяўляліся прыпынкам на шляху аўтарытэта партыі ў палітыцы і на практыцы.

Вось некаторыя факты апошняга акту гэтай драмы. 22 студзеня 1931 г. бюро ЦК КП(б)Б вынесла рашэньне: пагадзіцца з пастанаўленьнем ЦКК па пытаньню аб З.Жылуновічу і даручыць т.Будзінскаму апублікаваць у друку адпавядаючыя, пэўна, вымоўнага характару артыкулы.

30 студзеня 1931 г. З.Жылуновіч зьвярнуўся у ЦКК ВКП(б) зь лістом, у якім, ён зноў прызнаў свае памылкі і прасіў з улікам таго, што ён цьвёрда стаў на бальшавіцкі шлях барацьбы за генеральную лінію партыі, за сацыялістычнае будаўніцтва, аднавіць яго ў радах ВКП (б). Чытаючы гэты дакумэнт, нявольна прыходзіш да высновы, што ён напісаны ўжо чалавекам дэмаралізаваным, напісаны ня розумам і сэрцам, а прадыктаваны пачуцьцём страху, жаданьнем уміласьцівіць сваіх прыгнятальнікаў.

Апісваючы свой жыцьцёвы шлях, З.Жылуновіч спрабуе упэўніць кіраўнікоў тагачаснай палітыкі, што ў дакастрычніцкі пэрыяд ён стаяў на скрайне левай старане БСГ і садзейнічаў расколу гэтай партыі, пераходу яе левага крыла на сторану Савецкай улады. Расказваючы аб сваёй працы у савецкі пэрыяд, ён у апрадаўльным тоне упэўніваў, што шчыра хоча служыць справе партыі і толькі ў сілу неабходнасьці адносінаў (па працы) з «нацыянал-дэмакратамі» у нейкай меры нявольна трапіў пад уплыў іх поглядаў і зрабіў рад памылак, як у сьветапоглядзе, так і ў практыцы. Цяжка, відаць, даліся яму гэтыя пакаяльныя прызнаньні. Але ў адным ён застаўся цьвердым. Існаваньне контррэвалюцыйнай нацыянал-дэмакратычнай арганізацыі і свой удзел у ёй рашуча адмаўляў. (ЦПА КПБ, ф.15, оп. 20, сп. 10, л 5-17)

Прэзыдыюм ЦКК ВКП(б) на паседжаньні ад 15 сакавіка 1931 г. выслухаў «Даклад камісіі т.Гольцмана ў справе буржуазных таварышаў» і даручыў камісіі ЦКК ВКП (б) унесьці яго на зацьверджаньне прэзыдыюма ЦКК з агульнай ацэнкай гэтай справы. На

(Заканчэньне. Пачатак ў № 2(12) —3(13))

прэзыдыюме былі разгледжаныя таксама пытаньні аб Жылуновічу, Ульянаве, Васілевічу, выключаных з партыі.

Аб Жылуновічу ў пастанове запісана: «2. *В отношении Жилуновича , подтвердить решение ЦКК Белорусии от 16.1.31 г. об исключении его из рядов ВКП(б); принять во внимание заявление т.Жилуновича о признании своих ошибок и представленную характеристику, которая дана ему парт-коллективом завода «Коммунар», считать возможным пересмотреть это постановление через год»* (ЦПА КПБ, ф. 4, оп. 21, сп. 220, л. 11)

Прэзыдыюм ЦКК ВКП(б), як сьведчыць дадзенае рашэньне, лічыў магчымым захаваць Жылуновіча ў радах партыі. Аднак ці разглядалася справа Жылуновіча праз год — незразумела. Нявыключана, што гэта быў своеасаблівы палітычны манэўр, некаторая затрымка практычна вызначанай расправы.

Абвінавачваньні ў прыналежнасьці З.Жылуновіча да антыпартыйных груповак, як гэта бачна з матэрыялаў партыйнага дасьледваньня, у асноўным грунтаваліся на паказаньнях арыштаваных у гэты час В.Ластоўскага, Я.Лёсіка, С.Некрашэвіча й іншых беларускіх дзеячоў навукі і культуры, у так званай справе аб дзейнасьці контррэвалюцыйнай арганізацыі «Саюз вызваленьня Беларусі».

З дапамогай гэтай спэцыяльна раздуваемай справы спрабавалі ўпэўніць грамадзтва ў існаваньні ў рэспубліцы разгалінаванай і быццам-бы старанна закансьпіраванай арганізацыі, хаця ні тады, ні пазьней прамых доказаў рэальнага існаваньня такой арганізацыі не было знойдзена. Тым няменьш, ужо на пленуме ЦК КП(б) Б, які адбыўся ў кастрычніку 1930 г. прама гаварылася аб яе існаваньні. З выступленьня Рапапорта, старшыні АДПУ рэспублікі, абвінавачваньні будаваліся цалком на паказаньнях асобаў, якія апынуліся пад следствам. Як здабываліся гэтыя «паказаньні» зараз ні для кога не зьяўляецца сакрэтам. Асобныя сябры ЦК КП(б)Б, у прыватнасьці С.Будзінскі, у сваіх высупленьнях папярэджвалі, што арыштаваныя (В.Ластоўскі, Я.Лёсік, С.Некрашэвіч і інш.) мажліва «*сознательно ставят вопрос так, чтобы замазать как можно больше белорусских коммунистов, чтобы лишить нас в максимальном количестве кадров белорусов-коммунистов, особенно из руководящего состава, чтобы доказать, что коммунисты-белорусы все до одного — как и они - национал-демократы*». (ЦПА КПБ, ф.4, оп. 20, сп. 75, л. 220, 259). Характэрна, што на гэтым-жа пленуме Рапапорт прызнаў, што АДПУ няма аснаваньняў лічыць, што Ігнатоўскі і Жылуновіч ведалі аб гэтай арганізацыі і ўдзельнічалі ў ёй. (ЦПА КПБ, ф.4, оп. 28, сп. 10, л. 104)

Для таго, каб паказаць, якімі доказамі аперавалі пры абвінавачваньні З.Жылуновіча, паглядзім некаторыя вытрымкі з дакумэнтаў таго часу. Так, у якасьці прамога пацьвярджэньня арыентацыі Жылуновіча на Захад ,разглядаліся яго крытычныя заўвагі аб выглядзе вуліц Менска (бруд на вуліцах) у параўнаньні з Рыгай і Бэрлінам, транспартным забеспячэньні горада аўтобусамі.

Пастаўленая ім ў сярэдзіне 20-х гадоў задача перад Белдзяржвыдавецтвам па павялічэньню выпуска кніжнай прадукцыі у інтэрпрэтацыі абвінаваўцаў атрымала нядобры сэнс толькі таму, што ён зрабіў адно параўнаньне, сказаўшы, што «*нейкая нікчэмная фірма ў Празе выпускае прадукцыі больш, чым нашае выдавецтва*» (ЦПА КПБ' а. 15, по 28, дп. 10, л.104)

Абражаны, раздаўлены маральна, дыскрэдытаваны палітычна, З. Жылуновіч вымушаны быў адыйсьці ад актыўнай грамадзка-палітычнай дзейнасьці, сканцэнтравацца на літаратурнай творчасьці. Уходзіў з палітыкі З.Жылуновіч, але на літаратурным небасхіле па ранейшаму зьзяла зорка пісьменьніка Цішкі Гартнага. У ліку першых 33 чалавек рашэньнем Усебеларускай камісіі пісьменьнікаў па прыёму ў Саюз пісьменьнікаў БССР 8 травеня 1934 году ён быў прыняты ў ягоны склад.

Заключны трагічны фінал яго нелёгкага лёсу набліжаўся. 15 лістапада 1936 г. З. Жылуновіч быў арыштаваны ворганамі НКВД фактычна па тым-жа абвінавачваньням, якія інкрымінаваліся яму ўжо ў пастановах ЦКК КП(б) ад 16 студзеня 1931 г. Знаходзячыся ў Менскай турме, ён, не вытрымаўшы маральных і фізычных зьдзекаў, прыйшоў у стан сурьёзнага псыхічнага расстройваньня. 7 красавіка 1937 г. яго пераводзяць для лячэньня ў Магілеўскую псыхіятрычную лячэбніцу, дзе праз 4 дні, 11 красавіка ён і памёр ад гангрэны легкіх. Пастановай НКВД БССР ад 20 сьнежня 1937 г. справа ў адносінах яго была перапынененая ў сувязью сьмерцы абвінавачваемага.

Так бязьлітасна таталітарная сыстэма расправілася з адным з яркіх, самабытных дзеячоў культуры, стойкім барацьбітом за справу сацыяльнага вызваленьня і нацыянальнага адраджэньня беларускага народу. І хаця з афіцыйных выданьняў да 60-х гадоў імя Жылуновіча практычна зьнікла, але памяць аб ім як аб адным з стваральнікаў беларускай дзяржаўнасьці, пісьменьніку, грамадзкім дзеячу жыла ў сэрцах мільёнаў людзей.

1955 г. справа З.Жылуновіча па просьбе жонкі разглядалася пракуратурай БССР і пастанаўленьнем ад 16 кастрычніка было прыпыненае за недаказальнасьцю злачынства. Гэта быў адзін з першых крокаў яго грамадзянска-прававой рэабілітацыі. І хаця ў пастанове парткамісіі ЦК КПБ ад 10 студзеня 1963 г, якая разглядала пытаньне аб рэабілітацыі З.Жылуновіча, было указана, што ў сьледчай справе «*няма ніякіх матэрыялаў, якія-б пацьверджвалі абвінавачваньне ў адрас З.Жылуновіча, як актыўнага ўдзельніка контррэвалюцыйнай фашысцкай арганізацыі, знойдзенай ў Менску*», тым ня менш тады яго грамадзка-палітычная рэабілітацыя так і не адбылася.

У 1969 г. пытаньне зноў разглядалася парткамісіяй ЦК КПБ у сувязі зь лістом В.Якутава і А. Клачко. У рэабілітацыі зноў-такі было адмоўлена.

І толькі ў 1988 г. З.Жылуновіч быў поўнасьцю рэабілітаваны. Памяць аб ім, нарэшце, належна ўвекавечаная.



# І паны гаварылі нашай мовай

Язэп Сажыч



Язэп Сажыч. 1935 г.

Я радзіўся, хрысьціўся, рос і вучыўся ў Наваградку. Пад час вучобы я наткнуўся на некалькі эпізодаў, якія прымусілі мяне прызадумацца і пагадзіцца з тым, што я з паходжаньня «ліцьвін».

Над ракой Валаўкай, датокам Нёману, у нізіне, уздоўж гасьцінцу з Наваградка на Любчу да Валожына разьмешчаны прыгожы пасёлак Гарадэчна, які цяпер амаль злучыўся з Наваградкам. Тыя, хто з-за Нёману ехалі ў акругова суд у Наваградак пераважна затрымоўваліся ў Гарадэчні начаваць. Нашыя людзі называлі іх «ганакамі», бо замест «гэты» яны гаварылі «гэны». Часта ад гэтых людзей я чуў незнаёмыя словы, як: «Вось кадзе ўстаў і ледзь знайшоў свае нагавіцы». (нагавіцы замест порткі» Ваколіца вакол Наваградка належыла ў мінулыя стагодзьдзі магнатым Хрэбтовічам, Керсноўскім і Шпілеўскім. Аб Керсноўскім успамінаў Адам Міцкевіч у паэме «Пан Тадэвуш» Таксама ўзгадваецца паэтам і пан Хрэбтовіч, маёмасьці якога зь сядзібаю ў Шчорсах былі разьмешчаны ў нізіне над Нёманам. Цікава тое, што пасьля вайны маёмасьці Хрэбтовічаў польскі ўрад раздаваў польскім асаднікам, бо Хрэбтовічы былі праваслаўнымі й эміговалі ў Францыю. Керсноўскія былі апалячаныя беларусы, і польскі ўрад дазволіў ім распрадаць сваю маёмасьць. У Гарадэчні застаўся невялікі маёнтак, ўласьніцай якога была Яніна Шпілеўская. Старыя людзі казалі, што род Шпілеўскіх вельмі старадаўні. Адзін з Шпілеўскіх Міхал быў у 1700 годзе намінованы кашталянам у Мсьціслаў, але не паехаў туды, застаўся ў Гарадэчна. У маёнтку Шпілеўксіх, здаецца, часта прабываў А.Міцкевіч, калі ён жыў і вучыўся ў Наваградку. А.Міцкевіч у паэме «Пан Тадэвуш» успамінае двор на горцы на другі бок рэчкі Валаўкі і лес за дваром. Усё гэтае нагадвае мне тыя мясьціны, дзе я правёў сваё маленства.

Бліжэй пад Наваградак разьмяшчаўся фальварак Гарадзілаўка, уласьніцай якога была Ванда Керсноўская, нашчадак старога роду. Яна выйшла замуж за Бэкэра, які з паходжаньня быў немец і прыйшоў да яе ў прымакі. Пані Ванда і не захоўвалася як «памешчыца», апраналася заўсёды сьціпла і была актыўнай у грамдзкім жыцьці. Кожны тыдзень, часамі пехатой прыходзіла яна ў Гарадэчню, у школу. А адлегласьць ад яе фальварку да школы была 2 км. Яна дзяцей каталікаў вучыла рэлігіі. Мы, праваслаўныя дзеці, маглі ў гэты час выходзіць зь клясы і гуляць на дварэ або ісьці дамоў. Можна было заставацца і ў клясе, толькі трэба было сядзець ціха на задняй лаўцы, слухаючы, што яна расказывае сваім вучням. Я часамі заставаўся

на яе лекцыях. Аднаго разу яна папытала сваіх вучняў аб тым, што расказвала папярэднім разам, і ніхто ня здолеў ёй адказаць. Я падняў руку й яна дазволіла мне адказаць на яе пытаньне. Паўтарыў я яе папярэднюю лекцыю дакладана, і гэта спрычынілася, што пані Ванда зацікавілася мной. А калі я скончыў 5 клясаў гарадэчанскай пачатковай школы і захацеў вучыцца далей, пані Ванда сама завяла мяне ў семігодку паўшэхнае школы імя Г.Пірамовіча ў Наваградку і запісала ў пятую клясу.

Школа імя Г.Пірамовіча была на высокім узроўні і давала добрую адукацыю. Так як мне было 11 год і зімою я ня змог-бы хадзіць 4 км у школу, якая была ў цэнтры Наваградка, бацькі з дапамогаю пані Ванды закватэравалі мяне ў старэнькага пана Рычарда Керсноўскага. У вельмі кароткім часе ён мяне спадабаў, бо я старанна выконваў усе ягоныя даручэньні. Ён прывучыў мяне даваць яму «застрыкі» пад скуру нейкіх лекаў. Часта прыходзіла адведаць мяне маці, прыносячы мне розныя ласункі. Мы паміж сабой гаварылі па-свойму прыцішаным голасам. Аднаго разу, калі маці пайшла дамоў, заклікаў мяне ў свой салён пан Керсноўскі і кажа: «Я чуў як вы размаўляеце на сваёй мове і мне сорамна, што не магу размаўляць на ёй. У мінулым мае продкі былі вялікім панамі, літоўскімі магнатамі. Ян Керсноўскі ў 1670 годзе быў нават ваяводай наваградзкім. І размаўлялі продкі мае па-літоўску, так як ты з маткай размаўляеш. Аб гэтым я чуў ад прадзеда, калі быў падлеткам. Жаліўся той, што пачалі паны лутоўскія размаўляць папольску, цураюцца сваёй літоўскай мовы, але ты, сынок, не саромься літоўскай мовы і памятай, што Наваградак быў першай сталіцай Вялікага княства Літоўскага». Ён заплакаў, гаворачы: «Мы былі й ёсьць ліцьвіны, мы мелі магутную дзяржаву і страцілі яе, бо мы, паны, з сваім народам разыйшліся. Народ сваёй мовы ня выракся, а мы, літоўскія паны, гэтай мовы забыліся».Ён устаў, падыйшоў да куфра, адчыніў і выняў гафраваны сьцяг з рыцарам на кані. Ён сказаў: «Гэта наш літоўскі герб Пагоня, а гэты малы ў куце наш радавы герб».



Радавы герб Керсноўскіх

Гэта быў невялікі шчыт,у ягоным чырвоным полі стаяў зьвернуты ў левую старану белы баран. Пан Рычард пацалаваў сьцяг і сказаў: «Пад гэтым сьцягам калісьці продкі мае ваявалі, а сёньня ён ляжыць у куфры». Я стаяў і слухаў яго, як зачараваны. Я толькі часткова зразумеў яго, але некаторыя словы запамятаў на ўсё сваё жыцьцё, менавіта тое, што я не паляк, а ліцьвін , і літоўскія паны, магнаты, гаварылі гэтак, як мы гаворым ў Гарадэчна. Я расказаў аб гэтым свайму старэйшаму брату Ўладку, які закончыў гарадзкое вучылішча. Той любіў чытаць і меў шмат кнігаў. Брат выслухаў уважліва мяне і сказаў: «Так, мы

ліцьвіны. Раней тут была Літва і Наваградак быў сталіцай. Але нам у школе аб гэтым не гаворацць, не вучаць нашае гісторыі, нам у школе кажуць, што мы палякі, што была тут Польшча.»

У 1943 годзе, калі арганізавалася «Беларуская Самаахова» ў Наваградку, я спаткаўся з нашчадкам наваградзкіх магнатаў Мішкам Хрэбтовічам. У размове ён мне сказаў: «Продкі мае называлі сябе ліцьвінамі, а мы сябе сёньня называем беларусамі і гэтым адарваліся ад мінуўшчыны, ад гістарычнай спадчыны». Ён быў вялікі энтузіяст нацыянальнае партызанкі. Ён і мяне хацеў завэрбаваць, але паколькі я згоды не даў, нашае знаёмства абарвалася.

Калі я ў 1940-1941 гг. вучыўся ў Львоўскім унівэрсітэце, пасябраваў з украінскім студэнтам Влодымірам Гаўрылюком. Той часта вадзіў на сяло да свайго заможнага «стрыйка». І вось, калі першы раз ён прадставіў мяне свайму дзядзьку: «Цэ мой добры прыятэль білорус», той запытаўся: «А з відкіля Вы?» Пачуўшчы, што я родам з Наваградка адразу заявіў: «Які цэ білорус, та цэ-ж Вы лытвін».

У 1945 г. я паступіў ва ўнівэрсытэт у Марбургу. У вольныя гадзіны любіў ў гістарычным аддзеле бібліятэцы шукаць старыя кніжкі. Аднойчы заўважыў на хрыбце адной надпіс «Уладыслаў Ягайла». Я разгарнуў кнігу і пабачыў партрэт князя Ягайлы. Тады я стаў перагортваць яе, затрымоўваючыся на ілюстрацыях. Хутка знайшоў невялікі малюнак, на якім кароль стаяў на каленях у сваёй капліцы. На сьценах капліцы былі праваслаўныя іконы, а пад малюнкам па-нямецку напісана: «Кароль быў пабожным, кожны вечар маліўся ў сваёй капліцы ў Кракаве на сваёй роднай мове («муттэ прахэ»). На наступнай старонцы нямецкі гісторык лацінскімі літарамі падаў зьмест малітвы Ягайлы: «Божа міласьцівы, пайшлі здаровечка маёй княгіне Ядзьвісе». Гэтыя словы ўрэзаліся мне ў памяць, але ўся малітва была даўжэйшая й я не запамятаваў яе. Зараз шкадую, што тады не перапісаў нават аўтара і назову кнігі. Гэта была вельмі каштоўная для мяне кніга, бо аўтар даваў прыклады, што Ягайла ніколі добра не валодаў польскаю моваю, гаварыў «па-літоўску». Аднак словы малітвы ды іншыя прыклады сьведчылі, што паміж тагачаснай літоўскай і сучаснай беларускай мовамі розьніцы не было.

У 1950 годзе я апынуўся ў ЗША і працаваў у шпіталі як тэхнік анэстэзіста, бо ангельскай мовы тады добра ня ведаў. Працаўнікі шпіталю ўсё распытвалі мяне, адкуль я й якой нацыянальнасьці. Цяжка было расглумачыць ім, дзе знаходзіцца Беларусь, бо яны ня мелі ніякага ўяленьня аб нашай зямлі. Адной раніцы, калі мы рыхтаваліся да апэрацыі мой «бос» др. Шорц запытаўся мяне: «А якая сталіца тваёй Беларусі?» Я кажу: «Менск». Тады ён усклікнуў: «Менск, Пінск, Смаленск. Ты-ж ёсьць літвак». Я зьдзівіўся і запытаўся, адкуль ён ведае, што я літвак, а не беларус. Др.Шроц адказаў: «Мой дзед вучыўся ў Чыкагскім унівэрсытэце. Там было шмат студэнтаў, якія гаварылі між сабой папольску. Аднаго разу мой дзед пасварыўся з адным з гэтых студэнтаў і назваў яго: «Дэм полак».Той схапіў дзеда за грудзі і кажа: «Паб'ю цябе, калі яшчэ раз назавеш мяне паляком. Памятай, што я літвак». Пазьней дзед зь літваком пасябравалі, й да таго часу літвак часта расказваў дзеду Шорца пра Літву і яе гісторыю.

Я таксама пасябраваў з унукам старога літвака Шорца. І ён ужо ведаў, дзе знаходзіцца Беларусь



# Беларусы ў Аргентыне

Кастусь Мерляк



Новы 1953 год традыцыйна распачаўся Каляднім вечарам 10 студзеня. У праграме былі дэклямацыі й сьпевы, а самае галоўнае Дзед Мароз, які раздаваў для малых і старых падарункі. Гэтым разам Управа ЗБА выдала чарговы камунікат з навагоднімі прывітаньнямі і пажаданьнямі для беларусаў у Аргентыне.

12 красавіка 1953 годзе а гадзіне 10:30 дэлегацыя беларускай калёніі ў Аргентыне ўшанавала памяць жонкі прэзыдэнта Эвы Пэрон, складаючы вянок кветак ля яе магілы. Гэтым актам распачалося падвойнае сьвята: 35-я ўгодкі абвяшчаньня незалежнасьці БНР і 5-я ўгодкі існаваньня й дзейнасьці Згуртаваньня Беларусаў у Аргентыне. Беларскую дэлегацыю прыняў шэф цырымоніі, які кіраваў прабегам акту. Прабег цырымоніі фатаграфавалі прадстаўнікі аргентынскай прэсы. Сымбалічная магіла Эвы Пэрон была ўладжаная ў будынку фундацыі яе імя. Тут, пасьля яе сьмерці, на працягу цэлага году ўшаноўвалі памяць дастойнай дамы прадстаўнікі краінаў цэлага сьвету.

Пасьля злажэньня вянка ўсе паехалі да Украінскае Праваслаўнай Царквы, дзе адбыўся малебен за беларускі народ.

Заля Летувіскага клюба была ўдакараваная Аргентынскім і Беларускім сьцягамі, абапал якіх віселі партрэт Прэзыдэнта Пэрона й герб Пагоня. А гадзіне 18-й госьці й сябры ЗБА занялі месца за добра застаўленымі сталамі. К. Мерляк прывітаў гасьцей і коратка пазнаёміў з падзеямі, якія давялі да абвешчаньня незалежнасьці Беларусі актам 25 сакавіка, за ажыцяўленьне якіх змагаецца беларускі народ.

У. Другавец расказаў пра 5-ці гадовую дзейнасьць Згуртаваньня Беларусаў у Аргентыне. Тут-жа ўсім прысутнум была раздана кніжка «Беларусь і Беларусы ў Аргентыне» (Bielorrusia y los Bielorrusis en la Republica Argentina), выдадзеная ў гішпанскай мове Згуртаваньнем Беларусаў у Аргентыне.

Падчас банкету выступленьні прадстаўнікоў перапляталіся беларускімі песьнямі з кружэлак, награных беларускімі студэнтамі ў Лювэне. З прывітаньнямі выступіў др. М.А. Рубінэц, генэральны сакратар Украінскага прадстаўніцтва ў Аргентыне, сп. Гашас, старшыня Латвійскага Аб'яднаньня ў Аргентыне, сьвятар А. Ледніцкі сябра Камітэту Вызваленьня Славаччыны, інжынер С.Слівінскі, заступнік старшыні Саюзу палякаў у Аргентыне, генерал Тодар Даўкантас —былы міністар абароны Летувы, рэпрэзэнтуючы Летувіскую калёнію ў Аргентыне. Ад імя прысутных гасьцей Аргентынцаў выступіў Мануэль Каніване, які адзначыў, што 5-ці гадовая дзейнасьць ЗБА зьмяніла пагляды аргентынцаў адносна беларускае эміграцыі, паказала беларускі народ і яго імкненьні, а перадусім здабыла давер у афіцыйных колах Ураду. Ад сяброў ЗБА выступіла Вольга Гейхрох, якая дзякавала папярэднай і цяперашняй Управе за праведзеную працу.

Госьці мелі нагоду аглядаць выстаўку беларускае прэсы на чужыне, зладжаную М.Ланкевічам.

Кніжка «Беларусь і Беларусы ў Аргентыне» рассылалася на працягу цэлага 1953 году ва ўсе краіны Цэнтральнай і Паўдзённай Амэрыкі, у міністэрствы замежных і ўнутраных справаў, унівэрсытэты, бібліятэкі, навуковыя ўстановы, і галоўныя газэты

(Заканчэньне. Пачатак ў 1 1(10)—3(13))

кожнай краіны. Кастусь асабіста наведваў амбасады кожнай краіны, уручаў ім па 3 экзэмпляры кніжкі й ад культурных аташэ атрымоўваў адрасы для яе рассылкі. Кніжка атрымала некалькі прыхільных рэцэнзыяў на эміграцыі за выняткам каментарыя а. Льва Гарошкі, якому не спадабаліся зьмешчаныя ў ёй фатаграфіі.

31 травеня 1953 году адбыўся чарговы агульны сход ЗБА, на якім быў разгледжаны абшырны парадак дня. У новую ўправу былі выбраныя: Васіль Казлоўскі,—старшыня і сябры: А. Літвінскі, М.Ланкевіч, Л. Петраш і А. Карповіч. У рэвізыйную камісыю ўвайшлі К.Мерляк, С.Камар і П. Кудрэз.

На гэтым сходзе абгаварвалася справа рэгістрацыі жадаючых выяжджаць у ЗША, якая праводзілася амэрыканскім консулятам ужо некалькі месяцаў. Каб выехаць ў Амэрыку пачалі запісвацца сябры ЗБА і наогул беларускае грамадзства. Пасьля доўгай дыскусыі, сход дайшоў да выснавы, што бяручы пад увагу існуючы палітычны й эканамічны стан у Аргентыне, трэба не перашкаджаць, а пры партэбе дапамагаць у афармленьні дакумэнтаў на выезд у ЗША

Да канца 1953 годзе ладзіліся некалькі вечароў зь лекцыямі. Так, 2 жніўня інжынер Ф.Фамін прачытаў лекцыю на тэму «Этнаграфічныя межы Беларусі», а 19 верасьня «Агульны ўступ да беларусаведы». 7 лістапада ў армянскім клюбе была зладжаная вечарына з народнымі выступленьнямі й беларускім буфэтам. 29 лістапада ў сьвятліцы ЗБА адбылася акадэмія з нагоды ўгодкаў слуцкага паўстаньня.

У пачатку 1953 году была закончаная акцыя зьбіраньня вестак аб ахвярах бальшавіцкага тэрору ў Беларусі. Сабрана дакладных дадзеных аб 109 сем'ях. Ліста была выслана ў Нью Ёрк, у Прэзыдыюм Рады БНР на рукі сп. М.Панькова

Як заўсёды новы 1954 год распачаўся традыцыйным Калядным вечрам 9 студзеня з праграмай, у якой былі прадбачаныя вячэра, сьпевы, падарункі для дзяцей і неспадзеўкі . Старшыня ЗБА Васіль Казлоўскі прывітаў гасьцей ды пажадаў усім шчасьлівага новага году. Дзеці дэклямавалі вершы, якія развучылі з Аленай Зарэцкай, братам і сястрой Сакалоўскімі.

Сьвяткаваньняе 36-х угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці БНР ўпершыню на эміграцыі распачалося радыёперадачай праз радыёстанцыю «Эксцэльёр» 28 сакавіка 1954 года, а гадзіне 9:30 раніцы. Напачатку поўгадзіннай праграмы прагучала малітва «Магутны Божа». Затым з прамовай у гішпанскай мове выступіў К. Мерляк. Разам з інфармацыяй, прысьвечанай ўгодкам абвешчаньня незалежнасьці Беларусі, ён паінфармаваў пра акупацыйную палітыку расейскага бальшавізму, пра ЗБА й яе дзейнасьць ды падзякаваў ўраду й Аргентынскаму народу за гасьціннае прыняцьцё беларускіх эмігрантаў. Далей перадаваліся песьні студэнцкага хору ў Лювэне з тлумачэньнем народнага фальклёру і зьместу песьняў, якія сьпяваюцца пры розных нагодах жыцьця ў Беларусі. Праграму, якая была вельмі цікавая, паўтарылі 3 красавіка дзьве радыястанцыі «Дэль Пуэблё» і «Пор тэнё». 28 сакавіка быў адслужаны малебен за Беларусь, а па абедзе адбылася ўрачыстая акадэмія, прысьвечаня 36-м угодкам абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі.

У травені 1954 году Управа ЗБА зладзіла адмысловы абед у прыватнай вільлі Лазара Майко для прадстаўнікоў Мінсісгэрства унутраных справаў. Падчас абеда была парушаная патрэба сталых радыёперадачаў для беларускае калёніі. Праз тыдзень К.Мерляк атрымаў афіцыяльнае паведамленьне, што Міністэрствам інфарма

цыі адпускаецца раз на тыдзень 30 мінут часу для беларускіх перадачаў праз радыё «Эксцэльёр». Паведамленьне пачыналася словамі: «Разглядаючы вашую просьбу мы ўзялі пад увагу пазытыўную працу ЗБА, а перадусім выдатную кніжку «Беларусь і Беларусы ў Аргентыне» ды астатнюю перадачу праз радыё «Эксцэльсёр».

УІІ агульны сход ЗБА адбыўся 30 травеня 1954 году. Пасьля справаздачаў і ўдзяленьня абсалюторыюма ўступаючай управе, была выбраная новая. На старшыню быў выбраны У.Другавец зь сябрамі: А.Літвінскім, М. Ланевічам, Л. Петрашам і Ак. Карповічам. У справаздачы старшыні было падана, што ў архіў Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва, на рукі яго кіраўніка М. Панькова былі высланыя ў 1953 і 1954 годзе 110 дакумэнтаў і беларускія календары за 1941,1942, 1943, 1974 і 1948 гады.

Разьвітальны банкет спадарству Мерлякам з нагоды іх выезду ў Амэрыку 1 ліпеня зладзіла ЗБА 17 чэрвеня 1954 году у Летувіскім клюбе ў Буэнос Айрэс. У банкеце ўзяў удзел заступнік шэфа Коордынасіон Фэдэраль дон Хозэ А.Колёдро з сваімі калегамі. Падчас свае прамовы ён уручыў Кастусю ліст ад свайго шэфа палкоўніка Хорхэ М. Осіндэ. Прысутныя прадстаўнікі ад нацянальных арганізацыяў прамаўлялі й жадалі Мерляком шчасьлівага падарожжа і ўсяго найлепшага ў Амэрыцы. Ад імя ЗБА і ўсіх прысутных ўзяў слова старшыня У.Другавец, а Лявон Петраш уручыў Кастусю на памяць Грамату, падпісаную ўсімі прысутнымі. Кастусь, разьвітваючыся, падзякаваў прадстаўнікам за пажаданьні, заклікаў іх да аб'яднаньня, каб разам вызваліцца з-пад расейска-камуністычнага панаваньня. Падняў тост за аргентынскі народ і яго Прэзыдэнта ды разьвітаўся словамі: «Запэўніваю вас, нягледзячы на тое, што разлучаюся з сваёю другою Бацькаўшчынаю, яна застанецца назаўсёды ў маёй памяці. Бо немагчыма бацьку забыцца пра бацькаўшчыну свайго сына —Аргентыну»

*Пасьля выезду Кастуся, пачынаючы з 1955 году, пачаўся «экзодус» беларусаў з Аргентыны Перш пачалі ехаць на «Радзіму» беларускія эмігранты міжваеннага пэрыяду (1923-1933), каб «зажыць шчасьліва» ў Савецкай Беларусі. Выехала іх нямала. Каб даведацца, якое было іх жыцьцё пасьля павароту, трэба было чакаць 10 гадоў на тых, хто ўсе-такі вярнуўся назад у Аргентыну ды ўсё расказаў. А вярнулася няшмат. Саветы назад пускалі толькі тых, хто нарадзіўся ў Аргентыне і толькі ў вынятковых абставінах.*

*Пачынаючы з 1957 г., пачалі выежджаць беларусы ў Амэрыку, але тыя, якія прыехалі ў Аргентыну пасьля другое сусьветнае вайны. Між першымі прыехаў у 1958 г Уладзімір Другавец. (Па выезьдзе Кастуся, ён стаў на чале кіраўніцтва грамадзкага жыцьця ў Аргентыне), дзьве сям'і Бычкоўскіх, тры сям'і Дземідзенкаў, дзьве сям'і Губартоў, Дубоўскія, Зарэцкія, Снысько, дзьве сям'і Саўчынцаў, Каленік, пратаэрэй Васіль Вячорка з сям'ёю ды іншыя.*

*ЗБА па некалькіх гадох існаваньня зьліквідавала сваю канцылярыю ды перанесьла адрас на прыватную кватэру М. Ланкевіча. Ф. Фамін і М. Ланкевіч зь іншымі сябрамі прадаўжалі дзейнасьць ды рэпрэзынтацыю беларускае калёніі ў Аргентыне больш за дзесятак гадоў. У міжчасе адзіны па аднаму пачалі пакідаць гэты сьвет А. Літвінскі, Д.Кулік, С. Камар, інжынер Ф. Фамін, М. Ланкевіч, А. Кулак і Гэйхорх ды іншія.*

*Выязджаючы з Аргентыны Кастусь паабяцаў за пару год вярнуцца назад. На жаль, ен змог зьдзейсніць задуму толькі пасьля 32-х гадоў. У травені 1986 годзе Кастусь і Ганна наведалі Буэнос Айррэс і правялі там два тыдні. У гатэлі «Панамэрыкано» 25 травеня яны наладзілі прыняцьцё, на якое прыбылі сем'і й адзіночкі: Ланкевіч, Фамін, Другавец, Паўлоўскі, Кейзік, Карповіч, Грынкевіч, Гімпель. Гейхрох і Цяўлоўскі. Палова зь іх былі малодшае пакаленьне й ужывалі гішпанскую мову.*

*Калі Кастусь з сваімі сябрамі прыехалі ў Аргентыну ў 1947-1948 гг. і пабачылі як іхнія папярэднікі жывуць, думалі й казалі, што яны будуць жыць шмат ляпей. Аднак, пасьля 32-х гадоў, Кастусь зьменаў ен заўважыў —хаты з бляхі й саману на Вільля Жардзін як стаялі, так і працягвалі стаяць. Прыгадалася, як сьв. памяці ін. Ф. Фамін пісаў Кастусю ў Амэрыку: «...Я ў сваім жыцьці зрабіў толькі адну памылку—выбраў не адпаведную краіну на пасяленьне»*

*Але і ўсе іншыя ня выбіралі — іх лёс туды завеў.*

# Недабітыя рыцары

Міхась Кавыль

*Час быў—маршы пахавальныя,*
*Мы жылі, далей жыць нельга як...*
*І маякамі ратавальнымі*
*Замаячыла ў далечы Бельгія.*
*Уздыхнула і брудам, і рудамі*
*Поўным роздыхам статная готыка,*
*Што ўратавалася цудамі*
*Ад «фугасных» гарачага дотыку.*
*Ёй было няпрыемна за хмарамі*
*Выхваляцца космасу шпіцамі:*
*Аўтастрадамі, тратуварамі*
*Ходзім мы —недабітыя рыцары.*
*А яшчэ дзесь зласьліва заенчылі*
*Гастразубыя сьцены курантамі,*
*Каб і далей мы ў немачы енчылі*
*Перад аліянтамі:*
*«У імя справядлівасьці,*
*На аснове «Хартыі» —*
*Не аддайце бязьлітасьці*
*Нас, нявінных...» Вартыя*
*Узнагарод за пакуты, нябачныя,*
*Як у трасцы трасьліся мы ў сполаху.*
*Нашы сьлёзы — салодкія, смачныя*
*Ненажэру крываваму Молаху.*
*Мы давіліся белымі булкамі,*
*Дні былі, як і ночы, чорныя.*
*Уцякалі, хто куды, завулкамі*
*Ад зялёных «чорных воранаў»...*
*Пад зямлёй мы крывёй абліваліся,*
*Надрываліся: бракла нам вопыту.*
*Кпілі з нас «нунджакі» насьміхаліся,*
*Учынялі бязглуздыя допыты:*
*«А чаго вы, фашысты, прыехалі?*
*На Радзіму чаму не жадаеце?»*
*У адказ мы спачатку кахекалі,*
*А пасьля, акрыліўшыся. — маеце:*

*Не ўдзяўбці цьвёрдалобаму словамі,*
*Што ня хочам мы вечна быць люмпамі, —*
*Не яны нас, а мы іх па-новаму*
*Жыць вучылі жалезнымі лямпамі...*
*Іх няшмат з ахварбоўкай чырвонаю,*
*Што узмроілі стаць Самасуямі.*
*Пад бэльгійскай вольнай каронаю*
*Можна стукацца лбамі з буржуямі.*
*Нам знаёмыя гэтыя выбрыкі,*
*Мы і зараз крывёй ад іх харкаем.*
*Я жадаў-бы, каб гэтыя «бімбрыкі»*
*Пабылі ў Сібыры з кухаркамі,*
*Што павінны умець і дзяржаваю*
*Кіраваць, як напісана ў Леніна.*
*Ім ня ўцям, колькі дзесь пад Палтаваю,*
*Ці ля Менску кухарак расстрэляна...*
*Мы ўжо бачылі злыбедзь усякую.*
*Жыць у згодзе зь Юдамі нельга...Я*
*Ад імя «дэпістаў» Вам дзякую,*
*Рулявыя вольнай Бэльгіі!*
*Працягнулі Вы першыя рукі нам,*
*Не баяліся грознага волата.*
*Будуць дзякаваць дзеці і ўнукі Вам.*
*Што ўзрастуць не пад сэрпам і молатам.*
*А пакуль загаворыць гарматамі*
*Вольны сьвет з дыктатурнымі клікамі,*
*Як на фроньце, мы будзем салдатамі*
*У капальнях з «мартапікамі»...*

1947-1992 гг.
Ля-Лювэр—Саўт-Рывэр.

Тлумачэньні:
«Нунджакі» — так ДП называлі бэльгійскіх вуглякопаў.
«Бімбрыкі» —раўназначна «нунджакі»
«Мартапік»- забойны малаток.

# Стаю на вулачцы знаёмай...

Лявон Эміліт

*Стаю на вулачцы знаёмай*
*І бачу родны ціхі дом.*
*Акно зацягнутае стомай*
*І лаўку тую-ж пад вакном.*
*Амшэлай брамы лік шчарбаты*
*І расквітнеўшы буйна бэз.*
*Мой дом ўжо, як грыб гарбаты,*
*Ён яшчэ болей у дол улез.*
*Ледзь чутна зарыпелі сенцы.*
*Знаёмы водар дух заняў.*
*Уцёк каток. Вось ля вакенца*
*Вісяць сухія нізкі траў.*
*Загаманілі ў сэрцы звонка*
*Гадоў мінулых галасы*
*І зьніклі. Цьмяная іконка*
*Усё лічыць божыя часы.*
*Згусьцелі цені. Шэры вечар*
*У дом крадзецца праз вакно.*
*Яны—сябры і іх сустрэчу*
*Хацеў пабачыць я даўно.*
*Ледзь чутна маятнік хіснецца —*
*Вісіць чугунны агурок.*
*Няўжо мне маці усміхнецца*
*І скажа ціха: «Ты, сынок?»*



*Стаў нябачны мой сьлед на дарогах,*
*А пралеглі яны скрозь мяне,*
*Вось і боль прытупіўся патроху.*
*Боль, што сэрца твае не міне.*
*Сьлёз няма. Толькі дзе-ж тыя межы,*
*За якімі пакуты душы?*
*Усе пачуцьці мае нібы вежы*
*Болю, смутку ў маўклівай глушы.*
*Толькі дні карацей. Быццам вочы,*
*Бачаць восень ужо на двары,*
*Што адчуўшы нядобрыя ночы,*
*Паліць дзень у вячэрняй зары.*
*І крывавыя блікі заранак*
*Над зямлёй маёй ярка гараць.*
*Шлях ня скончаны, рушым у ранак,*
*Болей сэрца ня можа трываць.*



# Мая няволя



*Лявон Шыман*

На лесапавальных пунктах жанчын не было, працавалі толькі мужчыны. Жанчыны і мужчыны былі разам толькі ў лягерах, дзе выраблялі шырпатрэб. Яны рабілі сталы, крэслы, табурэткі, шылі целагрэйкі і рабочыя рукавіцы. Вось калі нас накармілі хлебам, нам захацелася жанчын. Выхад з гэтага знайшлі. З г. Горкага прыязджалі да нас пад выглядам адведаць сына або мужа жанчыны. Мы ім загадзя рыхтавалі на лесасецы логава,а бесканвойныя ноччу заводзілі іх туды. Калі раніцай мы прыходзілі на працу, нас ужо пад вялікім сакрэтам чакалі гэтыя жанчыны па адной у логаве. Кожны брыгадзір павінен быў забясьпечыць жанчыну вадой і ежай. Грашовае ўзнагароджаньне павінен зрабіць сам хахаль. Гралі з жанчынамі па чарзе і па чыну. Першы—брыгадзір, пасьля павальшчыкі, раскрыжоўшчыкі і г.д. Стаўка была дваццаць пяць ріблёў. Калі канчалася зьмена, мы ішлі ў лягер, а жанчыны, адляжаўшыся да *вечару, ішлі на* цяплушку *і ехалі* ў Горкі. Некаторыя, больш трывалыя, заставаліся яшчэ на адзін дзень.

Калі гаварыць пра жанчын, то гэта паўбяды. Быў і такі выпадак. Мужык прывёз на белай кабыліцы здаваць у ларок бульбу. Пакуль ён важыў бульбу ў загадчыка ларка, блатныя адвязалі кабылу і хутка завялі яе ў барак. Па лесьвіцы зацягнулі на другі паверх, налажылі на стол хлеба і пачалі па чарзе....Адзін трымае хвост, а другі, прытасаваўшыся, робіць сваю справу. Мужык выйшаў з ларка, а кабылы няма. Вакол агароджа, вартавыя, дзе кабыла? Паведамілі аб гэтым кіраўніцтву, ва ўсіх лягерах доўга шукалі прапажу ва ўсіх кутах. Толькі з дапамогай сэкстотаў ўдалося напасьці на сьлед. Паспрабавалі бедную жывёлу зводзіць уніз па ступеньках, але яна не пайшла. Тады завязалі паміж сабой коўдры, кабылу спуталі і поцягам сьцягнулі ўніз. Гаспадар моцна лаяўся і казаў, што больш ніколі не прывязе нам бульбы.

У двадцацішасьцігадовым узросьце я важыў 95 кг, быў дужым чалавекам. У той час не было побач мне раўні па моцы. За што ні вазьмуся, у маіх руках гнулася і ламалася. І вось аднойчы прыехаў да нас зь інфэкцыйнай лягернай лячэбніцы адзін брыгаднік. Усе іншыя хваробы лячылі на месцы ў лягерных пунктах. А на такія хваробы, як сіфіліс, ганарэя, жаўтуха і кароста, была створана інфэкцыйная лячэбніца, і разьмяшчалася яна на тэрыторыі жаночага лягернага пункта, куды было сагнана да пяці тысяч жанчын розных нацыянальнасьцей з рознымі тэрмінамі зьняволеньня. (Жанчын, акрамя палітычных, калі яны нараджалі ў лягеры дзіцё адпускалі дамоў. *Усе хацелі радзіць. Але не было мажлівасьці*). Вось гэты прыезджы і навучыў мяне, як трапіць ў лячэбніцу. Трэба было пакласьці пад нары некалькі кускоў цукру. Кускі павінны быць вялікімі, каб мышы поўнасьцю іх ня зьелі, а толькі памачыліся на іх. Ад кавалкаў такога цукру, ў мяне пажаўцелі вочы і стаў я жаўтушнікам.Цераз тры дні этапам быў я ўжо ва інфэкцыйнай лячэбніцы. Вылечылі мяне вельмі хутка — за два тыдні, але ў лягер назад не адправілі. Сёстры міласэрнасьці, санітаркі, прачкі і сястра-гаспадарніца папрасілі вольнанаёмную дакторку Марыю Іванаўну пакінуць мяне санітарам. Абслугоўваючага пэрсаналу ў жаўтушачным корпусе было 14 маладых жанчын. Адной толькі сястры-

гаспадарніцы было больш за сорак. Нас, няштатных санітараў, было дваіх. Па гісторыі хваробы мы лічыліся хворымі. Мы выконвалі ўсю чарнавую мужчынскую працу, ды абслугоўвалі сваіх жанчын па чарзе.

Санітарам я прабыў шэсьць месяцаў. Абрыдла насіць у морг памерлых, ды і свае сёстры міласэрнасьці паднадакучалі. Не дапамагала ніякая смачаная ежа і нават спірт для апэтыту. З 90 кг схуднеў да 65. Я часта ўцякаў у жаночую зону, каб пабачыцца з новымі людзьмі. Сёстры міласэрнасьці і санітаркі мяне перасьцерагалі: калі буду хадзіць за агароджу лячэбніцы, паскарадзяцца дакторцы, і тая выпіша мяне на лесапавал. Спачатку я іх паслухаўся, а пасьля ня вытрымаў і пачаў ад іх ўцякаць зноў. Аднойчы мяне паклікала дакторка і сказала: «Не хочаш мірна жыць з нашымі дзяўчатамі, шукаеш лепшых, дык ідзі ад нас, знайдзі сабе на лесапавале белую мядзьведзіцу.»

Так як я быў пасьля хваробы, мяне паставілі на шырпатрэб. На новым лягерным пункце было сем тысяч чалавек.На прадпрыемстве мы рабілі сталы, крэслы, шахматныя дошкі, табурэткі, тачылі шахматныя фігуры, фарбавалі іх і лакіравалі.

У той час ежы, хоць і поснай, хапала. Спачатку мяне паставілі столярам. Цераз месяц брыгадзірам. Як брыгадзір, я меў доступ да лаку, якім лакіравалі крэслы. Мы прытасаваліся піць яго замест гарэлкі. Рэцэпт быў просты. Бярэш бутэльку лаку, выліваеш яе у кацялок, потым дабаўляеш бутэльку цёплай вады, жменю солі і пачынаеш мяшаць палкай. «Непатрэбшчына» згушчаецца і ўсплывае наверх. Яе трэба сабраць квачом і выкінуць. Атрыманую вадкасьць працэжваеш цераз пясок зь бярозавымі вуглямі й атрымоўваеш галэлку 50%, праўда, моцна салёную.

Аднойчы брыгада столяраў, якую пачалі карміць гнілой рыбай, зрабіла забастоўку. Раніцою мы ўсталі, але ў сталовую не пайшлі. Прыйшоўшы ў рабочую зону, селі на драўляную падлогу, прыбілі цьвікамі да падлогі свае порткі і так прасядзелі да самага вечара. Сядзелі да тых пор, пакуль не прыйшоў начальнік і не паведаміў, што гнілую рыбу закапалі ў яму і больш ёю карміць ня будуць. Тады толькі забастоўшчыкі выцягнулі абцугамі цьвікі й пайшлі ў сталовую есьці кашу.

У брыгадзірах я хадзіў нядоўга, цераз тры месяцы назначылі мяне майстрам цэха. Жыў я ў асобным пакоі, есьці мне са сталовай насілі шасьцёркі. Вечар поўнасьцю праводзіў у канторы разам з вольнанаёмнымі нарміроўшчыкамі, эканамістамі і бухгалтаркамі. У асноўным гэта былі жонкі нашых ахоўнікаў. Амаль усе яны былі жанчыны разбэшчаныя, падкія да грошаў. Мужоў сваіх не любілі—нават ненавідзелі.

Аднойчы, калі быў я ўжо майстрам, паклікаў мяне да сябе начальнік лягера. (Гэта было ў 1952 годзе). Ён пазнаёміў мяне з Андшылерам Ісакам Маркавічам. Начальнік лягера быў жыд і па маім прозьвішчы думаў, што я свой чалавек. Начальнік сказаў Андшылеру: «Вось табе будзе пісар». Мне было дзіўна чуць гэта, бо такой штатнай адзінкі ў лягеры не было. Потым начальнік зьвярнiўся да мяне: «Будзеш жыць зь ім у адным пакоі й глядзець яго, шанаваць, як роднага брата».

Ваеннае званьне Андшылера было палкоўнік. Быў ён калісьці намесьнікам камандзіра па гаспадарчай часьці. Служыў пасьля вайны ва ўсходняй Нямеччыне, дзе і пагарэў, загнаўшы дзьве баржы тавараў у Заходнюю Нямеччыну. Тэрмін яму далі 25 гадоў зьняволеньня і пяць гадоў паражэньня ў правах. Адным словам, да

канца жыцьця. Але Андшылер моцна не хваляваўся. За год да сьмерці Сталіна ён неяк сказаў мне: «Сталін хутка памрэ, і мяне выпусьцяць на волю. Ты яшчэ будзеш сядзець, а я ўжо буду вольным казаком.» У далейшым так і адбылося. Запомнілася мне, што калі да яго прыязджала жонка, то пакой для прыезджых, дзе былі клапы і смурод, пабрызгалі духа́мі. Пасьля ад'езду гаспажы Андшылер, жонкі нашых афіцэраў на працягу двух тыдняў хадзілі туды, каб адчуць пах гэтых парфюмаў.

Адразу пасьля сьмерці Сталіна Андшылер быў выпушчаны на волю.

Калі я быў на шырпатрэбе, прыехала да мяне ў адведкі маці. На гэты раз на спатканьне я выйшаў чыста апранутым, не галодным і здаровым. Спатканьне нашае працягвалася трое сутак. Ніхто нам не перашкаджаў. Жылі мы ў адным пакоі, дзе была пліта і можна было зварыць ежу. Сустрэча з маці абвастрыла мае ўспаміны аб дзяцінстве і яшчэ выразьней замільгала надзея, што ўсё-такі прыйдзе той час, калі я закончу свае пакуты і вярнуся дамоў, на сваю радзіму. Жанюся, абзавядуся сямёй і стану жыць з сваім народам. Маці расказала, што мяне ўспамінаюць усе аднавяскоўцы. Жадаюць мне здароўя і чакаюць, калі ўжо я вярнуся. Маладыя дзяўчаты пытаюцца мой адрас, каб напісаць мне ліст і выказваюць жаданьне на сяброства са мной, кажуць, што ў далейшым будуць чакаць мяне, пакуль я не вярнуся зь няволі. Бальшавікі вакол нашай сям'і зрабілі нясьцерпную атамсферу і на кожным кроку папракалі маіх бацькоў і радню за мяне —ворага народу. Але простыя людзі гэтага не рабілі.

Разьвітаўся я з маці і зноў пайшоў працаваць на сваё месца, на якім ужо прыжыўся і на якім мне хацелася дабыць тэрмін свайго зьняволеньня. Крыўдна было за перакрэсленыя гады. Пайшлі яны на тое, каб проста выжыць. Толькі чым цяжэй ў няволі, тым больш хочацца жыць. Добра, калі ўсё добра, але маё «дабро» скончылася пасьля сьмерці Сталіна

На ўсё жыцьця я запомніў дзень 9 сакавіка 1953 году, калі па радыё абвесьцілі, што адняло мову Сталіну. Праз тры дні ён памер.Усе палітычныя ўздыхнулі лягчэй. Думалі, што і ў нашым лёсе, што-небудзь зьменіцца.

У дзень пахаваньня мудрэйшага з мудрэйшых бацькі ўсіх народаў я быў на бюлетэні і ляжаў у бараку. Калі пачаліся пяць хвілін жалобнага маўчаньня, я ня ўстаў з нараў. Убеглі наглядчыкі, сьцягнулі мяне з нараў, пачалі моцна біць і пытацца, чаму я не ўстаў, калі хавалі вялікага Сталіна. Пасьля гэта мне доўга яшчэ псавалі жыцьцё, калі я што-небудзь дрэннае казаў пра яго.

Пасьля сьмерці бацькі ўсіх народаў зрабілі вялікую амністыю й адпусьці́лі на волю ўсіх бандытаў і злодзеяў. Палітычных-жа амністыя не тычылася. Лягер апусьцеў і не стала каму пілаваць лес. А новы набор працоўнай дармовай сілы не так хутка нахапаеш. Усіх нас, у каго быў 58 пункт кодэксу, забралі з шырпатрэба й адправілі на лесапавал. І зноў я трапіў на вольны штрафны лягерны пункт, дзе па-новаму ўзяўся за лучок і пачаў па-ранейшаму валіць лес. Ежы хапала, хоць ўсё было і поснае. Хлеба пачалі даваць да 1110 грамаў на дзень.

Цераз месяц пасьля амністыі зноў пайшлі этапы. Некаторыя злодзеі далёка не ад'ехалі. За новыя злачынствы яны пачалі вяртацца ў лягер.Але тут яны свой злодзейскі закон ужо не ўзаконілі. Рабацягі згуртаваліся і пачалі іх біць і душыць, каб

выжыць у гэтым пекле. Аднойчы мы з брыгадай пайшлі на працу, а ў бараку пакінулі свайго днявальнага. Ён паленаваўся мыць падлогу і папрасіў за кавалак хлеба злодзея зрабіць гэтую працу. Сам днявальны адлучыўся ненадоўга, а яго памочнік застаўся адзін. Ён украў і зьеў кіло каўбасы з тумбачкі нашага мужыка, які нядаўна атрымаў пасылку. Вярнуўшыся з працы, адразу заўважылі прапажу. Пачалі дапытвацца ў днявальнага, дзе дзелася каўбаса. Днявальны як мог выкручваўся, што ён ня браў. Мы спыталіся, а ці быў у яго хто-небудзь у гасьцях. Тот прызнаўся, што яму памагаў мыць падлогу Мішка-злодзей па клічцы Квач. Мы зрабілі Мішку допыт. Той ад усяго адмаўляўся. Тады адзін наш брыгаднік ўнёс прапанову аб мэдычнай экспэртызе. Завялі Квача ў прыбіральню, памачылі пальцы ў дзярмо, савалі яму іх ў горла, пакуль яго не званітавала. Калі вырвала — усе ўбачылі, кавалкі каўбасы. Больш ніякіх довадаў было ня трэба. Тут-жа ўчынілі над ім самасуд. Вынесьлі яго на вуліцу, і тры разы, ўзяўшы за рукі і ногі, стукнулі аб зямлю. Больш да яго ніхто не падыходзіў. Другія злодзеі яго знайшлі і аднеслі ў стацыянар на лячэньне. Яны хацелі нам за гэта адпомсьціць, але нічога не атрымалася. Мы былі больш за іх згуртаванымі і фізычна мацьнейшымі.

Пасьля сьмерці тырана я напісаў у Ваенную калегію Вярхоўнага Суда заяву аб разборы маёй справы і просьбу аб памілаваньні. Чакаў адказу два гады і тры месяцы.

10 кастрычніка 1955 году, апоўдні на лесасецы падыйшоў да мяне вольнанаёмны начальнік, інжынер па тэхніцы бясьпекі і сказаў: «Леанід Юстынавіч, я рады табе паведаміць, што ты ўжо вольны чалавек». Сказаўшы гэта і не даўшы мне апомніцца, зьнік за агароджу. Калі я прыйшоў у сябе, то не паверыў гэтаму, палічыў ягоныя словы за жарт. Вечарам, калі мы прыйшлі з працы, вартавы паклікаў мяне да начальніка. Я хуценька пераапрануўся і, не вячэраўшы, пайшоў да яго ў кабінэт. Як толькі я пераступіў парог, начальнік, чаго ніколі не бывала, падняўся з-за стала і пайшоў мне насустрач. Ён падаў мне руку і сказаў: «Добры вечар, таварыш Шыман». Калі ён назваў мяне таварышам, у галаве паплыло, валасы сталі дыбам, і я павольна сеў на канапу. У галаве пачуўся шум, і я амаль ня бачыў свайго начальніка маёра Туставалава. Апрыпомніў я ад нашатырнага спірту. Цераз дзесяць хвілін я ўжо прыйшоў у сябе. Начальнік наліў дзьве чаркі гарэлкі, мне даў і сам выпіў. Дастаў са стала ліст паперы і зачытаў мне рашэньне Ваеннай калегіі Вярхоўнага Суда аб маім датэрміновым вызваленьні зь зьняцьцём судзімасьці і паражэньня ў правах. Пасьля гэтага чытаньня паміж намі пайшла гутарка. Начальнік, ведаючы мае арганізацыйныя здольнасьці, доўга мяне ўгаворваў застацца тэхнічным кіраўніком на прадпрыемстве, вядома, вольнанаёмным. Гаварыў, што для пачатку дадуць мне фінскі домік з трох пакояў, дапамогуць за кошт прадпрыемства абзавесьціся гаспадаркай, вопракай і мэбляй. А калі я неспадзявана заплакаў і сказаў, што даўно не бачыў маці, ён спахмурнеў, але сказаў: «Ну калі ня хочаш, едзь на радзіму. А калі там дрэнна сустрэнуць, вяртайся да нас, твая пасада будзе цябе чакаць».

Адзінаццаць гадоў я ня быў на радзіме. Зь іх 8 гадоў і 4 месяца быў катаржанінам, а 2 гады і 8 месяцаў салдатам Савецкай Арміі.

(Заканчэньне ў наступным нумары)

У музэі я сустрэў упершыню Сяргіевіча, які ўжо далей знаёміў мяне з астатнімі больш маладзейшымі працаўнікамі, што сядзелі ў маленькім пакойчыку. Іх было ўтрох. Яны сустрэлі мяне спачатку ня вельмі ветліва, але калі даведаліся, што я зяць Уладзіслава Галубка, дык уся гаворка пайшла паіншаму, шчыра і даверліва.




Аднойчы Сяргіевіч запрасіў мяне ў сваю мансарду, якую ўзяў у арэнду ад старога мастака. Майстэрня малая, але утульная. Там мы разглядалі партрэты дзеячоў беларускай культуры. Карціны мне падабаліся, але адчувалася нейкая сухаватасьць у фарбах і аднолькавасьць фарматаў, што рабіла ўражаньне царкоўных абразоў.

Кожны дзень я заходзіў у беларускі краяведчы музэй, а адтуль зь Сяргіевчам абходзілі касьцёлы, дзе мелася шмат абразоў італьянскіх майстроў, якіх, на думку Сяргіевіча, мне трэба ўбачыць абавязкова, бо можа другога выпадка ўжо больш ня будзе ніколі. Напружанасьць у горадзе кожны дзень павялічвалася. Горад жыў прадчуваньнем нечага вельмі важнага, вельмі страшнага. Гэта можна было меркаваць нават па таму, што ўсе касьцёлы служылі безь перапынку.

Звычайна Сергіевіч вёў мяне адразу да службовага ўваходу ў царкву або касьцёл. Ён даваў касьцёльнаму служаку ў рукі тры рублі і па-польску прасіў дазволу паглядзець разам з панам зь Менску царкоўнае малярства. Мы заходзілі ў Божы храм, Сяргіевіч станавіўся на калені. перажагнаўся далонью і толькі пасьля дазваляў сабе прайсьці далей разам з мною.

Між тым тыпажы былі розныя — кантрастныя—і гэта выручала кожны партрэт ад таго, каб параўноўваць іх паміж сабою.

Гэта былі партрэты вядомых дзеячоў нашага адраджэньня. Запомнілася мне вялікае палатно ксёндза Станіслава Глякоўскага (Глякоўскі аказаў моцны ўплыў на Сяргіевіча і быў ягоным добрым прыяцелям —Рэд.)

Пад канец Сяргіевіч паказаў мне краціну «На той бераг»(?), поўную сымболікі. Беларус змагаецца на сваім невялікім ветразі з марскою бураю. Хвалі накрываюць яго моцную фігуру, але ён хватка трымае мачту ў руках, інакш можна згінуць разам з ветразем у марскім бяздоньні.Кампазыцыя была настолькі пераканаўчая, што нічога не дадаць, не адняць . Усё на мейсцы, фарбы адпавядаюць таму драматызму, але самае галоўнае і каштоўнае ў задуме, што гледач верыць у перамогу моцнага маладога беларуса.

(Працяг. Пачатак ў №5-3(13))

Карціна выконвалася ў пачатку трыццатых гадоў. Шкада, што найлепшы твор беларускага мастака не знайшоў месца ў нашым дзяржаўным мастацкім музэі. Дарэчы скажам, што ў памяненым музэі няма нацыянальнага беларускага выяўленчага мастацтва ў гістарычным разьвіцьці. Ёсьць вялікі аддзел расейскага мастацтва, які нагадвае філіял Трэцьякоўкі ў Маскве ці Рускага музэю ў Пецярбурзе, ёсьць беларускі аддзел часоў Айчыннай вайны, а што датычыцца больш ранейшых часоў, то такога аддзелу няма. Усе творы знаходзяцца ў сховішчах, далёка ад вачэй сучаснага гледача, быццам і не было іх ніколі.

На разьвітаньні Сергіевіч даў мне стужку фотапартрэтаў, а я ў сваю чаргу перадаў яе старшыні Саюза мастакоў Рубінштэйну, дадаўшы на словах, хто такі Пётра Сяргіевіч. У газэце «ЛіМ» Рубінштэйн (ён да ўсяго лічыўся яшчэ і журналістам)— зьмясьціў фота партрэтаў разам з кароткай анатацыяй аб іх. Але партрэта кс. Глякоўскага сярод іх не было.


На вуліцах Вільні. У цэнтры кс. Глякоўскі, 1937 г.

Надыходзіў час майго вяртаньня зь Вільні. Мне належыла разьвітацца з музэйнымі навукоўцамі й асабліва зь Сяргіевічам, мы абодва цікавіліся адной тэмай і гэта нас аб'ядноўвала, як мастакоў.

Цікавая гутарка адбылася пры разьвітаньні з працаўнікамі краязнаўчага музэю. Мяне зьдзівіла асьвядомленасьць віленчукоў, хто і дзе працуе на кіруючых пасадах у Менску ў залежнасьці ад нацыянальнай прыналежнасьці

— Вам у Менску,—сказаў адзін з маладзейшых навукоўцаў,—няма чым ганарыцца. У вас пануе жыдоўскае засільле.

—Мы так ня толькі не гаворым, але так нават і ня думаем,—адказаў я.

Той зьдзіўлена паглядзеў на мяне і працягваў:

— Дык вось Вам, калі ласка, просты прыклад. Ваш старшыня Саюза савецкіх мастакоў БССР Рубіншыэйн — жыд?.

—Так, - пацьвердзіў я.

— Глядзім далей. Начальнік кіраўніцтва па справах мастацтва пры Савеце народных камісараў БССР—Азірскі. Далей галоўны рэдактар штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» Айзік Кучар, зараз Алесь Кучар. Дырэктар Вялікага тэатра опэра і балета Гантман, Главуліт — Дадзіёмава. У ЦК КПБ —Чорны, Конік, Лапідус, нарком НКУС —Бэрман.

Ён назваў яшчэ пару яўрэйскіх прозьвішчаў з апарату ЦК ЛКСМБ, камітэту Фізкультуры і спорту. Потым перайшоў на салістаў тэатра опэры і балета: народны артыст БССР Ісідар Балоцін, народная артыстка БССР Млодэк, народная артыстка БССР Друкер, народны артыст БССР С. Дрэчын, салісты балету Гурвіч, Вяпрынскі, салістка Рубіна, дырыжоры Гітгарц, Шнэйдерман, кампазітар Любан, Вагнер, рэжысёры Л.Літвінаў (Гурэвіч) ў БДТ-1,

Галаўчынер ў БДТ-2, дрыкэтар Дзяржцырка ў Менксу Кабішчар, дырэкатар кінатэатра Кагановіч, рэжысёр Дорскі, ён жа дырэктар БДТ-2 у Віцебску, кінаапэратар Бэраў і Вейняровіч (усе названыя народныя артысты ці заслужаныя дзеячы мастацтва). Я спыніў яго пералік і пагадзіўся зь ім, што, сапраўды, надта шмат жыдоў у мастацтве. Потым я сам пачаў успамінаць мастакоў тых-жа тэатраў, сябраў Саюза мастакоў, Саюзаў архітэктараў і кампазытараў. Прыгадалася, што аркэстры тэатраў, асабліва опэрны, мелі да 85 % музыкантаў яўрэяў. Пры Саюзе пісьменьнікаў была яўрэйская сэкцыя, якая налічвала звыш 15 крытыкаў, празаікаў, паэтаў. Радыёстудыя мела вядучых дыктараў, сярод ўсіх найбольш рухавых і таленавітых яўрэяў. А што казаць пра журналістаў! Сярод іх зь вялікай перавагаю былі рэпарцёры менавіта гэтай нацыі. Нават наромом земляробства, якому мы здавалі эскізы да карцін для беларускага павільёна ў Маскве быў жыд. У кансэрваторыю прымаліся толькі гарадзкія таленты яўрэйскай нацыянальнасьці, у музычную школу, таксама толькі яны, бо нікому не хацелася шукаць па вёсках ды мястэчках здольных да музыкі дзетак Яўрэі-ж добра ведалі шляхі самі, бо ў кансэрваторыі большасьць пэдагогаў зь ліку дырэктароў — іхнія людзі.

Магу зараз адным прыкладам пацьвердзіць факт абранасьці каму і дзе вучыцца ў мастацкіх навучальных установах. Гэта датычылася самых таленавітых дзяцей.

*...Сядзіць наш мастак П.Гаўрыленка ў кабінэце старшыні к кіраўніцтва па справах мастацтва пры СНК БССР Піліпа Пестрака, які часова спыніў сваю творчую дзейнасьць і мусіў займацца справамі мастацкімі. Пайшоў, мабыць, трэці ці чацьвёрты год пасьля вайны зь цяжкасьцямі, зь нястачамі, усюль, куды ні кінь вока, а тым больш у мастацтве. Вось і зараз Гаўрыленка як старшыня праўленьня Саюза мастакоў прыйшоў да Пестрака, каб ці то узгодніць, ці то атрымаць дазвол зрабіць экспазыцыю чарговай выстаўкі ў памяшканьні тэатра опэры і балета.*

*Раптам у кабінет заходзіць загадчыца музычнай школы са спісам навучэнцаў, якія трымалі экзамены і могуць быць залічаныя, згодна пратакола прыёмнай камісіі. Яна кладзе на стол спіс навучэнцаў і сочыць за выразам твару Пестрака, а той ўсё болей і болей нервуецца, відаць нешта яму не падабаецца. Нарэшце, ён кажа: «Слухайце, тут толькі гарадзкія дзеці, чаму няма нікога зь вёскі. Вы-ж выязджалі на раёны, у пасёлкі, дзе ёсьць шмат таленаві-тых дзяўчат і хлопцаў. Па ўсяму відаць, што вас гэтая справа ніколькі не цікавіла, але час не церпіць, сьпяшайцеся».*

Толькі я зноў адхіліўся ад гутаркі. Вернемся назад ў Вільню, дзе паўсюды чуецца летувіская гаворка, і дзе летувісы ўсё настолькі перайначылі, што цяжка было знайсьці завулак зь беларускай або польскай назвай. Я разьвітаўся ў музэі з усімі, хто там быў. Але перад самым ад'ездам яшчэ пасьпеў зайсьці да летувіскіх пісьменьнікаў, каб пагутарыць зь імі наконт Кастуся Каліноўскага.

Драўляная хатка, дзе зьмяшчаўся пісьменьніцкі саюз ці ягонае згуртаваньне было як раз пад гарою Гедыміна, сярод гушчару пачынаючых зелянець дрэваў. Яна нагадвала асабняк нейкага пана, уцекшага ад бальшавікоў. Сустрэлі мяне там вельмі ветліва, нават зьнялі паліто ў гардэробе, што для мяне было ўпершыню. Паказаў я ім сваю камандыроўку, растлумачыў прычыну візыта і неўзабаве мяне запрасілі ў сталоўку, што была пры доме. За нашым

столікам сядзелі 4 чалавекі і толькі адзін зь іх добра гаварыў на расейскай мове. Быў ён і самы старэйшы за ўсіх, мабыць было яму за пяцьдзесят гадоў.

Па-першае, зь яго размовы высьветлілася, што Кастусь Каліноўскі належыць Літве, бо і завецца ён Костас Каліноўскас. Па-другое, сялянскае паўстаньне было на літоўскай зямлі — супроць генерала графа Мураўёва, які душыў усе нерасейскае насельніцтва, праводзіў жорскі ўціск на нацыянальнае адраджэньне і па-зьверску караў непаслухмяных мужыкоў. Асабістае паляваньне тайнай паліцыі засяродзілася на кіраўніках паўстаньня. Вядома, што ў такіх умовах Каліноўскі мусіў хавацца пад чужым прозвішчам. Ён знаходзіўся ў падпольлі, але не прыпыняўся ў працы, рызыкуючы кожную хвіліну, рабіў справу за волю, за сярмяжны народ, за мужыкоў беларусаў, палякаў і летувісаў.



Яўген Ціхановіч. Кастусь Каліноўскі, 1968 г.

Усё ўвогуле так, але чаму летувіскі пісьменьнік так настойліва цягне правадыра сялянскга паўстаньня ў свой літувіскі бок? Што мне заставалася рабіць? Я толькі сказаў яму, што ня будзем Каліноўскага дзяліць, калі ён рабіў агульную справу. Зараз я разумею, што меў на ўвазе той літувіс тады. Ён ня вельмі рабіў розьніцы між царскім і савецкім рэжымам. Тыя і іншыя былі захопнікамі, толькі пад новымі лёзунгамі.

А стары пісьменьнік прыціскаў мяне да сьцяны зноў. Маўляў, колькі у вас сапраўдных мастакоў? Вось Дэйнека, яго не зблытаеш ні зь кім. Хаця ён стаіць далёка ад афіцыйнага мастацтва, а яго ведаюць ва ўсім сьвеце, нават амэрыканскія турысты купляюць ягоныя творы.

Ён назваў рад мастакоў, што робяць прапаганду, але да сапраўднага мастацтва іх творы не маюць ніякага дачыненьня. Далей ён працягваў называць лепшых на яго погляд мастакоў, якіх ганьбіць афіцыйная крытыка. Маладыя пісьменьнікі моўчкі сядзелі і слухалі. Відаць было ,што яны ведалі расейскую мову, але ніхто зь іх не ўставіў ніводнага слова.

Потым я пайшоў з старэйшым пісьменьнікам глядзець графічную майстэрню. Мне было цікава разглядаць графіку на сьценах, што друкавалася тут-жа, на афортных станках. У сваёй большасьці графіка была з фармальнымі пошукамі. Былі цікавыя кампазыцыі з плястычнага боку, але па колеру, большасьць твораў пісаліся зь нейкім надломам, расчараванасьцю. Не адна з працаў гэтых мастакоў не прайшла-б наш выстаўком, бо гэта называлася ў нас гнілым Захадам, мастацтвам, якое уводзіць ад клясавай барацьбы, а гэты ўпадніцкі стыль дрэнна дзейнічае на выхавньне нашай моладзі. А між тым, у летувісаў было мас-

тацтва, над якім хочаш ты ці ня хочаш, а мусіш паразважаць. Мне заўсёды падабаліся мастакі, якія шукаюць сваю мову, свой твар і падабаюцца людзям, якія падрыхтаваныя да погляду, шырокім дыяпазонам на выяўленчае мастацтва.

*Прыгадваю, як аднойчы на банкеце ў рэстаране «Беларусь» да нас падыйшоў сталага ўзросту чалавек і на ломанай расейскай мове пачаў крытыкаваць выстаўку, якая экспанавалася перад зьездам у карціннай галерэі. Гэты дзядзька дзівіўся таму, што адзін чалавек зрабіў такую колькасьць карцінаў, падобных адна на адну і хацеў паглядзець на таго, хто гэта ўсё зрабіў. Мы усе разам зарагаталі, мабыць аднесьлі ягоныя словы, за крытыку п'янага чалавека. А на самой справе, творы сапраўды былі зробленыя на адзін твар, быццам-бы іх маляваў адзін мастак.*

Мой змаёмы праводзіў мяне з графічнай выстаўкі на вольнае паветра. Адразу неяк лёгка ўздыхнулася і разам зьніклі тыя, скажам прама, цяжкія ўражаньні ад змрочанай графікі.Мы разьвіталіся прыўзняўшы капялюшы, як гэта калісьці рабілі дарослыя, калі я быў яшчэ юнаком. Традыцыя гэтая яшчэ доўга трымалася, але толькі паміж старэйшым, але тут, за «мяжою», усё засталося па-ранейшаму.

Хутка іду ў гасьцініцу. Бяру свае рэчы і на вакзал. У касе нешта зьмянілася, кажуць: «Бярыце білет да Каўнасу, адтуль возьміце білет на Менск». Чаму так? Гэта-ж яшчэ 100 кіламетраў далей ад Вільні на Захад. Раблю як кажуць. У вагоне, калі прайсьці па калідоры ўздоўж чуецца расейская мова і нейкія словы, якія падобныя на тыя, што казалі ў Петраградзе, дзе мы былі разам з братам у сірацінцы, у 1921-1923 гадах.

(Працяг у наступным нумары)



На здымку: зьлева-направа: Пётра Сяргіевіч. ?, Вітаўт Тумаш, Чэслаў Будзька.
Фота з архіва Будзькаў

# *Віленскія беларусы расказваюць...*



Сьвятлана Белая

У 80-х гадах, калі бацька пачаў зьбіраць мастацкую калекцыю па Скарыніяне, сталі зьяўляцца ў нашай хаце кнігі, артыкулы, брашуры прысьвечаныя Скарыне, выдадзеныя беларусамі Замежжа. Сярод іх асабліва ўразілі мяне «Запісы» № 5 Беларускага Інстытута Навукі й Мастацтва» , якія поўнасьцю прысьвечаліся Скарыніяне. Па-сутнасьці гэта было маё перашае знаёмства з навуковай спадчынай нашых суайчыньнікаў. І нават кароткі прагляд іхніх навуковых працаў («Запісы» літаральна пераходзілі з рук у рукі і амаль не ляжалі ў хаце. Памятаю, калі навукоўцу М. Батвіньніку, трэба было зрабіць для сваёй працы нейкія вытрымкі з кнігі, ён, так і не дачакаўшыся сваёй чаргі на «Запісы», прыйшоў працаваць да нас у хату, пакуль кнігу не забраў нанач нехта іншы), паказала, што іх пісалі выдатныя дасьледчыкі. Пад уражаньнем прачытанага ў «Запісах», я запісала ў свой нататнік: «У Амэрыцы, у галіне Скарыніяны працуюць два буйныя спэцыялісты беларусы: Вітаўт Тумаш і Сымон Брага. Якое-ж было маё зьдзіўленьне, калі ўжо ў Амэрыцы, я даведалася, што аўтары тых грунтоўных працаў аб Скарыне — адна і тая-ж асоба.

—Чаму Вы выбралі сваім псэўданімам імя Сымон Брага?— аднойчы запыталася я доктара Тумаша. Мы толькі што скончылі нашую чарговую размову пра Віленскую Беларускую гімназію і доктар, крыху стаміўшыся, пэўна, спадзяваўся на адпачынак. Але нейкія ўспаміны, што імгненна прамільгнулі ў памяці, неяк ажывілі ягоны твар.

—Гэта даўняя гісторыя, —адказаў ён. — Яе пачатак зь Беларускай Віленскай гімназіі. Потым, крыху памаўчаўшчы працягваў:

Перад уваходам у гімназію разьмяшчалася адна з старажытнейшых праваслаўных сьвятынь Вільні Троіцкая царква. Выйдзеш з ганку гімназіі і можаш адразу трапіць у храм Божы. Калі я быў гімназістам, я часта заходзіў туды. Царква была пабудаваная пры падтрымцы праваслаўнай супругі князя Альгерда у сьвятой рошчы, дзе былі закатаваныя віленскія мучанікі Антоній, Іан і Евстафій. З цягам часу, гэтая мясьціна пачала засяляцца выключна праваслаўным насельніцтвам Вільні і ў 1514 годзе на месце драўлянай царквы была пабудаваная каменная. Пры

св. Троіцкай царкве існаваў манастыр, які спачатаку быў таксама драўляны, але ў1620 г пры пераходзе ў вунію базільяне пабудавалі каменныя будынкі. У час пажару 1706 г., калі было зруйнавана амаль ўся Вільна, пагарэла і Троіцкая царква. Яна адбудована па-сутнасьці нанава, аднак захавала формы вонаквага і унутранага аздабленьня старой царквы. Царква і манастыр былі вядомымі ў Вільні. Адзін час настаяцелям манастыра быў Ісафат Кунцевіч, які быў пераведзены з Троіцкага манастыра на Полацкую вуніяцкую кафэдру, дзе за сваю палітыку і загінуў.

Мяне цікавіла ўнутранае аздабленьне царквы. Я часта прыходзіў, каб лепш разглядзець яе шматлікія іконы, бо акрамя асноўнага алтара, было 9 малых. Аднойчы, аглядаючы царкву, я пабачыў на сьцяне, з правага боку бронзавую дошку, на якой у старажытнабеларускай мове было выбіта : «Тут пахаваны бурмістр места Вільня Брага». Ні імя, ні даты, нічога больш не было. Але некалькі словаў, напісаных на нашай спрадвечанй мове, настолькі ўразілі мяне, што я запомніў іх на ўсё жыцьцё.

Калі для сваёй працы мне трэба было выбраць псэўданім, я, ў памяць аб той падзеі, ўзяў імя Сымон Брага.

Я хацела спытаць доктара, а навошта яму наогул быў патрэбны псэўданім. Няўжо яшчэ не прайшоў страх тых часоў, калі ўсе «іншадумцы» мусілі хаваць сваё імя за псэўданімамі, каб не трапіць пад махавік сталінскай машыны. Але, перагортваючы «Запісы», якія амаль што напалову складаліся з працаў В. Тумаша, Сымона Брагі, Б. С., зразумела, што інакш др. Тумаш з-за сваёй сьціпласьці проста ня мог. Ён таму і іншыя псэўданімы завёў: Рыгор Максімовіч, Р.М, А.Багровіч,каб хоць крышку разгрузіць тую нагрузку, якая выпадае на ягонае імя.

—А колькі вашых твораў належыць пяру Сымона Брагі? —Запыталася я Вітаўта Тумаша пасьля невялічкага экскурса ў гісторыю.

—Усё, што знойдзеце, Вашае, -- жартую чы адказаў доктар. Ён толькі крышачку прыадчыніў мне заслону таямніцы Сымона Брагі, прапануючы далей самой шукаць адказы. У той вечар у Тумашэўскай бібліятэцы я знайшла многія творы Сымона Брага. Ніжэй мы друкуем іх.

### *Асобныя выданьні-адбіткі:*

1. «Доктар Скарына ў Маскве» (1963, 32 б.)
2. «Лякалізацыя жыцьцяпісу доктара Скарыны» (1965, 40 б.)
3. «Міцькевіч і беларуская плынь польскае літаратуры» (1957, 32 б.)
4. «Пытаньне імя доктара Скарыны ў сьвятле актаў і літаратуры» (1967, 40 б.)

### *Артыкулы, зьмешчаныя ў зборніках, часопісах, газэтах:*

5.Нашыя казкі. Беларуская народная культура. Ватэнштэт, 1946, Укл. Ч.Будзька

6.Балцкі элемент пры паўстаньні сучаснага беларускага народу. (Баявая Ускалосьць, 1950).

7.Пачатак друкарства ў Беларусі. (Бацькаўшчна, 1950, № 64, 1951, № 65).

8.Кароль Альбрэхт і Скарына. Дакумэнты зь Дзяржаўнага архіву ў Каралеўцы. (Запісы БІНіМ, 1953, № 2(4), 6).

9.Сымон Будны. (Беларуская моладзь, № 15).

10.Скарына ў Падуі. (Беларуская моладзь № 16).

11.Рэцэнзія на: М.А; А.Алексютовіч —

Скарына, яго дзейнасьць і светапогляд, 1958, (Запісы, БІНіМ, кн1, 1962)

12.Доктар Скарына ў Маскве. (Запісы, кн 2, БІНіМ, 1963)

13.Партрэты доктара Скарыны. (Конадні № 7, 1963)

14.Геаграфічная лякалізацыя жыцьцяпісу Доктара Скарыны. (Запісы БІНіМ,кн 3,1964, такасама адбітка гл.2)

15.Рэцэнзія на: Е.Нимировский —Возникновение книгопечатания в Москве. 1964, (Запісы, кн 3, БІНіМ, 1964)

16. Рэцэнзія на: И.Н.Голенищев—Кутузов —Гуманизм у восточных славян. 1963, (Запісы, кн 3, БІН[М, 1964)

17.Пытаньне імя доктара Скарыны ў сьвятле актаў і літаратуры. (Запісы, БІНіМ, 1966, кн 4, Таскама адбітка гл. 1)

18.Рэцэнзія на: А.А. Сидоров — Узловые проблемы и нерешенные вопросы истории русского книгопечатания. 1964. (Запісы, БІНіМ, 1966, кн 4)

19.Доктар Франьцішак Скарына. (Запісы, кн. 5, БІНіМ, 1970)

20. Беларускаму Календару 450 гадоў. (Беларус, 1972, № 188)

21.Угодкі друку беларускай зямлі. (Беларус, 1972, № 186)

22.Паленьне кніг Скарыны ў Маскве. (Запісы, № 12, БіІНіМ, 1974)

23.Доктар Ф. Скарына й кароль Фердынанд. (Запісы, БІНіМ, 1988, № 18).

24.Рэцэнзія на: Францыск Скарына, Прадмовы й пасьляслоўі. Акадэмія навук БССР, Інстытут літаратуры. Мн., 1969. (Запісы, БІНіМ, № 12, 1974.

25.Рэцэнзія на: История книги и книговедение: Программа курса для библиотекарских факультэтов институтов культуры М., 1973. (Запісы, БІНіМ, № 14, 1976).

26. Рэцэнзія на: Подокшин С.А; Скорина и Будный: Очерк философских взглядов Мн., 1974 (Запісы, БІМіН, № 14, 1976).

27. Рэцэнзія на: Начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. Жизнь и деятель ность Франциска Скорины: Описание изданий и указатель литературы 1517-1977 гг. Сост. Е.Л.Немировский.М., 1978. (Запісы, БІНіМ, № 16, 1978)

28.Рэцэнзія на: Е.Л. Немировский. Начало славянского книгопечатания. 1971. (Запісы, БІНіМ, №12, 1974

29. Рэцэнзія на: Е.Л. Немировский. Начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. (Запісы, БІНіМ, № 16, 1978)

### *Артыкулы за подпісам Б(рага) С(ымон):*

30. Юбілей беларускага друку. (Запісы, кн 5, 1970).

31. Угоднкі друку ў беларускай СССР (Запісы, кн 5, 1970).

32. 425 год ад сьмерці доктара Скарыны (Беларус, Нь Ёрк, 1965, № 104-105).

33.Паштовыя маркі БНР, сэрыя 1918 году (Беларус, Нь Ёрк—Таронта, 1965, № 948).

34.Біблія Скарыны ў Лёндане (Запісы БІНіМ, кн 1(5), Ню Ёрк, 1954).





# Віленская Беларуская гімназія

 Вітаўт Тумаш 

Гісторыю ў Віленскай Беларускай гімназіі выкладаў Вінцесь Грышкевіч. Калісьці ён таксама вучыўся ў Віленскай Беларускай Гімнзіі, а пасьля яе заканчэньня паехаў працягваць асьвету ў Прагу. У той час ( пачатак 20-х гадоў) паміж Вільняй і Прагай існавалі доўрыя палітычныя сувязі. Чэхі запрашалі на вучобу у свой унівэрсытэт нейкую частку беларускіх, украінскіх, расейскіх студэнтаў. Шмат хто зь беларусаў скончыў Пражскі унівэрсытэт. Беларускія студэнты нават мелі ў Празе свой саюз, які часамі друкаваў аднаразавыя рукапісныя часопісы.



В. Грышкевіч

Як малады выкладчык , у якога былі сьвяжы ў памяці студэнцкія гады, В. Грышкевіч выкарыстоўваў у сваёй мэтодыцы элемэнты лекцыяў унівэрсытэтаў. Аднойчы ён прапанаваў гімназістам напісаць рэфэраты на розныя гістарычныя тэмы. Мне дасталася эпоха Рэнесансу.

Я не памятаю ўжо дакладана, якую літаратуру я выкарыстоўваў пры падрыхтоўцы рэфэрата, але адзін падручнік запомніў. Гэта была «Гісторыя Беларускай літаратуры» Гарэцкага. Кніга, у якой можна было знайсьці адказ амаль на любое пытаньне. Рэфэрат я напісаў невялічкі, усяго на 5 бачынак. Але Грышкевіча ён чамусьці ўразіў і таму, у час вурока, ён загадаў мне сесьці за настаўніцкі стол і зачытаць свой рэфэрат для усёй клясы. Як растлумачыў пазьней нам Грышкевіч, ён хацеў паказаць прыклад, як трэба рабіць навуковыя працы. З таго часу я зацікавіўся пэрыядам Рэнесансу, эпохай культурнага Адраджэньня. Стаў шукаць літаратуру, у любых мовах, прысьвечаную гэтаму пэрыяду.

Потым гэтая зацікаўленасьць, перарасла на эміграцыі ў захапленьне. У Нью Ёркскай публічнай бібліятэцы ёсьць вельмі добры славянскі аддзел, у якім багата рэдкіх выданьняў. Пасьля другой сусьветнай вайны бібліятэчныя супрацоўнікі добра папрацавалі, зьбіраючы параскіданую па сьвеце літаратуру ня толькі ў расейскай, але і беларускай, польскай, украінскай мовах. Уся яна цудоўна скаталягаваная. І таму, жывучы ў Амэрыцы, я меў мажлівасьць займацца вывучэньнем Скарыніяны і гісторыі беларускай літаратуры.

Беларускую літаратуру ў малодшых клясах выкладаў М. Заморын, а ў старэйшых Антон Луцкевіч.



М.Заморын

(Працяг. Пачатак ў № 3(13))

Антон Луцкевіч ня меў спэцыяльнай унівэрсытэцкай адукацыі. Ён праслухаў поўны курс фізіка-матэматычнага факультэта ў Пецярбургскім універсытэце, але дзяржаўных экзаменаў не здаваў. Пасьля шэсьць сэмэстраў вывучаў права ў Дорпацкім унівэрсытэце.Быў ён вельмі адукаваным і разнастайным чалавекам адраджэнцам, і усё ягонае аблічча выпраменьвала адраджэнцкі дух.



А. Луцкевіч

Лекцыі Антона Луцкевіча насілі камэрцыйны характар. Ён часта чытаў даклады, тэмы якіх нельга было знайсьці ў тагачасных падручніках. Памятаю ягоныя цудоўныя прамовы, прысьвечаныя творчасьці Купалы і Коласа, спэцыяльныя лекцыі «Вільня ў беларускай літаратуры», «Жыды ў беларускай літаратуры»

*Жонка Антона Луцкевіча Зоф'я, вельмі прыгожая і адукаваная жанчына, была па нацыянальнасьці жыдоўкай. Яна нейкі час працавала лекаркай, потым выхоўвала дзяцей. Калі фінансавае становішча Антона Луцкевіча сталася вельмі дрэнае, ён уладкаваў яе ў гімназіі. Два разы на год яна рабіла мэдычны агляд гімназістаў. І вось, калі ў сувязі з разгромам Грамады Луцкевіча арыштавалі, яна засталася адна з малымі дзяцьмі на руках без усялякага заробку, матэрыяльнай і маральнай падтрымкі. Шукала яна працу, але безвыняткова. У Вільні наогул ў тыя часы было складана знайсьці працу, а тут яшчэ для жанчыны, муж якой сядзіць за кратамі. Значнае нэрвовае ўзрушаньне ўзмацьнілася яшчэ больш, пасьля таго, як увосень віленская пракуратура накіравала ў апэляцыйны суд пратэст супраць адпраўданьня Луцкевіча судом першай інстанцыі. Нэрвы накаляліся па меры набліжэньня апэляцыйнага працэсу, які пачаўся 28 лютага 1929 г. Зоф'я Луцкевіч не магла дачакацца канца разгляду справы і, поўная страху перад няпэўнай будучыняй, 5 сакавіка застрэлілася.*

*У дзень яе пахаваньня дырэктар нашай гімназіі вызваліў ад заняткаў наш кляс, для жалобнай працэсіі. Я таксма ішоў за гробам зь целам нябожчыцы Пахавалі Зоф'ю Луцкевіч на жыдоўскім могільніку, хаця яна з жыдамі ў кантакце не была, весь час зь беларусамі. Абрад пахаваньня быў выканаены па-гэбрэйску.*

Пасьля суду Луцкевіч у нашым клясе больш не выкладаў.

4 чэрвеня 1930 году Луцкевіч атрымаў паведамленьне Бацькоўскага Камітэту Віленскай Беларускай гімназіі.

«Прымаючы пад увагу, --адначалася ў ім,— што сучасны Дырэктар Віленскай Беларускай Гімназіі грам. Р.Астроўскі даў сваю згоду поўніць абавязкі Дырэкатара Гімназіі толькі на 1929-1930 школьны год і дагэтуль справа дырэктарства ў гімназіі на наступны школьны год яшчэ ня вырашана, Бацькоўскі Камітэт, як канцэсіянэр В.Б.Г.,

гэтым лічыць сваім абавязкам паведаміць Вас, што ня можа ўзяць на сябе адказанасьці за склад вучыцельскага пэрсаналу гімназіі ў наступным школьным годзе і дзеля гэтага папераджае Вас, што з днём 1. УІІ. 1930 г. Вы можаце сябе лічыць вольнымі ад спаўненьня абавязку вучыцеля ў В.Б.Г.».[1]

Р.Астроўскі хутка падшукаў замену А.Луцкевічу, у асобе Алены Сакаловай. Але ў 1930 годзе Луцкевіча з працы ня звольнілі. Ён яшчэ адзін год працаваў у гімназіі.

Пасьля Луцкевіча з намі нейкі час працавала Алена Сакалоўская, пасьля яе — прафэсар Ігнат Дварчанін, аўтар «Хрэстаматыі новай беларускай літаратуры ад 1905 г.)», вядомы дасьледчык Скарыніяны. Яго доктарская дысэртацыя, якую ён абараніў у Карлавым Унівэрсытэце ў Празе ў1926 г. называлая «Францішак Скарына, як культурны дзеяч і гуманіст на беларускай ніве».


Ігнат Дварчанін

Хаця Антон Луцкевіч больш і не выкладаў у нас, я сустрэкаўся ў зь ім у Беларускім Музэі, пры якім было арганізаванае Беларускае навуковае таварыства, старшынём якога быў ён. У Таварыстве зьбіраліся ня вучнёўская аўдыторыя, а больш салідная публіка. На ягоных паседжаньнях чыталіся даклады і рэфэраты, адбываліся дыспуты. Сьвяткавалі мы ў Таварыствы і ўгодкі Скарыны. Даклад пра дзейнасьць вялікага вучонага і друкара чытаў Тарашкевіч.

Беларускае навуковае таварыства выдала некалькі «Гадавікоў»—зборнікаў, у якіх былі сабраныя матэрыялы па гісторыі, культуры Беларусі. Антон Луцкевіч таксама пісаў туды сваі артыкулы. Аднойчы я зайшоў з нейкай нагоды ў музэй. Луцкевіч, нешта рабіў у гэты час, але працу прыпыніў і пачаў з мною гаворку. Ён сказаў, што зьбіраецца выдаваць зборнік навуковых артыкулаў і рыхтуе ад яго артыкулы. Зборнік будзе называцца «Запісі Беларускага навуковага таварыства».

—А не лепей-бы назваць яго не «Запісі», а «Запісы», — прапанаваў я. «Запісі» гучыць неяк па-расейску .

Луцкевіч ідэю гэтую падхапіў адразу.

—Так, кажа, трэба назваць «Запісы».

Так і «Запісы» і выйшлі ў сьвет. Здаецца, у іх друкаваліся лісты Багдановіча, якія захаваліся зь асабістай перапіскі Луцкевіча зь беларускім паэтам і некаторыя Багдановічаўскія творы. Пасьля гэтыя лісты перадрукоўваліся ў Менску, але імя Луцкевіча, які на той час быў забароненай для савецкай цэнзуры асобай, было выкрэслена.

Вось ад тых, Луцкевічаўскіх «Запісаў», можна сказаць, і пайшлі на эміграцыі «Запісы» Беларускага Інстытуту Літаратуры й Мастацтва.

(Працяг будзе)

---

1. А.Сідарэвіч. З жыцьця Антона Луцкевіча. ЛіМ,1 лютага 1991 г. ст. 13

# 1993 год — Год беларускай мовы

*Ліст клюба «Спадчына» да Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь*

Сябры культурна-асьветніцкага клюба «Спадчына» зьвяртаюцца да Вас з гэтым лістом, каб засяродзіць Вашую ўвагу на наступным. Ужо больш за два гады дзейнічае Закон аб мовах. І што мы назіраем? Дзе беларускія школы, беларускія падручнікі, пашпарты ў беларускай мове? Бясконца доўжыцца гаворка аб стварэньні канцэпцыі нацыянальнай адукацыі. Аднак ні нацыянальнай школы, ні нацыянальнага выхаваньня ў рэспубліцы як не існавала, так і не існуе. Прыняцьцё Міністэрствам народнай адукацыі рашэньня аб скасаваньні зь пераліку безумоўных патрабаваньняў да выкладчыкаў пры праходжаньні атэстацыі такога пункту, як неабходнае валоданьне беларускай мовай, паказвае, што дзяржава не падтрымлівае мову народу, які стварыў яе і даў ёй імя. Дзе ў сьвеце, у якой краіне такое магчыма?

Мы жывем зараз у незалежнай дзяржаве. Неад'емным атрыбутам дзяржаўнасьці, такім жа як сьцяг, герб, уласныя грошы зьяўляецца і дзяржаўная палітыка, у прыватнасьці, ў галіне інфармацыі. Між тым прыходзіцца канстатаваць, што нашая дзяржава ня мае ўласнай інфармацыйнай службы. Няма нацыянальнага тэлебачаньня. Большасьць рэспубліканскіх пэрыядычных выданьняў, дзе Савет Міністраў зьяўлецца заснавальнікам, выдаюцца на расейскай мове, другія друкуюць па-беларуску адну толькі назву. Нягледзячы на запэўніваньне аб фінансавай падтрымцы беларускамоўнага друку, па-ранейшаму выданьні па гісторыі і культуры Беларусі маюць абмежаваныя мізэрныя наклады і не задавальняюць попыт чытачоў. Усё гэта, як і наяўны недахоп слоўнікаў і дапаможнікаў, ня кажучы пра спэцыяльную літаратуру, прымушае і надалей нашае грамадзтва на выкарыстаньне расейскай мовы або сурагату, трапна названага народам «дземяньцееўкай».

Таму гэта вымушае нас зьвярнуцца да Ураду Беларусі й ягонага Старшыні з заклікам — усьвядоміць сваю адказнасьць за лёс нашай мовы і пачаць на справе праводзіць моўную палітыку ў Беларусі.

Акрамя зьместу гэтай палітыкі немалое значэньне адыгрывае і форма, у якой гэтая праца будзе праводзіцца. Шырока вядома традыцыя, якой прытрымліваюцца як ЮНЕСКА, так краіны сусьветнай супольнасьці, праводзячы палітыку ў галіне культуры — наданьне каляндарнаму году найменьня, прысьвечанага вялікім здабыткам культуры, адметным постацям і падзеям гісторыі. Таму, зыходзячы з вышэй адзначанага, мы зьвяртаемся да Ураду з прапановай: абвесьціць 1993 год — **Годам беларускай** мовы. Той час, які застаецца, дазваляе распрацаваць на дзяржаўным узроўні адпаведныя навуковыя і мастацкія праграмы, якія павінны ўключаць, напрыклад, выдавецкую дзейнасьць, фэстывалі беларускай духоўнай і харавой музыкі, фальклёрныя сьвяты, стварэньне цэнтраў беларускай культуры. Нельга адкладаць надалей і рэформу беларускага правапісу. Усё гэта, а таксама шмат іншага, можа быць здейснена ў межах **Года беларускай мовы.**

Кожны чалавек мае сваю Радзіму. Працуючы ва ўмовах, маючага адбыцца рэфэрэндума, Урад Беларусі, кіруючыся адказнасьцю за лёс народу і яго нацыянальную будучыню .павінен выканаць і свой абавязак перад беларускім народам.

Старшыня клюба Анатоль Белы

ЗЬ ЖЫЦЬЦЯ ЭМІГРАЦЫІ

**BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.**

**Branch of Cleveland**
**3517 West 25th Street, Cleveland, Ohio 44109**
**Tel. (216) 749-5756, 781-7231**
FAX..NUMBER...216-621-1658



February 25, 1992

President George Bush
The White House, Washington, D.C.

Dear President Bush:

We Americans of Belarusian descent, ask your help for the 800,000 sick children or Belarusia suffering as the innocent victims of the Chernobyl catastrophe.

These helpless children are in dire need of medicines, vitamins, and food for their very survival.

Belarusia at this time is inder-going difficult economical hardship in which it's territories are contaminated with 70% of the radioactive fall-out from the Chernobyl disaster.

We implore your assistance, Mr. President, in helping to obtain aid for these desperate children of Belarusia.

Thank You,
Sincerely

Your, John Chanenka,President Belarusian-American Association

Reverend Michael Strapko, Mother of God of Zyrovichy Church,

Reverend Jacob Piruta, Mother of God of Zyrovichy Church

Serge Karnilovich, President Church Church Council, Mother of God of Zyrovichy Church.

Andrew Kononczuk, Vice-President,"Polocok", Belarusian-American Community Centre.

# Дзень маці ў Кліўлендзе

Штогод беларуская калёнія ў Кліўлендзе ўрачыста ўшаноўвае сьвята Маці, на якім выказваецца падзяка мацяркам за іхнюю вялікую ахвярную працу, як у сямейным, так і грамадзкім жыцьці калёніі. Сёлета парафіяльная рада Жыровіцкае Божае Маці ладзіла прыняцьцё 10 травеня.

Пасьля сьв. Літургіі быў адпраўлены малебен за беларускіх мацярок. У канцы службы прат.Міхась Страпко расказаў аб заснаваньні Дня маці ў Амэрыцы, падкрэсьліў, што беларускія маці шмат перажылі пры ўзгадаваньні сваіх дзяцей у часе вайны і за часы камунізму й пажадаў ім усяго найлепшага ды добрага здароўя. Іераманах Якуб зазначыў, што ў гэтым годзе Дзень маці зьяўляецца асабліва ўрачыстым, бо ён супаў разам зь вялікодным сьвятам Жанчын міраносіцаў. Іераманах а.Якуб таксама злажыў шчырыя пажаданьні мацяркам і іхнім сем'ям.

Затым у царкоўнай залі адбыўся пачастунак для мацярок, які падрыхтавалі мужчыны й іхнія дзеці. Гасьціннасьць прадаўжалася доўга пры добрым настроі. Усе маці (а іх было каля 40 асобаў), прыгожа апранутыя і ў вясёлым сьвяточным настроі не сьпяшаліся ісьці да дадому. У канцы сьвята старшыня парафіяльнай рады Сяргей Карніловіч прывітаў мацярок зь іхным днём, падзякаваў за іх самаахвярную працу ў калёніі ды пажадаў добрага здароўя у будучым. Кожнай маці былі падараваны прыгожыя веснавыя кветкі ў вазонах.

К.П.

# Парафіяльнае сьвята Жыровіцкае Божае Маці

прыгожа адзначалася 17 травеня ў царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе. На ягонае сьвяткаваньне прыехалі Ўладыка Мікалай, Прэзыдэнт Рады БНР Язэп Сажыч, госьці з Таронта і Дэтройта: Алесь Палескі, Кацярына Мазура, сп-я Бакуновіч, сп-ва Пляскачоў. Пасьля Сьв. Літургіі, якую адслужылі Уладыка Мікалай, пратаярэй а.Міхась, іераманах аЯкуб адбыўся хросны ход вакол царквы. Ікону Божае Маці, выкананую мастакам Янкам Салавянюк (гл. часопіс «Полацак« № 3 за 1991 г) несьлі Лёля Міхальчык і Лізабэт Макдэрмот. Потым ў царкоўнай залі ўсе прыхажане былі запрошаны на сьвяточны абед, у час якога адбылося ўрачыстае ушанаваньне ахвярнай працы ў Кліўлендзкай беларускай калёніі спадарства Стрэчыняў, якія шмат гадоў самааддана працавалі на карысьць беларускае калёніі.

Цёплае сяброўскае слова пра Вольгу й Андрэя Стрэчыняў сказалі Кастусь Калоша, Сяргей Карніловіч, а.Міхась Страпко.

З прамовай аб неабходнаьсці ахвярнасьці для беларускай справы выступіў Уладыка Мікалай. Ён таксама уручыў Андрэю Стрэчыню ганаровую грмату БАПЦ

Ад Жаночага камітэту з словамі ўдзячнасьці выступіла Тацьцяна Кананчук.

Ад імя царкоўнае рады і Жаночага камітэту спадарства Стрэчыняў было ўзнагароджана грашовымі падарункамі.

# Спадарства Стрэчыняў


Кастусь Калоша



Зьлева направа: Андрэй Стрэчын, Міхась Страпко, Алесь Барскі (Баршчэўскі).

Андрэй Стрэчын нарадзіўся ў вялікай сям'і Дзяміда й Ірыны Стрэчыняў ў вёсцы Лахва, што недалёка Лунінца, 9 ліпеня 1916 г. Ягоны бацька быў земляробам і меў даволі вялікую гаспадарку. Паколькі было ў сям'і 10 дзяцей : 8 сыноў і дзьве дачкі,— дык ня ўсе дзеці змаглі працаваць на гаспадарцы. Некаторыя мусілі пайсьці на іншыя працы. Андрэй таксама пайшоў на свой хлеб. Стаў будаўніком і пачаў будаваць хаты ды школы.

Вольга нарадзілася 18 лютага 1922 г. ў гэтай-жа самай вёсцы, што й Андрэй, у сям'і Рыгора і Аляксандры Кот. Сям'я яе была таксама вялікая, 8 дзяўчат, а гаспадарка малая.

У 1939 г. Андрэй і Вольга ажаніліся. Першы сын Міхась нарадзіўся ў 1940 годзе, а другі, Мікалай, у 1944 г. Калі нямецкая армія адступала на захад, сям'я Стрэчыняў, як многія іншыя з гэтай ваколіцы, выехалі ў Заходнюю Нямеччыну й пасяліліся каля Ляйпцыгу, дзе і нарадзіўся трэці сын Віктар.

У 1945 годзе Андрэй выехаў у Бэльгію, а пазьней перавёз туды і сям'ю. Ён дастаў працу ў капальні вугля. У гэты час у Бэльгію пачалі зьяжджацца беларусы зь іншых краінаў. Прыехалі ў Лювэнскі ўнівэрсытэт студэнты, кампазытар Мікола Равенскі. У 1950 годзе разам заклалі беларускую арганізацыю, мужчынскі хор і пачалі праводзіць нацыянальную працу, ладзіць мастацкія выступленьні. Сям'я Стрэчыняў далучылася да гэтай арганізацыі, гэта была іх першая актыўная грамадзка-нацыянальная праца на эміграцыі.

У 1955 г. сям'я Стрэчыняў пераехала ў Амэрыку й пасялілася ў Кліўлендзе. Заахвочаныя грамадзкай працай ў Бэльгіі, спадарства Стрэчыняў адразу далучылася да ўсіх арганізацыяў кліўлендзкай беларускай калёніі. У тут, у Кліўлендзе існавалі арганізацыі, пачынаючы ад 1950 г. З таго часу і па сёняшні дзень Андрэй і Вольга Стрэчыні безь перапынкаў, шчыра й ахвярна працавалі на карысьць беларускай калёніі ў Кліўлендзе.

Найбольш ахвярнай працы Андрэй і Вольга уклалі пры будаўніцтве парафіі Жыровіцкае Божае Маці, Беларускай Аўтакефальнай Царквы. Пачалі яны з пара-

фіяльнага дома, дзе Андрэй шмат працаваў пры адбудове й пашырэньні падвалу, які ужывалі кліўлендцы для першых зборак і імпрэзаў. Потым праз цэлы час праводзіў у хаце рамонты, як у сярэдзіне, так і на вонках.

Маючы практыку ў будоўлі хатаў, найбольшую працу Андрэй Стрэчын паклаў пры будоўлі царквы ў 1958-1960 гг. Пад яго кіраўніцтвам і пры асабістым удзеле былі зробленыя кровы і пастаўлена страха, затым пабудавана башня — купал царквы, залітыя цэмэнтовыя сходы пры ўваходзе і ў падвал У сярэдзіне храма зроблена падлога у алтары, іканастас, пастаўлены дзьверы, сходы на хоры й у падвал. У царкоўнай залі падвалу пабудавана сцэна й адгароджана кухня.

Праз цэлы час Андрэй праводзіў у царкве рамонты. Даглядаў за царкоўным пляцам: ставіў платы, касіў траву, чысьціў 'сьнег.

Вольга прыймала меншы ўдзл у будоўлі, але яна заўсёды была прысутная й дапамагала Андрэю. Чысьціла, малявала, працавала на кухні пры на кожнай імпрэзе. У адміністрацыйнай галіне Аднрэй амаль праз цэлы час быў сябрам у парафіяльнай радзе, а найбольш заступнікам старшыні. Андрэй і Вольга ніколі не прапусьцілі ніводнай імпрэзы, што ладзіліся ў царкоўнай залі, і ніводнай царкоўнай службы, за выняткам, толькі калі выяжджалі з гораду.

Багата працы спадарства Стрэчыняў уклала ў грамадзкі цэнтр «Полацак». Яны працавалі на будоўлі будынкаў для пікнікоў, кватэраў. Андрэям былі зробленыя печкі для смажаньня парсюкоў, вяндлярня. Ён увесь час быў сябрам камітэту грамадзкага цэнтру «Полацак».

Андрэй і Вольга Стрэчыні прымалі актыўны удзел у працы Беларускага Амэрыканскага Задзіночаньня, у ладжаньні розных імпрэзаў, сакавіцкіх угодкаў, сустрэчаў, пікнікоў, дэманстрацыяў. Андрэй доўгі час быў сябрам камітэту аддзелу БАЗА ў Кліўлендзе.

Таксама належыў ён да аддзелу Беларуска-Амэрыканскіх вэтэранаў і заўжды прымаў актыўны ўдзел у ладжаньні ўгодкаў Слуцкага паўстаньня.

Быў Андрэй Стрэчынь і кіраўніком групы сяброў Беларускае Народнае Рады (БНР) доўгі час рабіў падпіску і распаўсюджваў газэту «Беларус» сярод беларусаў Кліўленду.

Вольга належала увесь час да аддзела Жаночага Задзіночаньня. Дапамагала ў арганізацыі пікнікоў, базараў, выставак. Доўгі час разам з Андрэям працавалі «на варэніках», якія зьяўляюцца добрай фінансавай дапамогай для беларускіх арганізацыяў.

На працягу 36 гадоў Андрэй і Вольга Стрэчыні ўклалі шмат вялікай ахвярнай працы на карысьць нашай калёніі. Царкоўная рада прыхода Жыровіцкае Божае Маці пастанавіла падзякаваць і ўшанаваць Андрэя й Вольгу Стрэчыняў за іх шматгадовую адданую працу, з сувязьзю з адыходам на пэнсію.

Іхнія праца паспрыяла ня толькі разьвіцьцю беларускай калёніі ў Кліўлендзе, але агульнай беларускай справе на карысьць Бацькаўшчыны.

# Навіны з Чыкага

Агульны справаздачны гадавы сход парафіі «Сьвятога Юрыя» ў Чыкага, адбыўся 15 сакавіка 1992г. Сход быў прызначаны таксама вырашыць пытаньне адносна адзначэньня 35-гадовага юбілею, які прыпадае на наступны год.

У сваёй прамове выконваючы абавязкі старшыні царкоўнай Рады М.Каленік паведаміў, што рамонт царквы пад кіраўніцтвам Уладзіміра Мельнічыка, Мікалая Латушкіна й Аўгена Макарэвіча закончаны. У фінансавай справаздачы прагучалі наступныя лікі: прыбытак -$29. 956, выдаткі-$:25. 231.У касе з папярэдніх гадоў засталося $ 49. 978. У спэцыяльным фондзе на пабудову царквы маецца $134. 209. Сход даў абсалюторым з падзякай царкоўнай радзе і выбраў новую у складзе: Алесь Шышка —старшыня , Мікалай Латушкін -сакратар , Анатоль Новік-заступнік старшыні, Міхась Каленік-заступнік старшыні , Даніла Шфэфаль сябра , Мікалай Валатоўскі —старшыня «Будавальнага фонду», Аўген Макарэвіч -арганізатар культурых імпрэзаў, Пётар Каленік -сябра, Кастусь Пуп-царкоўны стараста.



24 травеня ў царкоўнай залі сьв. Юрыя адначалі 50-годзьдзе Беларуска-Амэрыканскае Нацыянальнае Рады. З Нью Ёрку прыехалі на сьвяткаваньне: амбасадар Рэспублікі Беларусь пры ААН Генадзь Бураўкін з жонкай Юляй, жонка беларускага консуля Эма Сакалоўская. Ад беларускага асяродка ў Саўт Рывэр: Віталь Цярпіцкі, Міхась Сенька, і Леў Высоцкі, ад беларускага асяродку ў Кліўлендзе Сьвятлана Белая, Міхась Белямук і Славік Карніловіч, ад Рады БНР Язэп Сажыч, з шт. Мічыган Мікола Прускі. Прынялі ўдзел госьці з Бацькаўшчыны, прадстаўнік БНФ Сяргей Мурог і старшыня Згуртаваньнян «Бацькаўшчына» Аўген Лецка.

Акадэмію адчыніў М.Каленік як старшыня БАНР. Вёў акадэмію М.Латушкін, які прадставіў гасьцей і папрасіў Міхася Белямука зачытаць даклад.

М.Белямук расказаў, што калі аб дзейнасьці БНАР даведаліся ў Маскве, то даручылі Кузьме Кісялёву павядоміць сябраў БАНР аб сытуацыі ў Беларусі, каб яны, калі наступіць камітуляцыя Нямеччыны, не аказывалі дапамогі беларусам, бо тыя нямецкія калябаратны. Аднак, нягледзячы на стараньні К.Кісялёва, БАНР шмат каму дапамагла прыехаць у Чыкага.

Г.Бураўкін прывітаў словамі: «Такі лёс чалавека, што над галавой неба, а пад нагамі зямля.Чалавек, калі пад нагамі роднай зямлі не мае, ён яе павінен мець у сэрцы. Вось тыя, хто заклада ў БАНР мелі ў сэрцы беларускую зямлельку зь яе жыхарствам, гарадамі і вёскамі, лясамі і палямі. Любоў да Бацькаўшчыны мелі тыя, хто прыехаў пазьней, стаў сябрам і спрычыніўся разьвіцьцю арганізацыі.» Г.Бураўкін расказаў таксама аб сёняшняй палітычнай сытуацыі ў Беларусі, адказаў на пытаньні, а таксама перада ў кіраўніцтву парафіі падарункі.

З прывітаньнямі выступалі: А.Лецка, С.Мурог, М.Сенька, В.Цярпіцкі, М.Прускі, В. Вярбоўская, Я.Сажыч, А. Шышка. Акадэмія закончылася адсьпяваньнем беларускага на цыянальнага гімну. На сьвяце прысутнічала багата моладзі, што дае падставу спадзявацца, што арганізацыя БАНР не памрэ, што яна яшчэ будзе сьвяткаваць сваю 75 гадавіну.

# Калі Вашыя сваякі або сябры жывуць ў ЗША

## яны могуць падтрымаць Вас матэрыяльна ў гэты цяжкі час.

Вашыя сваякі і сябры могуць заказаць для Вас праз кампанію B.I.G. Trading Corporation лепшыя ўзоры тэхнікі вытворчасьці былога СССР: каляровыя тэлевізары, халадзільнікі, радыёпрыёмнікі, відэамагнітафоны, мікрахвалевыя печы, пральныя машыны, мэблю, посуд, вырабы з шкла і хрышталь па цэнах, якія значна таньней чым на амэрыканскім рынку.

У B.I.G. Trading Corporation Вашыя сваякі могуць купіць для Вас:

| | |
|---|---|
| **Каляровы тэлевізар «Рэкорд» ВЦ-381Д або «Электрон»** | $ 170.00 |
| **Халадзільнік «Зил» або «Мир»** | $ 180.00 |
| **Пральную машыну «Малютка»** | $ 90.00 |
| **Кароткахвалевы радыёпрыёмнік** | $ 80.00 |
| **Відэамагнітафон** | $ 170.00 |
| **Мікрахвалевую печ** | $ 85.00 |

Усе прыборы працуюць на 220 вольт.
Таксама яны змогуць замовіць у B.I.G. Trading Corporation для Вас:

| | |
|---|---|
| Мэблю: **гасьцінны, спальны, кухонныя гарнітуры** | **ад $ 250.00 да $ 350.00** |
| **Фарфоравы, шкляны посуд і хрышталь** | **ад $ 100.00 да $ 150.00** |

B.I.G. Trading Corporation гарантуе дастаўку данага тавара на працягу 2-3 тыдняў, а таксама ўсталяваньне яго і гарантыйны рамонт на працягу 1 году.

Праз B.I.G. Trading Corporation Вашыя сваякі і сябры змогуць адправіць пачку з новай і ўжыванай адзежай, абуткам па самай нізкай цане— 1 доляр 25 цэнтаў за кожны фунт весу. Вы атрымаеце Вашую пачку на працягу 6 тыдняў.

*Калі Вашыя сваякі або сябры жывуць ў ЗША і хочуць дапамагчы Вам, няхай яны зьвяртаюцца ў B.I.G. Trading Corporation па адрасу:*

**3301 Monroe Avenue**
**Cleveland, Ohio 44113**
**Tel. (216) 281-8341**



